*Светлае памяці мамы Куліны*

Мова тады родная, калі яна пачута ад маці, калі кожнае слова сагрэта сэрцам матчыным, калі кожны гук матчынай мовы з-пад матулінага сэрца.

Мама перадала мне найвялікшы дар — мову нашую крывіцкую з вушацкай падсветкай, з вушацкім прысмакам.

Мова Вушаччыны сягае да паганскіх каранёў і да біблейскага неба.

Мова Вушаччыны праветраная скразнякамі часінаў, пакумленая з мовамі суседзяў, у першую чаргу з балтамі.

Мова Вушаччыны ўвабрала ў сябе й задуменнасць незлічоных вазёраў, і развагу бароў, і шчырасрэбраны позван крыніцаў, які выпраўляюць у свет упаўнелыя рэкі й рачулкі.

У мове нашай хапае й цнатлівага, й скаромнага.

Вушацкія не дужа падкія на эўфімізмы, любяць называць усё сваімі імёнамі.

Гэта паганская традыцыя, у якой чысціня бачання свету.

Вушацкі словазбор — спроба сабраць за адным бяседным сталом хоць крышачку непераўзыдзенага шматгалосся роднае мне зямлі, шматгалосся, якое, на жаль, пачынае глухнуць.

Напісанне словаў у словазборы набліжана да вушацкага вымаўлення.

Калі запрашаў вушацкія словы на паперу, мне чуўся голас мамы Куліны, галасы маіх крэўных і блізкіх.

Гэта й сустрэча, й развітанне.

Гэта мой паклон да зямлі тым, хто пялегваў праз вякі нашае самабытнае слова.

Дзякуй табе, мама!

Дзякуй вам, мае родныя вушацкія людзі, якія не выракліся свайго!

З мяне,
Як камяні з зямлі,
Вушацкія выходзяць словы.
Яны ў мяне ўвайшлі
Змалі,
Каб іх ні ўроцы не ўзялі,
Снягі не замялі,
Дубровы
З сабою словы не звялі
У свой апошні шлях,
Калі
Іх зводзіць пачалі на дровы.
Гудуць, нібы раі ў вуллі,
Вядуць, як дома, перазовы,
Ідуць раллёй, як жураўлі.
Яны ратаі, й кавалі,
І хадакі ад мамы,
Словы
Вушацкія.
Іх кожны крок
Мой бачыць слых,
Мой чуе зрок.

**Абалонь** — кругляк, бярно без сарцавіны. *Доўга ляжала бярно, стрыжань выгніў, абалонь засталася.*

**Аб'еддзе** — аб'едкі. Ваўчынае аб'еддзе — пра дзеўку, якую шмат хто паспытаў. *Каму абедзе, а каму й аб'еддзе. На гэна аб'еддзе ваўчынае ніхто не пага́ліцца.*

**Аб'есці** — наесціся ўволю, сагнаць смак. *Аб'елі шчупакоў, язі будуць наставаць, тады ўжо іх пад'ядзём.*

**Абечая (абячэйка)** — сценкі рэшата (сіта). *Ты чыя, абе чая, нічыя, абы чыя* (хуткамоўка).

**Аб'ялдачыць** — абшальмаваць. *Нізавошта чалавека аб'ялдачылі, з гразёй змяшалі.*

**Абабраць** — прыбраць, угожыць. *Хата каберцамі ўся ababрана.*

**Абадвы** — двое мужчын. *Глядзелі абадвы, рот разінуўшы.*

**Абалынка** — хмурынка, аблачынка.

*Наняслі, Божа, абалынку,*
*Дай, Божа, нам адпачынку.*
*Дай, Божа, нам кугакала,*
*Каб часценька плакала.*
*А мы б селі, скалыхнулі, —*
*Сярдзінкі б адпачнулі.*

**Абарэц** — сетка лавіць рыбу. *Абарцом троху й налавілі.*

**Абасваі́цца** — асвойтацца, абвыкнуцца. *Дзікаватая была, а цяпер абасваілася, аббылася.*

**Аббіты** — дасведчаны, абчасаны жыццём. *Ты ж троху вопытны, аббіты малец.*

**Абвіднецца** — развіднецца, днець. *Абвіднелася — тады й рушылі ў дарогу.*

**Абгаркі** — абгарэлыя дошкі, бярвенцы. *Цягала з пагарышча абгаркі, хату лапіла, сенцы лапіла.*

**Абдаўжыцца** — залезці ў даўгі. *Ён прыехаў, яна карміла, паіла яго, абдаўжылася.*

**Абдзіртус** — той, на якім адзежа хутка рвецца. *На абдзіртуса адзежы не напасешся.*

**Абдужыць** — перамагчы, перасіліць. І *абдужыў яго тады.*

**Абжыцца (ажыцца)** — угрунтавацца, завесці гаспадарку. *Абжыўся, хатку сабе паставіў там.*

**Абзыў** — вясціна, водгук. *Ад яго й абзыву німа.*

**Абзыўкі** — водгулле, водгалас. *Яна ўжо разумеіць, абзыўкі якія ад матацыкла.*

**Абірыш** — тое, што засталося. *Адны абірышы засталіся. Лепшыя яблыкі ўсе павыбіралі.*

**Абкара́віць** — запэцкаць, вымазаць у нешта. *Пакуль з ямы вылез, увесь свой хворс абкаравіў.*

**Аблаў** — аблава. *І так на яго аблаў быў.*

**Абклікаць** — паклікаць, запрасіць. *Кажнага абыйшоў, абклікаў.*

**Абліваха** — дождж са снегам. *Такая абліваха, што кажух карыной зробіўся.* Яшчэ — слізгата. *Абліваха такая, што па дарозі толькі каціцца можна, павалішся — галавы не збярэш.*

**Аблітня** — бляшня. *Аблітня яна, раней не было купляных. Зробюць з драціны, аблюць волавам, і яна блішчыць, аблітаіць. Шчупака б'юць кукай, пасля аблітнёй аблітнююць рыбу.*

**Абнашчыцца** — нашча нешта з'есці, выпіць. *У хаце й абнашчыцца нечым. Песняй нашчыцца салавей.*

**Абніжацца** — зніжацца, нізка ляцець. *Ляціць самалёт, абніжыцца й давай страчыць.*

**Аборы** — вяровачкі падвязваць лапці, абвінаць анучы. *Лапці ды аборы — усе мае прыборы.*

*Бацька лапці сплёў*
*На святы Пакроў,*
*Матка аборы савіла,*
*На Прачыстую дала.*

**Абрамізіць** — зрабіць сорам, абразіць, прынізіць. *Абрамізіў на людзёх, каб сябе паказаць.*

**Абрамяніцца** — аперазацца рамянямі. *Стаў камісарам, дык абрамяніўся ад грудзей да калень.*

**Абрасець** — адсырэць на расе. *Нясі дамоў сянік, а то абрасеіць, атап'ецца.*

**Абратаваць** — выратаваць, уратаваць. *Баранілі-баранілі, алі карову абраталі.*

**Абруд** — абруч, вобад. *Абруд лопнуў, і клёпкі рассыпаліся. Сіта ўдарылася абрудом і падскочыла.*

**Абсадзіць** — сходаць, адолець. *Я чарак пяць абсадзіў.*

**Абсачаць** — калі ў дрэва спыняецца дужы прыліў соку. *Як станіць кара абсачаць, што можна адхінуць галінку, тады й шчапі яблыну.*

**Абсемяняць** — семяну садзіць. *Гарод абсемяняюць талакой, яна саўсім нямоглая.*

**Абсіліць рукі** — расцягнуць жылы, знясіліць. *За цэлы дзень абсіліла рукі.*

**Абстанавіць** — спыніць, паставіць. *Абстанавіла цябе колам.*

**Абхаіць** — прыбраць, прыхарашыць. *Хата зарасла, хай бы хату абхаіў, абчысціў.*

**Абціскаць** — ухутваць, шчытна ўкрываць. *Давай яго абціскаць, каб не замёрз.*

**Абціхацца** — сціхаць, сунімацца. *Толькі пачынаіць абціхацца, як новае насланнё.*

**Абчыха́цца** — прачыхацца, прасынацца. *Абчыха́юся назаўтра — нікога німа.*

**Абыдлець** — азвярэць, знелюдзець. *Абыдлеў чалавек, звер зверам.*

**Абыцца** — звыкнуцца, зжыцца. *Спачатку дамоў хочацца, а пасля абудзішся.*

**Абэлка** — адгаворка, спасылка на каго-небудзь, ускладанне віны. *Хто б што ні зробіў, а на яго ўся абэлка.*

**Абязгрошыць** — застацца без грошай, звесці грошы. *Абязгрошыла кума́, ку́ма ўжо даўно німа.*

**Абязручыць** — знясіліць рукі, застацца без падтрымкі. *Гладка абязручыў, а такі шчырун быў.*

**Абялёдаваць** — есці са смакам. *Так клёцкі абялёдваіць, аж нос упрысядкі йдзець, аж за вушамі скрыпіць.*

**Абярнуцца** — перакуліцца. *Воз абярнуўся, і ўсе ў балоце.* Яшчэ — зрабіцца. *Быў-быў чалавекам і чортам абярнуўся. Смятана вадой абярнулася.*

**Абярэмца** — ахапачак. *Хоць абярэмца прынясі, бо дроў у хаце ні паленца.*

**Абяссіліцца** — выбіцца з сілы. *Як абяссілюся, дык ня трэба буду нікому.*

**Абясхлебіць** — застацца без хлеба, звесці хлеб. *Памёр тата — абясхлібела хата.*

**Авад** — шмат аваднёў. *На кароў у паўдзён авад напаў, і яны ў гіз.*

**Авохці** — выклічнік. *Авохці, мне худа — свярбіць мая чуда.*

*Авохці мне,*
*Пяць на мне,*
*Шосты строчыць*
*І той хочыць.*

(Скрыпка, пальцы, смык.)

**Авясец** — дробны авёс, ласкава-памяншальная форма. *Во, колькі малькоў, якраз як авясец. Сажнём, дачушка, авясец, тады к табе Бог сватоў прынясець.*

**Авя́чына** — авечае мяса. *Лепі за любую прысмачыну воўк любіць авячыну.*

**Агада́ць** — агораць, прыдбаць, набыць. *Сяк-так пінжак агадаў, падняў троху сваե пархі.*

**Агаспадарыцца** — завесці гаспадарку, стаць гаспадаром. *Як нічога ня здарыцца, дык маладзён агаспадарыцца.*

**Аглабіць** (узяць у аглабкі) — прыняволіць, прымусіць. *Як возьмуць у аглабкі, скакаць не з рукі.*

**Адаробка** — дзябёлая, гладкая. *І Хадорына адаробка носіцца, як жаробка.*

**Адвадзець** — зрабіцца вадзяной. *Ежа, пакуль стаяла, гладка адвадзела.*

**Адгу́дзіць** — адгаварыць, адбіць.

*Ці я тваіх конікаў апудзіў,*
*Ці я тваю дзяўчыну адгудзіў?*

**Аддаць** — палягчэць, адлегчы. *Таблетку выпіў, трошку аддало.*

**Аддух** — перадых, адпачынак, супакой. *І галава аддуху патрабуіць.*

**Аджылы** — сталага, пахілага веку. *Чалавек ён ужо аджылы, за маладымі не ўгоніцца.*

**Адказваць** — завяшчаць. *Перад смерцю ўсё свайму першаму адказала.*

**Адкарапкацца** — адчапіцца, адкараскацца. *Ад гора ніяк не адкарапкаешся.*

**Адкінуць хвост** — захварэць, злегчы. *Работы з яе, як з мятлы лісця, троху папоркалася ў гародзі й хвост адкінула.*

**Адкрасці** — забраць назад потайна. *Міліцыянер забраў дудкі (самагонку гналі), а малец узяў ды адкраў іх.*

**Адкрэвіць** — адысці ад хваробы, папраўіцца, паздаравець. *Можа, я троху адкрэўлю ў бальніцы.*

**Аднавуры** — аднавокі (той жа корань, што і ў слове касавурыцца). *Шашок аднавуры, ды бачыць, дзе куры.*

**Аднакавы** — аднолькавы.

*Боты драныя мае,*
*Дома лакавыя.*
*А ці дзеўкі, а ці бабы —*
*Усе аднакавыя.*

**Адпасажыць** — адціснуць, адпрэчыць. *Нявестка мяне ад печы адпасажыла, усё сама робіць.*

**Адпасціць** — адкарміць, дагледзець. *Які конь гожы стаў, як яго адпасвіў.*

**Адпіцца** — пусціць ваду, адсырэць. *Дровы ў хаце ў цяпле адпіліся, не хочуць гарэць. За ноч лайно адпілося на дварэ, не высахла.*

**Адплакаць** — плакаць, бедаваць. *Колькі я адплакала па ім.*

**Адпойсаваць** — адлупцаваць. *Відаць, некалі поясам лупцавалі. За такое добра адпойсаваць варта, каб і дзесятаму заказаў.*

**Адпоўніць** — адсыпаць, адліць з поўнага. *Адпоўні бутэльку на пахмелак. Адпоўні бочку, а то круп з коптуркам.*

**Адпрог** — калі адпрагаюць коней з дарогі на пастой.

*Паедзем дамовачкі з гэтае няволічкі.*
*Нам дома лепі будзіць, конікам адпрог будзіць.*
*Сваточкам гарэлачка, Рыгорку паненачка.*

**Адпячы** — крыху спячы, збольшага. *Як на пасце на палцы бульбіну адпякуць, яна й смачная.*

**Адрадніцца** — адчурацца, ачужацца радні, адрачыся. *Неяк вы ўжо адрадніліся, ні на парог нагой.*

**Адрэчча** — непамыснасць, недарэчнасць. *Адрэчча нейкая выйшла з добрага намеру.*

**Адхлон** — перадых, спакой. *Піцую-піцую, й хвілінкі адхлону німа.*

**Адцэбрыць** — адагнаць, адпрэчыць. Даслоўна — прагнаць ад цэбра. *Адцэбрылі яго ад цёплага мейсца.*

**Адчыхвосціць** — даць прачуханца, вылаяць, прабраць. *Як адчыхвосцілі неслуха, дык шоўкавым стаў.*

**Адыйсці** — прапасці, знікнуць. *Ужо снег адыйшоў.*

**Адыходзіны** — адыход з гасцей, з дому. *На адыходзіны выпіць не шкодзіць. Казу падаіла на адыходзіны.*

**Ажавіны** — ажына. *Смачныя ажавіны, толькі збіраць калюча.*

**Ажамеры** — выціскі, асадкі, ападонне. *Можа, у цябе хоць якія ажамеры засталіся, галава кроіцца.*

**Ажыцца** — атайбавацца, звыкнуць. *Ажыўшыся тут і выязджаць ня хочуць.*

**Акалеўшы** — нерухома, застыла. *Індыкі каля варот стаялі акалеўшы.*

**Акалле** — холад, зябкасць. *Глядзела, глядзела яго на дварэ, аж мяне акалля ўзяло.* Яшчэ — замерзлае цела. *Прыкрый сваё акалля, а то ссінеў, як пуп курыны.*

**Акоцце** — асцюкі. *На плечы снапы — акоцце сыпіцца, дык у капелюшы з саломы зручна.*

**Акраўкі** — кавалачкі, якія засталіся ад кроіва. *З гэтых акраўкаў нічога не пашыіш.*

**Аксыля** — вокліч да цялят. *Аксыля ў хлеў, аксыля, цялятκі!*

**Акунёў вудзіць** — драмаць. *Пакуль мы гукалі, дык ён і акуня вывудзіў.*

**Акуратны** — далікатны, уважлівы. *Да акуратнага ўрача павялі, можа, рады дась.*

**Акушок** — акунёк, акуньчык. *Акунь, той, як дурань, бярэць, акушок яшчэ дурнейшы.*

**Алеха** — вольха. *Насек белай алехі, усё ж дровы будуць.*

**Аляксей ганяіць** — панос, паласкуха. *Аляксей на пяты вянец ганяіць.*

**Аляр спраўляць** — крычаць ратунку. *Такі аляр справіў, аж чэрці вушы заторкнулі.*

**Амердзіцца** — апрацівець, збрыдзець. *Амердзіўся ён мне, як чорт, нідзе ад яго праходу німа.*

**Анадоень** — надоечы. *Анадоень яшчэ бачыліся, і на табе.*

**Ані шум баравы** — каб што, няўзнакі. *Яму ані шум баравы, спіць сабе.*

**Анінютанькі** — нізавошта, ні ў якім разе. *Да работанькі анінютанькі, а да любатанькі, ах, мае матанькі.*

**Апагодзіцца** — распагодзіцца. *Як апагодзіцца, дык гэтыя травы бяруць і ў ямы кладуць.*

**Апада́нкі** — ападанае на дне катла ці місы. *А яму асталося толькі ападанкі з'есці.*

**Ападоліцца** — быць у жонкі пад слухом. *Быў малец як малец, ды ападоліўся.*

**Ападонне** — тое, што апала на дно, ападак. *Узвар увесь выпілі, адно ападонне асталося.*

**Апаследкі** — рэшткі, астаткі. *Апаследкі ссунуў з машыны.*

**Аплэвуш** — ацеслівы, непадцягнуты, няўзглядны. *На такога аплэвуша ніякая дзеўка не паглядзіць.*

**Аповалач** — зацем, заслань. *Аповалач вочы завалакла, нічога не відаць, іду, як сляпая.*

**Апрыч** — асобна. *Ад усіх апрыч сядзіць.*

**Апрычонкі (асабенкі)** — смачная ежа асобна ад астатніх у сям'і для пестунка. *Прывык з пялёнак ля апрычонак. Яму хоць апенкі, ды асабенкі.*

**Апсік** — прэч, уцякай (вокрык на ката).

— *Кошачка-ласачка, дзе была?*
— *У папа.*
— *Што рабіла?*
— *Кросны ткала.*
— *Што заробіла?*
— *Кусок сала.*
— *А дзе дзела?*
— *Сама з'ела.*
— *Апсік, апсік!*

(Дзіцячая гульня, лічылка.)

**Апурхнуць** — абвяць, натапырыць пер'е. *На такой золі куры апурхлі.*

**Апячы** — спячы, запячы. *У печы апяку печанёўку.*

**Арду драць** — звадзіцца, нешта не падзяліць. *Брат з братам арду дзяруць за мяжу.*

**Армянінка** — армянка. *Яна сама белая, а дачка чорная армянінка.*

**Арфаваць** — веяць, правейваць. *За дзень столькі мяхоў жыта наарфавалі.*

**Асва, асвіна** — аса. *Асвой лезіць да яго, не адчапіцца. Асвіна прыстала — не адмахацца ад яе.*

**Асвойчыць** — прыручыць, зрабіць свойскім. *Пакуль сабаку асвойчылі, усе пакусаныя хадзілі.*

**Асвярацъ** — падважваць. *Асвер бярно, а я моху падторкну.*

**Асеціць** — абсесці, апанаваць. *Асеціла чалавека гора, хоць з моста ды ў мора. Яго ж не сямёра асеціла (не шмат дзяцей).* (Яўна ад сеткі.)

**Асівець** — зрабіцца сівым. *А як жа ты асівеў, а мой жа ты свой.*

**Асіта** — сітнёг. *Асіты з берагу нажала на подсціль.*

**Аслядаваць** — знайсці па следзе, высачыць.

*Мы ўвялі слядочак*
*На сватні дварочак.*
*Дзе мы яе аслядуем,*
*А там мы яе заначуем.*

**Асмакавацца (абсмакавацца)** — адчуць смак у ядзе. *Як асмакуешся, за вушы не адцягніш цябе.*

**Астатнік** — апошні, хто адстае. *Ня будзь выдатнікам, ды ня будзь і астатнікам.*

**Астраши́цца** — узяць у страх. *Ці я астрашылася, ці што?*

**Астроў** — востраў, астравок. *А пасярэдзіне Плінскага возіра астроў.*

**Аступіць** — акружыць. *А людзі іх аступілі кругом.*

**Асунуцца** — занядужаць, заняпасці, астарэць. *А ты йдзі ў прыстарэлы дом, як асунішся.*

**Асыпка** — мука нізкага гатунку, ёю пасыпалі ахрап'е, мешанку. *Мех асыпанкі ўдалося купіць, а ўсё ж парсюку нейкая закраса будзіць.*

**Аталпіць** — апанаваць, перапоўніць, навалідца. *Аталпілі ўсю вуліцу — не прайсці.*

**Атанець** — схуднець. *Аментам атанела — так спаліла яе хвароба.*

**Атлёт** — хват, зух. *Такі атлёт, што тым пальцам прапаліць лёд. Шык з атлётам.*

**Атлум** — ачмурэнне, аблуда. *Усе гэты выбары-выдуры — толькі атлум галавы.*

**Атнімка** — анучка, якой аднімаюць (выцягваюць) кацёл з печы. *Кашуля, як атнімка, чорная.*

**Атожылле** — парасткі. *Ад яблыні атожылле пайшло. Бульба ўся атожылле пусціла, трэба скарэй садзіць.*

**Атуросце** — парасткі. *Маленькую прынясла, пасадзіла, яна прыжыла, й столькі атуросця ў яе.*

**Ахопак** — бярэма, шмат. *Яны там ахопкамі грошы палучаюць на шахтах. Ладны ахопак і сабе прынёс. Хочуць,*

*каб не робіць і каб грошы ахопкамі былі. Пятух як даў у нагу, кроў ахопкам ліецца.*

**Ахрап'е** — ежа для свіней, ссечаная трава, бацвінне, дабаўляюць яшчэ бульбы, буракоў. *Рана ўстала, ахрап'я насекла.*

**Ахэлак** — ахапак, ахопак. *Ладны ахэлак са стогу выскуб.*

**Ацялякаваць** — марудзіць, не спяшацца. *Зроб гэта, не ацялякаваючы. З ацялякі гаспадар ніякі.*

**Ацяробкі (цяробкі)** — лушпіны ад бульбы, буракоў. *Ацяробак не ўзялі на сушылцы.*

**Ачалавечыцца** — ажаніцца, узяць жонку. *Бугаяваў-бугаяваў дый ачалавечыўся.*

**Ашаколы** — труха, точыва. *Шашаль так паточаць, што адны ашаколы астаюцца.*

**Ашчэп'ю трымацца** — моцна, не адпушчаючы, аберуч. *Яна за свайго мужыка ашчэп'ю трымаецца, каб не ўцёк.*

— Адкуль?
— З-пад кур, пітухоў сын.

Абедаў, абедаў, а жывот — ня ведаў.
А дзе ж тое дзелася, што ў штанах вярцелася?
Аднаму дагадзіш, а пяцёх угаладзіш.
А хай вас дажджом намочыць!
А хто цябе нёс, калі знаў, што дзюравы мост.
А што нас там — мяды чакаюць?
А я жох сваё з запазухі.
Абабраць як голую белку.
Абвесці кругом пальца.
Абцёр троху пархі, дык і капызіцца.
Абы з рук далоў, а з ног само зваліцца.
Абы на раду быў бацька, а там нічога.
Абыйдзіцца пляшывы без грабянька.
Абыходзімся мы без таго Гаўрылы, што каля нас не жывець.
Абяцанага тры гады чакаюць.
Авёс — даўгі нос — пайшоў, прынёс.
Авечачка спіць з дачкой (хуткамоўка).
Авечая латка, як родная матка.
Авечка шпарка бяжыць на дождж.
Агонь яго ведаіць.
Ад каросты не ўміраюць, толькі рукі не гуляюць.
Ад ліха ціха.
Ад прыбытку галава не баліць.
Ад рання й да змяркання.

Ад чаго яму стала, ад круп ці ад сала?

Адагнаць цыгана ад душы (нешта ўзяць на зуб; трошкі з'есці, абнашчыцца).

Адарваў гнілому (мокраму) цяляці хвост.

Адбяры, Божа, стыд, буду п'ян і сыт.

Аддай рукамі, а хадзі нагамі.

Аддась ей чужыя слёзы Бог.

Адзін дзень з юшкай, другі з калатушкай.

Адзін ды ладзін.

Адзін з'еш і вала — адна хвала.

Адзін на плот, другі на пярэплат (ніхто не саступіць).

Адклад не йдзець на лад.

Адкуль цёплы вецер, туды й бок падстаўляй.

Адліюцца кошцы мышчыны слёзкі.

Адна галаўня не гарыць і не гасніць.

Аднаму добра кашу калупаць.

Адшляцца па дурных балах (марна).

Ані ў бабкі гарох (няўпраўна).

Апсік, каб твой апох сік! (На ката.)

Аршын з шапкай (невысокі).

Асіна — не лясіна, каза — не скаціна.

Атопкам хлеб рэзаў.

**Бабовішча** — зямля, дзе рос боб.

*Цвіцела макаўка на бабовішчы,*
*Спі, мая дурнішча, на саломішчы.*

**Бавіцца** — затрымліввацца. *Схадзі, толькі доўга не баўся.*

**Бавіць** — забаўляць, глядзець. *Ён дзіцё бавіў.* Яшчэ — праводзіць час. *Не робіць, а час бавіць.*

**Багдай** — няхай, бадай. *А багдай жа табе здаровіцца, ясачка ты мая!* (Багдай — ад Бог дай.)

**Баёк** — удзельнік бойкі, задзіра. *Свярбляць кулакі ў байка.* Яшчэ — маленькі бой. *Чым якая сварка, лепі маленькі баёк. Ён біўся — за бой сядзеў, чалавека ён не зарэзаў.*

**Балабок** — пустабрэх, балбатун. *У балабока галава не баліць.*

**Балакі** — аблокі, аблачыны. *Па небі ходзюць такія цяжкія балакі.*

**Баламут** — чмут, галавадур. *Чмут-баламут, у чортавы лапці абут.* (Мама тлумачыла: не баламут, а беламут, бо белае муціць.)

**Балмач** — бесклапотнасць, бяздум'е. *Так і пражыў цэлы век балмаччу.*

**Бандыкі (бэндзі)** — несці малога заплеччу. *Вазьмі сынка бандыкі — хай расцець вялікі.*

**Банкарт** — байструк. *Банкарты гуляюць у карты, а бацькавы дзеці ламаюць клеці.*

**Барабаніць** — брынкаць, іграць.

*А на йскрыпку йграюць,*
*А на цымбалах барабаняць.*

**Барвічная** — баравіковая, дзе растуць баравікі. *Гэта самая барвічная мясціна.*

**Барляцца** — вэдзгацца. *Пабарляўся ў місі, а есці не стаў.*

**Басоля** — басэтля.

*Цяпер бабі не да солі,*
*Як зайгралі у басолі.*

**Ба́ўдур** — ёлуп, дурань. *З баўдурам гаварыць — толькі язык студзіць.*

**Бахмачы** — гронкі, кутасы. *Хмель абвіўся каля алешыны, а з бахмачамі вецер дурэў.*

**Бацькоўшчына** — родны кут, родныя мясціны, сядзіба. *Гэта бацькоўшчына, я тут вырасла.*

**Бацяны** — дзеці, сыны. *Прыхаджу дамоў, а маіх бацяноў німа.*

**Бачы́на** — бок, бакавіна. *За бачыну дзеўку пашчыпіш.*

**Без разгібу** — не разгінаючыся. *Скрабі гразь без разгібу, як разагнуўся — немец лапатай па спіне.*

**Безздароўе** — немач, хвароба. *Маладому ні стому, ні злому не было, а старога безздароўе спасцігла.*

**Белата** — белізна. *Такой белатой аддаець лайно.*

**Белым днём** — удзень. *Белым днём бабу ў хаці зарэзалі.*

**Беркавец** — дзесяць пудоў сена. *Спраўнай карові на зіму беркаўцаў пад дваццаць трэба, не мені.*

**Біць барану** — гаварыць пустое. *Што мы тут б'ём барану, лепі пойдзім ды вып'ем.*

**Благаваты** — слабы, кепскаваты. *Конь благаваты, а трэба дзёран уздзіраць.*

**Благата́** — благі, няўдзячны, пераборлівы. *Добраму чалавечку добра і ў запечку, а якой благаце блага й на куце.*

**Бяспецкаль** — кепскі ўмец, няспрытны. *Бяспецкаль толькі псуець усё.*

**Бліс ды ясь** — зіхатліва, шыкоўна. *Ідзець бліс ды ясь, адступіся, гразь.*

**Блоціць** — марнаваць, псаваць. *Нечага козамі сена блоціць, яны й лыка з'ядуць. Толькі сукно зблоціў, а паліта не пашыў.*

**Блытаўка** — баламутлівая, падкая на мужыкоў, тая, што ў блыт ходзіць. *Зблытнуўся, сыйшоўся з нейкай блытаўкай.*

**Блэнда** — валацуга, гулёна. *І гэна блэнда ўжо цягнецца.*

**Блэндзіць** — псаваць, блоціць. *Не блэндзі мурог такой касьбой.*

**Богамалельня** — малельня, малітоўны дом. *Там была жыдоўская богамалельня.*

**Боссю** — басаною. *Мікіпаравы малыя й зімой боссю з хаты вылятаюць.*

**Боўтка** — боўдзіла, бязмозглік. *І гэта боўтка тут боўтаіцца.*

**Бражджэль** — сухая палка дроў, высахлы кій, калі кінуць — бражджыць. *Ён ужо ўніз расцець, як бражджэль зробіўся.* Яшчэ — усё высушанае. *Бражджалёў напікла, німа чаго ўкусіць.*

**Брандзаваны** — у бронзавай аздобе. *Конь маляваны, хамут брандзаваны, толькі ў сваты ехаць.*

**Браць моц** — прыходзіць у сябе, браць сілу. *З перапою моцы не бярэць.*

**Браць на рэмус** — даць нагаяню, правучыць. *Браць на рэмус яго пара, ад рук адбіўся.*

**Бруд** — гной пры нарыве. *Скуліна прайшла, а стрыжэнь застаўся, бруд выйдзіць.*

**Брусам ляжаць** — нерухома, цяжка. *Яна брусам ляжыць, з пасцелі не падымаецца.*

**Бруячок (бруёк)** — рабацінне на вадзе. *Бруячок, як на лячшу луска. Сягоння бруёк маленькі.*

**Бры́гаць** — патрошку капаць, накрапаць. *Дож брыгаў-брыгаў ды так і не сабраўся пайсці.*

**Бры́дзіцца** — гідзіцца, грэбаваць некім. *Я брыджуся такога кавалера, такога п'янюгі.*

**Брыдзь** — брыда, брыдота. *Не падыходзь да гэтай брыдзі.*

**Брызентовікі** — брызентавыя пашлапні, туфлі. *У брызентовіках добра ад даўгоў уцякаць.*

**Брызлае** — закіслае малако. *Вячэрашняе малако брызлае, толькі бульбу праганяць.* (Брынза, думаецца, таго ж кораня.)

**Брыка** — спецыяльны воз для перавозкі сена, саломы, высокія бакі накрачаны жэрдкамі. Звычайна ў брыку месцідца да двух беркаўцаў сена. *З дажджом прывёз яшчэ брыку сена.* Брыка мяса — пра таўстога, неўваротлівага кажуць.

**Брысік** — укормлены, дагледжаны, гладкі. *Глядзі ты, які брысік вырас — хоць на ім нажы йстры.*

**Брэд** — здобыч, спажыва. *Каза сама на брэд ходзіць, а казляняткі на ваўчынай шкуры качаюцца й мамкі дажыдаюцца.* Альбо прыслаўка: *не быць казе на лазе й есці ёй брэду.*

**Бугіня** — гатунак бульбы. *Дала мне «бугіні» на развод, пагляджу, што вырасціць.*

**Бугрынкі** — пагоркі, бугаркі. *А там бугрынкі, дык я бульдозерам зняў.*

**Бульба ў панчошках** — бульба ў шалупках, нячышчаная, звараная цалкамі. *На вячэру бульба ў панчошках, кожны сам разуваіць.*

**Бушлаватая** — разварыстая, сопкая. *Бушлаватая бульбіна ў руках рассыпаіцца.*

**Бушлаваць** — трывожыць, неспакоіць. *Не бушлуй ты ейную старасць, асцепяніся.*

**Бы́лле** — дзікая трава, быльнік. *Цыганскія хаты без сяней стаяць, гароды пазарасталі быллям да вокан.*

**Быць** — быццам, нібы. *Сню, быць мы з Іванам ідзём лугам, а луг увесь у званочках.*

**Бягельня** — балота, прорва. *З гэтай бягельні век не вылезіш.*

**Бягок** — бягун, быстры. *Такі ўжо бягок, што ўсюдых дападзець, усюдых паспеіць.*

**Бязлюднік** — нелюдзімы. *Бязлюднік і свайго голасу не любіць.*

**Бялюсь (белюсёк)** — бялюткі, выпешчаны, дагледжаны. *Сынок мой, белюсёк мой, хоць нагледжуся на цябе.*

**Бярэннік (бярэнніца)** — хто нешта бярэ. *Было б што даць, а бярэннікаў знойдзіцца.*

**Бяссмертнік** — бестэрміновы пашпарт. *Мне ўжо бяссмертнік далі.*

**Бясштэннік** — бедны, хто нават штаноў не мае. *Бясштэннікі ў калхоз ціснуліся, каб зад прыкрыць.*

Баба, як ракіта, прыжывушчая.
Багаслаўлёна і на стол пастаўлёна.
Багатага з хваслівым не разбярэш.
Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.
Багаты на кані, а махляр на свінні — і махляр перагоніць.
Багатым быць маю надзею: прадам сучку ў нядзелю.
Баран бараном, а рогі дарма (на таргу).
Бегаіць як непрытомны.
Бедным памагаіць плакаць.
Без Бога не да парога, а з Богам уся дарога.
Без памяці піць.
Без прычыны й смерць не бываіць.
Без стукату, без грукату.
Без фігі не да носу (ганарысты).
Без чорта балота не будзіць.
Белае, як свіное цела.
Белы як снег, надуты як мех, на двары стаў, як конь заіржаў (гусак).

Бі свой свайго, каб чужы баяўся!

Бíся, сварыся, а на дабрыдзень слова кінь.

Біцца не гадзіцца, а піхнуў, каб не дыхнуў.

Благога жарабка дык і на пярэплаце (плоце) шкура гагочаць.

Благому Яську ні ў чэсь, ні ў ласку.

Блізкая радня: на адным сонцы грэліся.

Бліны з падскокам! (Пажаданне.)

Бог дарогаю, а чорт цаліком.

Бог не без ног.

Бог сірот жалеіць, толькі шчасця не даець.

Болі лопату, чым клопату.

Браўшы добрае, трэба аддаць добрае.

Будзіць горка — праплююць, а салодка — праглынуць.

Будзіш дужа салодкі — зліжуць, а будзіш дужа горкі — выплюнуць.

Будзіш помніць да зялёных венікаў.

Будзь здарова, як карова, і багата, як зямля, і пладліва, як свіння.

Будуць бліны каля Дзвіны. (Бліны пайшлі каля Дзвіны.)

Бульба вырасла ў аглоблі.

Бульбу садзюць, як дулі завяжуцца.

Быка павязлі, а сэрца засталося. (Стог павезлі, а калок застаўся.)

Былі б пабра́згачы, будуць і паслуха́чы (паслуга́чы).

Былі б смачныя грыбкі, дык елі б ваўкі, а то, гады, мяса ядзяць.

Было б карыта, а свінні ўсюдых знойдуцца.

Бягом, горб ушчаміўшы.

Бяжыць руя, пабягу й я.

Бяла ня бяла, абы воду відзяла (калі мыюць бялізну).

**Вабіць** — прыцягваць, прыманьваць. *Быў Арцём ляснік, на ваўкоў як ішлі, яго бралі, ён выў і ваўком, вабіў у два кулакі.*

**Ваға́н** — тоўсты. *Сядзіць ваган, як маленькі пан.*

**Ва́да** — урок, уроцы. *На мальцы вада нейкая найшла, сохніць і сохніць.*

**Вададых** — шустры, быстры, хваткі. *Ну й ён вададых які!* (Магчыма, з паганскіх божышчаў хто.)

**Вадзі́цца** — дазваляць сябе весці. *Казёл не даецца вадзіцца.*

**Ва́дзіць** — уракаць, шкодзіць. *Хай табе не вадзіць! Хлеб у дарозі не завадзіць.*

**Вадзюха** — вадзяністае варыва, без навару. *Густое не жыдкое, а вадзюха гэтая, што з яе толку.*

**Вайлакі** — валёнкі. *Адлега, а ён без галошаў у вайлаках ідзець, мусіць, у яго ў галаве сто грам.*

**Вайстрак** — востры канец, вастрыё. *Якраз у нажы вайстрак зламаўся.*

**Валатоўка** — курган, насып. *А за валатоўкамі Доўжыца, рэчка-бягушка. Валатоўка была ў Крошыні, Букатачкай звалася.*

**Валяўка (валяка)** — прасталытка, даступніца. *З кім толькі ні валялася валяўка гэная, і яму загілела. І дачка ў яе валяка, валяшчая скурка.*

**Вантрабянка** — кілбаса з вантробаў (ліверная). *Вантрабянку ў капусці зварылі, наеліся, аж вочы пакруглелі.* (Вантрабянка, напханая (накрапаная) у таўстую кішку.)

**Варацакі** — ваніты. *Пацягнула, як ката на варацакі.*

**Варголы** — даслоўна: голы вар. *«Я табе, сынок, сягоння варголы звару»,— жартавала маці.*

**Варона зваліцца з кала** — пра спёку. *Ужо так пячэць, варона з кала зваліцца, не ўседзіць.*

**Варону злавіць** — празяваць, даць сябе ашукаць. *Я на базары варону й злавіла, укралі ў мяне грошы.*

**Вароўня (варыўня́)** — будыніна, дзе гатуюць ежу. *Яна ў сваю вароўню ўсё цягніць.*

**Вархопкі** — пажыткі, манаткі. *Збірай вархопкі ды йдзі ў заробкі.*

**Ваўкаедня** — ваўчынае логава (логвішча), дзе ваўкі й ядуць сваю здабычу. *У хаці, як у ваўкаедні, халодна.*

**Ваўкарэзіна** — абураны зварот да каровы, каня. *Стой, ваўкарэзіна, каб на цябе ваўкі!*

**Ваўкаўня́** — ваўчыная яма, логава (логаўе). *Хата пустая, як ваўкаўня.*

**Ваўначоска** — майстэрня, дзе чэшуць воўну. *Паўдня на ваўначосцы выстаяла, пакуль кузлак воўны счасала.*

**Вачапор** — вісус, накольнік. *Вачапоры на шкоду скоры.*

**Вельмаваць** — прывячаць, частаваць.

*Ой, дзед, ты мой дзед,*
*А я твая бабка.*
*Шануй мяне, вяльмуй мяне,*
*Каб я была гладка.*

**Вернікі** — верныя ў каханні, у дружбе. *Наша дваіх зэкаў на самалёт правяла, такія яны вернікі — да першай падушкі.*

**Верхам** — мець уладу над некім. *Зямля па ім верхам была. Жонка па ім верх паняла.*

**Верхнік** — верхні камень у жорнах. *Ніяк не маглі верхнік узвалачы.*

**Ветрагон** — ветраны, не гаспадар свайго слова, падкі на абяцанкі. *Ветрагону веры німа, толькі абяцанкі-цацанкі.*

**Ветрадуй** — ветраны чалавек, які шмат абяцае й ніколі не трымае свайго слова. *Разумны не чуіць, што ветрадуй ветрадуіць.*

**Відам ненавідзіць** — не любіць. *Буракоў відам ненавіджу змалку.*

**Відомна** — відавочна, яўна. *Тут жа відомна сасуды адкрыты. Відомна, што саўсім нядужая.*

**Вілачнік** — куток каля печы ў парозе, дзе стаяць вілкі, чапёлы, гальні. *Пастаў у вілачнік свой кій. У цябе ў галаве, як у вілачніку, усё стоць стаіць.*

**Вірлун** — у каго вочы навыкаце. *Маўчыць вірлун, толькі вірламі варочаіць.*

**Вісьма вісець** — не разгінаць спіны, не адыходзіцца. *Матка над калыскай вісьма вісіць.*

**Ві́хліцца** — лашчыцца, скакаць. *Сабака віхліцца каля яго, есці хочаць.* (Ад віхляць хвастом.)

**Віці́на** — розга, дубец. *Выціну выхвачу ды адхварашчу пасярод Вушачы.*

**Вішнеўнік** — вішняк. *Вішнеўнічак выцыбаўся ўжо.*

**Вішшо** — вецце касатай бярэзіны, якое звычайна ламаюць на венікі да Пятра. *Пойдзем вішша наламаім, венікаў навяжам.* (Магчыма, што першапачаткова гучэла як віссё, бо вісела.)

**Вобылачка** — аблачынка. *Ты, як ціхая вобылачка, плывеш.*

**Возерам заліцца** — заліцца вадой, пакрыцца лёдам у разводдзе. *А слізка, усё залілося возірам.*

**Возерка** — азерца. *І возірка такое кругленькае, як сажалка, яно топкае.*

**Ворах** — страх. *Аж у мяне ворах па целу пайшоў* (здаецца, што варушацца валосікі на целе).

**Восець** — гаспадарчая будыніна. *Восець пасадзіў на шасткі.*

**Вотачкая** — гэткая. *«Спешка» (бульба) вотачкая, гэта ж большанькая, а ёсь саўсім маленічкая.*

**Вотліж** — адлега. *Неяк на вотліж не пахожа.*

**Вугаль затушыць** — мала, адчэпнага. *Карова целіцца, а малака — каб вугаль затушыць.*

**Вуда** — віхлясты, сквапны, які ўсё вывуджвае сабе. *Мікіта — добрая вуда, усё сабе вудзіць. Што ты, як вуда, у бакі ходзіш.*

**Вужок** — вужанятка. *Маленькі вужок, бліскучыя вушкі.*

**Вужэлкі** — неслухі, вачапоры. *Вужэлкі малыя так і пілнуюць, каб у шкоду залезці. Вужлаўё малое, галаву атлумілі.*

**Вуллё** — вулей, калода. *За вуллё кожнае падатак плаці.*

**Вурдаль** — кацінае імя. *А дзе гэта наш Вурдаль, ці ні на ўлоў пайшоў?*

**Вурзгалка** — пасярэдзіне косткі (свінячай, барановай) прывязваецца скручаная суровая нітка з двума канцамі-петлямі. У іх прасоўваюць пальцы й пачынаюць расцягваць (раскручваць). Костка пачынае круціцца накшталт прапелера, вурзгаць (вурчэць). *Зроб ты рабёнку вурзгалку, усё нейкая забава будзіць яму.*

**Вурыць** — біць. *Як увурыў яму, дык ён далоў з усіх капылоў.*

**Вусацень** — вусаты, вусач. *Сыцень-вусацень зачапіўся за пень.*

**Выбіцца** — спрацавацца, стаміцца. *Выбіўся, як шпак, на гэтай рабоце.*

**Выбушнець (пабушнець)** — раздабрэць, наліцца сілай, памужнець. *Глядзі ты на яго, як выбушнеў. За лета дзеўка выбушнела, выелася.*

**Выбыць** — адбыць, пражыць сваё. *Яна ж і нагой не кратала, выбыла свае дні.*

**Вы́вараць** — вывернутыя ветрам дрэвы. *Вывараць дарогу перагарадзіў.*

**Вывесці з галавы** — забыцца, перастаць думаць пра нешта. *А я з галавы вывіла гэта і ўспамінаць ні хачу.*

**Вы́граб** — збіранне, абіранне. *Летась кончык агуркоў пасадзіла, дык ім выграбу не было.*

**Вы́залець** — азябнуць, азалець. *Вызалела дзень і карасіны не дастала.*

**Вызнаваць** — выведваць, разведваць. *Малога ў рыззё адзенуць, ідзець вызнаваць, дзе адступаюць.*

**Выказаць** — выдаць, прадаць. *Цябе б зарэзалі, ты ж бы выказаў.*

**Вы́камандаваць** — выхітрыць, з нічога нешта зрабіць. *Так не так, а ўсё-ткі выкамандаваў сабе на кажух.*

**Выкідаць круг** — ісці наўпрасткі. *Круг выкідалі, каб скарэй.*

**Вы́ладнець** — папрыгажэць, паправіцца. *Так выладнеў на вачах, аж не пазнаць яго.* (Ладны — значыць пазорысты, паглядны.)

**Вы́лівень (вылівак)** — яйка, знесенае без шкарлупкі. *Калі куры ліюцца, ім таўкуць шкарлупінне ад яек.* Яшчэ — пра чалавека азызлага, адрузлага. *Вылівень ты гэткі.*

**Вы́лупак** — франт, хварсун. *Гэны вылупак са скуры вылупліваецца, абы надзецца не так, як усе.*

**Вылупіцца** — прарэзацца, глянуць. *З раніцы цёпла было, сонца было вылупілася.*

**Вымагаць** — прасіць цану за тое, што прадаеш. *Платы не вымагала, колькі давалі, прадавала.*

**Вы́мантычыць** — выпрасіць, выцыганіць. *Ён усе грошы вымантычыў у маткі.*

**Вымышленне** — прыдумванне, выдумлянне нечага асаблівага. *Ён ня можаць без вымышляня, усё вымышляіць і вымышляіць, абы ня так.*

**Вы́мякшыць** — вырабіць. *Каб вымякшыла шкурку, дык ей добрая футрачка была б.*

**Вынас** — платы пастуху. *Не ў нос яму такі вынас, ласейшага чаго хацеў.*

**Вы́парак** — неслух. *І гэтыя выпаркі-рабяты такія зладзеі.*

**Выпіць на канчатковую** — замачыць куплю, гешэфт. *Сыйшліся ў цане й выпілі на канчатковую.*

**Вы́пукацца** — зрабіцца выпуклым, надзьмуцца. *Як мячык, выпукаецца й коціцца на каротківх ножках.*

**Вырабатаваць** — вырабляць. *Хата, дзе скуры партызаны вырабатавалі.*

**Выразаць у пень** — увесь, ушчэнт. *Быў такі лясок, ды выразалі ў пень, бо не сваё ж, калхознае.*

**Выранджа́цца** — вычварацца, капызіцца, строіць з сябе немаведама што. *А не выранджайся дужа, знаім, адкуль ты, дружа.*

**Вырасці** — стаць, вывучыцца. *Ейны мужык урач, і яна сама на ўрача вырасла.*

**Вырва́н** — неслух, дуронік. *Вырваноў сваіх прышлюць на лета да дзеда.*

**Вы́рый** — яміна, адкуль выбралі торф. *У вырыі вада злецілася, густая стаіць.*

**Вы́садкі** — буракі, морква, капуста, высаджаныя вясной к налеццю (на наступны год). *І есці хапіла, й на высадкі асталося.* Застацца на высадкі — састарэць у дзеўках. *Васілішка на высадкі асталася, ніхто не ўзяў, толькі сваталі.*

**Высачынь** — вышыня, высакосць. *Высачынь такая — дух займаіць.*

**Вы́спрытніцца** — налаўчыцца, набыць спрыт. *Выспрытніліся малыя абіраць вішні.*

**Вы́стар (вы́старак)** — перастарэлы. *І гэны выстар да дзевак быстар. Адны выстаркі асталіся, маладыя паз'ехалі.*

**Высцяробы** — высечаны і згруджаны алешнік. *У высцяробах маліннік пайшоў.*

**Вы́талкаваць** — прыйсці да пэўнай высновы. *Нагаварыліся, паталкавалі, а нічога не выталкавалі.*

**Вы́тачыцца** — узысці, прарасці. *Вясной запахла, мята вытачылася.*

**Вы́тлуміць** — забыцца, выскачыць з памяці. *Вытлуміла мне саўсім зробіць гэта. Мазгі вытлуміла табе, нічога не помніш.*

**Вы́траць** — абцерці, выцерці. *Абагнаў гарод, выпраг каня, плуг вытрыў.*

**Вы́тушыць** — патушыць, пагасіць. *Трэба газ вытушыць.*

**Выў** — выццё, плач. *Вывам выю, а рады даць не магу.*

**Вы́хаджаны** — выгадаваны, падрослы. *Рабёнак яшчэ не выхаджаны, малы.*

**Вы́хадзіцца** — зведаць гора. Яшчэ — ачуняць, акрыяць. *Ён у яе выхадзіцца, узнаіць, дзе аракі зімуюць. Цяпер пятух адзін выхадзіўся.*

**Вы́харашыцца** — прыбрацца, прычапурыцца. *Вымыешся, выхарашышся, дык і свет табе палюбеіць.*

**Вы́хартавацца** — прагаладацца. *Як выхартываецца за дзень, дык вечарам усё з'есь. Аж духі́ падхартала* (падцягнула жывот, прагаладаўся). *Ён увесь падхартаны* (падцягнуты, станісты).

**Вы́церабіцца** — падрасці, падужэць, вылюднець, налюдзіцца. *Глядзі ты, выцерабіўся маліц, не пазнаць.*

**Вы́цыбацца** — вырасці. *Выцыбаўся маліц нявогледдзю.* (Цыблы — ногі.)

**Вы́цюкнуць** — вылецець, забыцца. *Мне й з галавы выцюкнула, што мелася йсьці на кірмаш.*

**Вы́чапкацца** — выбавіцца, выкараскацца. *Тады яна адтуль вычапкалася.*

**Вычвара́цца** — выкідваць конікаў, капрызіцца. *Досіць вычварацца, пара за розум брацца.*

**Вы́чыхацца** — выпарацца, траціць градусы. *Заторкні чым бутэльку, а то гарэлка вычхаецца й вадой зробіцца.*

**Выш** — верх, угору. *Адзін на ніз цягніць, другі на выш цягніць.*

**Вышывальны** — для вышывання. *У мяне былі ніткі вышывальныя.*

**Вы́ясніцца** — праясніцца, пасвятлець. *Як сонца, выясніцца, а потым узноў хаваіцца.*

**Вяза́нка** — звязка дроў, снапкоў. *Вязанку за плечы дый пайшоў.* Яшчэ вя́занка — вязаная адзежына. *Вязанку на плечы ўсторкніш, дык і мароз адступіцца.*

**Вя́згала** — назола, звягло. *Змоўкні ты, вязгала, вязгаеш несусвецце нейкае.*

**Вя́зістае** — вязкае. *Вязістая дрэва — тапор ня хочаць браць, засідаіць у ім.*

**Вялічча** — шмат, багата. *Невялікае вялічча ў яго, толькі багатага з сябе корчыць.*

**Вянок** — рой. *Вянкі пчол на суках віснуць.*

**Вя́ркаць** — плакаць, падаваць голас. (Звычайна пра дзіця.) *Хто гэта там вяркаіць?*

**Вясенка** — вясна. *Цэлую вясенку цягаў сучча.*

**Вясна** — калі няма чаго есці, голад. *У іх летась такая вісна была, чуць выжылі. А сёлета вясны не было — да новіны дацягнулі.* Яшчэ — выйсці на вясну — значыць перазімаваць, выжыць. *Канёк на вясну чуць выйдзіць, а карова дык не.*

**Вятка** — натоўп, юрма. *Так і ходзяць вяткай цэлымі днямі.*

**Вяхотка** — звязаная з калючай травы, з вехця мачалка, каб шараваць посуд. *Вяхотку сшаравала, пакуль ададрала кацёл.*

**Вячні́на** — трывалае, моцнае. *Гэта ўжо будзіць вячніна.*

Ва ўдавы два наравы, а ва ўдаўца без канца.

Вада й мельніцу йрвець.

Вазьмі вочы ў рукі.

Вазьмі мазгі ў жменю (у рукі)!

Вазьмі ногі ў рукі.

Валі на бурага — буры ўсё звязець.

Валуй раменныя вушы.

Варона на многа сукоў садзіцца, ні на водным не жывець.

Век — добры чалавек.

Век зжывеш і Кузьму бацькам назавеш.

Век зжыла й не засмяялася.

Верабей вераб'я здалёку бачыць.

Воз не воз — не семярых падвёз, а мне й досіць.

Вольнаму — воля, шалёнаму — поле, а спасёнаму — рай.

Вон! Каб і вонках не было.

Вось табе, бабка, навука: не хадзі замуж за ўнука.

Вось твой хамут, вось твая дуга, й я табе болі не слуга.

Воўк злы галодны, так і чалавек.

Вочачкі па яблычку, зрэначкі па йгрушынцы.

Вочы выгаліць і глядзіць.

Вочы заспаныя, як у зайца.

Вучыцца на сабак брахаць (кепскаму).

Вушацкія бляхары паехалі ў Вушачу кусацца (цвялілка).

Выйграў, як Заблоцкі на мылі.

Вып’ем за тых, хто ў лазні мерзніць!
Выпіць на пужку (на ад’ездзіны).
Вырабатаны, як конь.
Высах, як (што) маёвы (майскі) венік.
Выспеіць касцянка — выспіцца шляхцянка.
Вышэй за лоб ня ходзюць вочы.
Вялік пень, ды дуплен.
Вялікая лыжка дзяцей не разганяіць, а малая разганяіць.
Вяселле наша — хлеб і каша.
Вяселля без віна, як студня без дна.

**Гагалём хадзіць** — важнічаць, задзіраць нос. *Ходзіць гагалём, сам сябе хваліць.*

**Гадкі** — брыдкі. *А то ёсь, як рапені, такія гадкія бабы, ідзець, а ў яе жывот на жываце, трыбух на трыбуху.*

**Гайдамаха** — гуляка, раскідаха. *Ён такі не гайдамаха — не прап’ець.*

**Гак** — стук, бух. *А яна гак яму палкай па плячох.*

**Галабоні** — ягады дурніцы. Яшчэ — п’яніцы. *Гэта ўжо галабоня надрузлая, адваленая, такая наспелая сядзіць.* (Галабоні, відаць, ад галава баліць.)

**Галавар** — голы вар. *А на снідання галавар.*

**Галайстра** — голь, галеча. *І ў Расіі такая галайстра.*

**Галанож** — у чаравіках на босую нагу. *Пахмяліцца дык галанож прыпёрся.*

**Галаруч** — голымі рукамі. *Нёс ваду галаруч, рукавіцы забыўся.*

**Галата́** — голае мейсца, поле. *Стаяць недзі карові на гэтай галаце, травы німа.*

**Гале́заваць** — цягацца. *Галезаваіць па дарозі, клопату болі не маіць.*

**Гален** — сшараваны аб падлогу венік, ад якога засталіся адны голыя дубцы. *Соль у вочы, вілы ў кілы й гален паміж кален!* (Праклён.)

**Галець** — жыць аб нішчымніцы, не мець чаго абуць, надзець. *Пагалела б, тады б знала, а то ей матка прэць і прэць.*

**Галіна́** — інтарэс, схільнасць, прызванне. *Цяпер пайшлі па сваей галіне, выраслі ўжо, што хочуць робюць.*

**Га́ліцца** — квапіцца, загарацца. *На чужое не галься, згубіш сваё. На дзевак галы, як кот на сала. Пагаліўся на багацце і ўзяў пабойню. Хто на чужое пагаліцца, на тога неба абваліцца.*

**Галу́та** — бясснежжа, безлістоўе. *Уся восінь галутай адстоіла — ні лісту, ні свісту. Зіма галутай стаіць — каб сняжынка. Вісна чарнатой стаіць, галутай.*

**Га́лы** — прагны, ахвочы да нечага. *Пятух на ежу гал, гатоў усё з'есці.*

**Галяк** — голае мейсца, дзе вытаптана й спасчана трава. *Казу на галяку навязала, дык яна й сквярэцца.*

**Гамнуць** — схапіць, узяць. *З нахопу як гамніць, аж я знячывеліла.*

**Гамолка** — акраец, луста, скібка. *Добрую гамолку адваліў, сабе не пашкадаваў.*

**Гамонак** — гамонка, гамана. *П'яны прыйдзець, тады гамонку будзіць.*

**Гандлёўшчык** — гандляр. *Цяпер усе хітрыя — усе ў гандлёўшчыкі пайшлі.*

**Гар** — агонь. *Гары яно гарам!*

**Гара** — гарышча. *Усцягнулі сена на гару, паспелі. Ты на гару, а чорт за нагу.*

**Гарбузянка** — варыва з гарбуза. *Гарбузянка — яда нетрывалая, так, балмач смачная.*

**Га́рды** — каго заела гардыня. *Бог гардага з неба скідаіць.*

**Гарчавая** — якая гарчыць. *Капусту рана ссеклі, дык яна й гарчавая.*

**Гарчак** — горкі яблык, горкі напой. *Адных гарчакоў натры. Гарчаку хлібнуў, аж вочы на лоб палезлі.* Яшчэ — горкі пах. *Перац рассыпала, дык смурод на ўсю кухню — гарчак пайшоў такі.*

**Гаршчок** — гліняны посуд на варыва. *Хоць гаршком называй, толькі ў печ не стаў. «— Каму трэба бітыя гаршкі?» — пытаюцца, пасадзіўшы заплеччу малога. Мяняць гаршкі на гліну.*

**Гарэлішча** — пажарышча. *На гарэлішчы пра агонь не гаворуць.*

**Гарэць** — цвісці. *Агуркі ўжо гараць, самы цвет.*

**Гасці́на** — застолле, бяседа, госці. *У добрай гасціні душа спачываіць.*

**Гасці́цца** — гасцяваць. *І жылі мы душа ў душу, гасціліся-радніліся.*

**Гату́** — вокрык адпуджвання. *Мы на ваўка: гату, гату, а ён хамыль-хамыль і пайшоў.*

**Гаўкала** — брахлівы сабака. *Ён жа такі гаўкала, ляпа не сціхаецца.*

**Гбацца** — гнуцца. *Нага ня гбаецца, неяк хадзіць.*

**Геройка** — смелая. *Ты такой геройкай ня будзь.*

**Гешэфт** — збыты інтарэс. *Усё гешэфты нейкія водзіць. Дзе шэпты, там і гешэфты.*

**Гібель** — шмат, процьма. *Сёлета ягад гібель.*

**Гіле́ць** — дужа нечага хацець. *Загілеў малец жаніцца і слухаць нікога не хочыць.* (Гілець — значыць гарэць. Ці не адсюль і гіль, і карова чырвонае масці Гілёня.)

**Гладка** — зусім, ушчэнт. *Гладка забылася, чаго прыйшла сюды.*

**Глінабітка** — хаціна, абмазаная глінай, пабудаваная з жардзя й гліны. *У глінабітцы зіму перажылі.*

**Глінянік** — гліняны гаршчок. *У гліняніку крупы лепі ўпрэюць.*

**Гліня́нка** — гліняная печ у лазні. *Глінянка добра дух даець.*

**Глыжы (глыжэўе)** — засохлыя, зацвярдзелыя на камень камякі зямлі. *Дождж як пайшоў, глыжы пабіў, бульба ўзялася, пайшла ў рост.* Яшчэ — груд.

**Глюганосы** — глюгаты. *І прыляцеў глюганосы крук.*

**Глю́ма** — штосьці глюкатае, няветлае. *Глюма такая страшная.*

**Гнётка** — сляпая кішка. *Школьнікі збіралі камяні з поля й грузілі на машыну, аж у адной дзеўчынёшкі гнётка вылезла.*

**Гніліна́** — хваравіты, слабы на здароўе, западлівы. *Такая ўжо гніліна — вецір дыхнець — валіцца.*

**Гну́цікі** — санкі з гнутымі капыламі. *Гнуцікі такія лёгкія на бягу.*

**Гняваш** — гняўлівы, сварлівы, злапомны. *У гневаша не на мейсцы душа.*

**Гнявы́** — гневаты, злыя, нецярпімыя. *Гнявы ня ставяць хлявы.*

**Гнянуць** — ударыць, грымнуць. *Як гняну, дык доўга помніць будзіш.*

**Гой** — адчайны чалавек, разак. *Такі гой — нікому не саступіць.*

**Гойкаць** — гукаць, крычаць, клікаць. *Гойкала, гойкала, каб хто дзе. Вы тут грыбы сабірайце, мяне не чапайце, не гойкайце. І гойкалі, і шмойкалі — маўчыць.*

*Гойкнуў баравік на бару:*
*— Сабірайціся, грыбочкі, на вайну.*

**Голасу нарабіць** — учыніць шум, гвалт. *Біцца пачнуць, голасу наробюць на ўсё сяло.*

**Голлю** — галяком. *На дварэ зіма, а рабёнак голлю бегаіць.*

**Голь перакатная** — бедната, галеча. *Адна голь перакатная сабралася камуну ладзіць.*

**Гоміна** — шум, вэрхал, гам.

*Ай, гоміна, гоміна,*
*Ляціць баба з коміна.*
*А дзед яе за вуха:*
*— Куды ляціш, псяюха?*

**Гоп** — гукаперайманне. *На адным чаравіку заднік ёсь, а на другім німа, ідзець — адзін гоп, другі шлёп.*

**Грабёлка** — грабянец, часадла.

*А пара, пара грабёлачкі шукаці,*
*А пара, пара русую коску часаці.*

**Грабіна́** — труна, дамавіна. *Якую грабіну зробілі б, дык з нечага.*

**Гравінь** — гравій. *Дарогу гравіням усыпалі.*

**Грокат** — грукат. *Ён без нагі, паваліцца — будзіць грокату.*

**Грудам** — гуртам, юрмой. *За ёй кавалеры грудам.*

**Гру́да** — замерзлая глеба, без снегу. *Па грудзі йсці на злом галавы.*

**Груза́лкі** — кавалачкі ў варыве. *Гарбуз разварыўся, толькі грузалачкі дзе-нідзе пападаюцца.*

**Грузь** — цяжар. *Такую грузь валок, аж паглядзець страшна.*

**Гры́вісты** — з грываю. *Конік у нас быў грывісты, спраўны, ляціць, а грыва віх-віх, як мурог пад ветрам.*

**Грыжа (грызіца, грызь)** — хвароба, яшчэ — кіла. Ёсць замова. Узяць палку і з суком і над суком гаварыць. *Гэтаму суку веццям не махаць, карэння не пускаць і лісцю не шырыцца. А ты, грыжа-грызіца, зялёная маладзіца, ідзі на імхі, на балоты, на чыстыя полі, там адзінаццаць грыжаў гуляюць, цябе, дванаццатую, дажыдаюць! І тады, як рабёнку загавараваюць, над рабёнкам зубамі пасклыгаюць, пасклыгаюць: а не грызь грызець, а я грызу.*

**Грыжа́нка** — бручка. *Грыжанка маладая смачная, хрупаіш і хрупаіш.*

**Грымотнік** — зёлка. *На лузе расцець грымотнік, рыхтык дзятлінка. Як гром грыміць, збіраюць, пасля свенцяць і кураць хату.*

**Гудзець** — калі свіння кнура хоча. *Свіння гудзіць, да кнораза трэба весці.*

**Гукаць** — гутарыць, талкаваць. *Хоць пагукала з добрым чалавекам.*

**Гулы́** — водгулле, рэха. *Хата пустая — аж гулы йдуць.*

**Гульма гуляць** — нічога не рабіць. *Гульма гуляіць, клопату не маіць.*

**Гумовікі** — гумовыя боты. *У гумовіках і ў балота і з балота — й нагá сухая.*

**Гумонны** — ганарысты, фанабэрысты. *Гумонны — куды там, нікога, апрыч сябе, й відам не відзіць.*

**Гурунцавацца** — хваляваццa, кіпяціцца. *Не гурунцуйся гэтак, усё ўладзіцца, пагурак (жывот) згладзіцца.*

**Гусíца** — гусь. *Як гусіца тая, ходзіць, валюх-валюх.*

**Густыш (гусцяк)** — густое ў варыве. *Увесь густыш з капусты выцягаў, а жыжку пакінуў.*

**Гэтымі гадамі** — у гэтыя гады. *Зняслі гэтымі гадамі Праннікі* (вёску).

Гавары, кум, ды абедай.

Гаворыць, як воўну на плот вешаіць.

Гаворыш як спіш.

Гадзіць, як благой скуле (дагаджаць капрызнаму).

Гáкі-бáкі забіць (спірацца, упарціцца).

Галава вялікая, толькі блох развадзіць.

Галава не бязмен: куды перакуліцца, туды й добра.

Галасок хоць у пясок.

Галодны, як воўк жаробны.

Гандаль на піндаль.

Гардых Бог з неба скідаваіць.

Гарцы ўвядуць у старцы.

Гаршчок гаршку ганьбу даець, а абодвы дзюравыя.

Гаўно ґору не помач.

Гвалту крычаць (клікаць на помач).

Гдзе тылькі фэст, там пан Юзаф ест.

Глядзеўшы з рук, зробішся як крук.

Глядзі, зробіш кісла.

Глядзі, каб цябе сарокі не ўкралі, падумаюць, што сыр, — гэтак вымыўся.

Глядзіць, як карова на карову.

Голад — не цётка, ён ілжэць і крадзіць.

Голасам галасіць.

Голы як бубен.

Гонкая дзеўка, хоць на ей вішні абірай.

Гора маё гора, што муж Ягора, хоць бы дурны, ды Йванька.

Горка гарэлка, алі п'юць, дрэнна замужам, алі йдуць.

Горка рэдзька, ды ядуць, дрэнна замужам, ды йдуць.

Гразь мяшаць (на некім).

Грошы камень куюць.

Грошы ні ў дугу няма.

Грошы пайшлі да раскошы.
Грыбоў — хоць касу закладай.
Грэх па дарозе бег, а баба глядзела й яго з'ела.
Грэх у мех, а сам наверх.
Гужам, гужам — ды міма, міма.
Гульма гуляць.
Гультаю баліць жывот, а дасужаму баляць ногі.
Густая каша дзяцей не разганяіць.
Гэта яму Бог дарогу перабег.
Гэтых дзён не кажны дзён.

**Да ду́ры** — шмат нечага. *Усяго было да дуры.*

**Дабрацца** — пачаць, падрыхтавацца. *Робяць робіла, а жыць яшчэ не дабралася.*

**Дабрына́** — збажына. *Сёлета дабрына надзіва ўрадзіла.*

**Дабура́** — дыбарам. *Вецер пер'е ў вераб'я дабура становіць.*

**Давесці** — падгадаваць. *Каб дзеўку да людзей давесці неяк.*

**Дадушы** — далібог. *Дадушы, ня помню, як гэта ўсё было, а маніць ня ўмею.*

**Дажаўта́** — падрудзіць, давесці да жоўтага колеру. *Бульбу неяк было дажаўта паджарыць.*

**Дажываць старасць** — быць у старым (пахілым) веку. *А Мікіціха старась дажываіць, яе ўжо там заждаліся.*

**Далізоўка** — прышчэпка. *З лесу дзічку прыняслі, далізоўку зробілі (далізавалі), яблыкі на ей самыя смачныя.*

**Даліктун (даліктуха)** — пяшчотнік, спешчаны. *Такі ўжо даліктун — не дыхні на яго.*

**Далуках** — на зямлі, на падлозе, доле. *Восы выядуць ігрушы, толькі шалупкі ляжаць далуках. Рабёнак далуках ходзіць.*

**Далячэй** — далей. *Віцебск далячэй, чым Лепля.*

**Данава́** — адмыць, адчысціць якуюсьці рэч. *Рачным пяском кацёл данава адшаравала.*

**Дапавалу** — перабраць меру, зваліцца. *Як пойдзіць да той сіўкі, дык яна напоіць яго дапавалу.*

**Дарагоўля** — дарагавізна, высокія цэны. *Апазніліся мы, такая дарагоўля.*

**Дардоха** — здаровая, дзябёлая. *Дардоха дзеўка — і ў кола і ў мяла.*

**Дармавей** — танней, дзешавей. *Яму дармавей былі работнікі.*

**Дармавізна** — дармовае, дадзенае, падоранае, набытае без платы. *Хочуць усе дармавізны, дзе ўдасца, а дзе й не.*

**Дасачыць** — дагледзець, дапілнаваць. *А ўсё-ткі дасачыў, куда злодзя падаўся.*

**Даспанаваць** — дакладваць, казаць, паведамляць. *Яна яму ўсё даспануіць.*

**Да́суха** — ссушыць. *Сухія скваркі жарыць дасуха.*

**Дасэні** — узоры. *Настольнік тканы, увесь у дасэнях.*

**Даўгалытая** — даўгацыбая, даўгалыгая. *Сцяпан і жонка яго даўгалытая.*

**Даўгіла** — высокі, цыбаты. *К ей даўгіла прыбіўся, на ім хоць сабак вешай.*

**Даўгія рукі** — хапуга, злодзя. *Зэк яе любіў, рукі даўгія — вёз адусюль, цягнуў.*

**Даўжо** — даўгія дровы. *Не парэзалі на кароткія, так даўжо(м) і клалі.*

**Дахаладна́** — астудзіць, выстудзіць нешта гарачае, хату. *Дахаладна астудзіць самагонку, пілася, аж душа смяялася.*

**Даць нос** — адмовіць. *Бацька даў нос яму, жаніху такому.*

**Даць свету відзець** — дапячы, уесціся, цвяліцца. *Ён табе яшчэ дась свету відзіць, папомніш мяне.*

**Дашчанік** — будынінка, збітая з дошак (дошчак). *Па дашчаніку вецер гулліць, як на вуліцы.* Яшчэ — паветка, абабітая дошкамі. *Сена склалі ў дашчанік, дождж не дастаніць.*

**Дашчурка** — дошчачка. *З дашчурак збіў шпакоўню, як вісна прыйшла.*

**Даясна́** — нагрэць нешта да чырвані, да белаты. *Нагрэў даясна, тады каваць пачаў.*

**Двайнюкі** — двайняты. *Двайнюкоў ёй салдаты ўлупілі.*

**Двойні** — вілы на два зубы. *Двойнямі добра гной накладаваць, а сена лепі тройнямі.*

**Джагнуцца** — урэзацца, стукнуцца. *Джагнуўся ілбом у бярэзіну — аж іскры з вачэй.*

**Джгнуць** — лупянуць дубцом, крапівой, розгай. *Як джгнеш дубцом па азадку, дык будзіць старацца.*

**Дзелізна́** — агрэх. *Што баразна, дык дзелізна.*

**Дзеўчынёшка** — дзяўчо, падлетак. *Ужо дзеўчынёшка, а ўсё яшчэ ў лялькі гуляіць.*

**Дзеўчыцца** — калі дзяўчо хоча пачуваць сябе дзеўчынаю, пераймаць дарослыя манеры. *Не вырасла да стала, а ўжо дзеўчыцца пачала.*

**Дзіклі́вы** — дзікаваты, нелюдзімы. *Маліц дзіклівы, усіх дзічыцца, як у лесі вырас.*

**Дзічка** — барадаўка. *Каб дзічка знікла, трэба злавіць коніка (казялка), пасадзіць яго на барадаўку й прыгаворваць: «Кызі, кызі, дай мазі, а я табе дзічку».*

**Дзічына́** — здзічэлы выпас, луг. *Выпасу няма — адна дзічына, калхоз усё абсеяў лубінам, луг заліло.*

**Дзюгнуць** — выпіць, глынуць. *Добра дзюгнуў, чуць сябе нясець.*

**Дзюк** — дзёўб. *Знайшоў пятух ягадзіну, дзюк — і курам аддаў.*

**Дзялёнка** — доля, выдзеленая каму-небудзь. *Узяў дзялёнку сала ў дарогу.*

**Дзяннецца** — світаць, днець. *Ужо дзяннецца стала, а яго ўсё няма.*

**Дзяннік** — двор, мясціна ў атачэнні хаты й гаспадарчых прыбудоў. *А яна выйшла на дзяннік і прымёрзла. З хлеву выйдзіш і дзяннік загароджаны паміж хлевам і хатай, бываіць крыты. Яна адзежу, адзежа ў яе ладная, павесіла ў дзянніку, а індыкі на адзежу нагадзілі.*

**Дзярноўе** — дзёран. *Каб знаў, абклаў бы магілку дзярноўем.*

**Дзяронік** — блін ці сачэнь з дзяронай на тарцы бульбы. *Хоць дзяронікам голад адгоніш.* Яшчэ — дзярбун. *І дзярбун сала любіць.* Яшчэ — драчкі. *Бульба здаровая, як на драчкі (бліны).*

**Для прылікі** — адчэпнага, для адводу вачэй. *Хоць для прылікі надгубі.*

**Днішка (дэнца)** — кавалак гладка абструганай дошкі, на якой крышаць сала, цыбулю. *Штэ ты на стале крышыш, вазьмі днішка (дэнца). Залатое дэнышка.*

**Довіч** — давеку. *Касцюм у яго быў довіч.*

**Дойкі** — цыцкі ў каровы, казы. *Яна ў мяне аказіла двойню, дойкі па кружцы, яна ў мяне аддоіцца.*

**Дойніца** — дойная карова. *У Грышчыхі добрая дойніца, малака ўсім хватаіць.*

**Досвіцця** — досвітак. *Ад досвіцця каня шукаю. Дасвяткам дамоў прыйшоў.*

**Досуг** — дападлівы паўсюль. *Куды ні павярніся, досуг гэны тут як тут.* (Чуецца — дасягаць.)

**Доўга** — ужываецца ў сэнсе хутка. *Бульбі доўга зварыцца — тут жа й гатова.*

**Дохля** — худы, лядашчы, галодны. *Гэта дохлі такія ходзюць каля столу (каты).* Яшчэ — праклён. *Хай на іх дохля, на пацукоў, усё пагрызлі.*

**Драміла** — драмлюга. *Я такі драміла, што ўсе мяне абганяюць.*

**Драць казлы** — ванітаваць, варацаць. Калі перакладаў балгарскіх паэтаў, гартаў слоўнік і раптам чытаю: дери кози. Не стаў чытаць тлумачэнне. І накрэсліліся ўсмешлівыя радкі:

*І ў паэзіі, і ў прозе*
*Словы — вечнасці паслы.*
*Па-балгарску — дери кози,*
*А па-ўшацку — драць казлы.*

**Дрýгацца** — грукацца. *Лягла, толькі ўспалася — другаiцца ў вакно.*

**Друзá** — друз. *Адна друза ляжыць, каб што цэлага.*

**Дрýкі (дрýка)** — азярод, пярэплат. *На друках снапы высахнуць.* Яшчэ: друка — нязграбная, нягеглая. *Такая друка, дзе павернецца, там і зачэпіцца.*

**Дрыгба** — топкая зыбістая мясціна, усё ўзбаўтанае, незастылае. *Убіўся пацёмначы ў дрыгбу, як толькі ногі выцягнуў. Квашаніна не застываіць і дрыжыць, як тая дрыгба.*

**Дрыжáка** — дрыжыкі, зябікі. *Холад, дрыжака б'ець.*

**Дрыль** — рыдлёўка. *Дрыль кругом жалезам абсаджаная, лапата дзеравянная, ей добра й біцца й мірыцца.*

**Дрэнчыцца** — капрызіцца. *Дамінічка не выспалася, вот яна й дрэнчыцца.*

**Дубíць** — біць, лупцаваць. *Жонцы кішкі выпусціў, ён яе дубіў.*

**Дубкí** — на дыбы. *Конь стаў дубкі, як воз не абвярнуў.*

**Дублю даць** — даць прачуханца, усыпаць. *А каля Завячэлля Брэнц жыў, ён ей дублю даў добра.*

**Дуддзё** — дубцы, галлё, быллё. *Зімой як акозіцца, таўстога нечага трэба. З быльніку венік звяжу, дык буддзё паесь, а красную лазу не любіць.*

**Дуды** — клопат, справы, прычындалы. *Усе дуды набок, трэба збірацца. Заваліўся мядзведзь — і ўсе дуды розна.*

**Дýкрыць** — петрыць, кеміць. *Ён ужо нешта дукрыць.*

**Дукса** — нязграбны чалавек, няўмека. *У дуксы рукі — крукі, ні да пугі, ні да навукі.* (Літоўскі корань азначае ашалелы.)

**Дунай** — проста рэчка, асабліва ў народных песнях. *Шлець мяне, маладу, у Дунай па ваду.* Яшчэ — сімвал прыгажосці й здароўя. *Дунай-дзеўка, вачэй не адарвеш.*

**Дуркеша** (з адценнем спачування) — дурніца. *Хто ездзіць, хто плывець, а наша дуркеша чэшаць пеша.*

**Дуронік** — гарэза. *Такі дуроны, такі дуронік, нікога не слухаіць, робіць, што хочаць.*

**Дух** — цяпло. *Дым не пайшоў у комін, даўно не топліна, і ў хаці дымны дух.*

**Душнíк** — засланка, якая зачыняе дымаход у печы. *Адчыніш душнік — дым пойдзіць.*

**Дыня** — пахвіна. *Стахван як падарваўся, грузячы мяхі, дык з дыняў кіла вылазіць.*

**Дэрба (дэбра)** — хударэбрына, няўвішная. *А мая во якая дэрба, ні да чога.*

— *Дай закурыць.*
— *Закуры кату пад хвост* (адказваюць малому).
— *Дзе арэх?*
— *Арэх у ямі.*
— *Збілі чым арэх?*
— *Кіямі.*

(Хуткамоўка.)

— Добры вечар!
— Добра лечыў, ды памёр.

Да абуха напіўся.
Да Грамніц пілнуйся рукавіц.
Да нашага куста ўсё пуста.
Да пакатунку напіцца.
Да пары збан ваду носіць: ручка адарвецца й збан паб'ецца.
Да работы — агонь і да люботы, як конь.
Да цёмнага вечара (працаваць).
Дабранач — усе блохі нанач.
Дабрахвочы глядзіць скупому ў вочы.
Давялося на вяку чарвяку.
Дажыліся кулікі — ані солі, ні мукі.
Дай Бог мяшаць свінням, ды сваім.
Дай Бог раз жаніцца, раз ксціцца й раз паміраць.
Дай, Божа, сесці на шчаслівым месці.
Дай, Божа, у наймé людзям, ды не мне.
Дакуль заяц бяжыць у лес? (Да сярэдзіны, а далей бяжыць з лесу.)
Далёка воку да боку, а бабылю да гаспадара.
Далёка п'яны гойкаў (не хутка будзе).
Дам так — аж чэрці засмяюцца.
Дар зá дар, а дарма — ніц.
Дарма й каза ваўку не скачаць, як паскачаць, дык і з'есь.
Дармавому каню ў зубы не глядзяць.
Дась Бог дзень, дась і пажытак.
Датуль матка міла, пакуль срачку мыла.
Даў пілі, як заяц кабылі.
Даўгі, хоць сабак вешай.
Даць, як у цы́мбалы (усыпаць, уперыць).
Дачка — чужая крупеня.
Даюць, ды з рук не пускаюць.
Два зазімкі, а тады зіма.
Два каты смітану ліжуць (сані).
Два мядзведзі ў вадным логавішчы не тоўпяцца.

Два Юр'і, і абодва дурні: адзін галодны, другі халодны, адзін вясной, а другі ўвосень ходзіць.

Дванаццаць з поўначы прабіла, прывёз на базар Зуська мыла й пачаў таргаваць.

Двух варон варты, ажэнішся — ніводнай варты ня будзіш.

Дзве бабы й Тумаш — поўны кірмаш.

Дзе даюць — піці, дзе б'юць — уцікайці.

Дзе дзіцё адно, там заўсягды не ладно.

Дзе здабыць тога зелля, што робіць вяселля?

Дзе конь качаіцца, там поўсць астаніцца.

Дзе няма роста, там няма й прыгоства.

Дзе рот, там і смурод.

Дзе сабак многа, там двор не абброхан.

Дзе трушком, дзе бяжком, а дзе й шагам.

Дзе харчы, там і тарчы.

Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!

Дзень пражыў — бліжэй да смерці.

Дзесяціна саду й мельніца ззаду (заможніца).

Дзесяць гадоў нявестка зжыла й не ведала, што сучка без хваста.

Дзівак нябожчык: і памёршы смяецца.

Дзівак рыбак: на вадзе сядзіць і піць просіць.

Дзіччу расці (на лес гледзячы).

Дзякуй за тую, сыграй другую!

Дзякуй сталу й скамейцы і ўсей сямейцы!

Дзякуй таму, хто хлебам корміць, а таму ўдвая, хто хлеб-соль помніць.

Дзяржаць пад слухом (некага).

Дзятлу німа дзе дзюбнуць.

Дзяўчына з кароткай шыяй, як мяшок завязаны.

Дзяўчына, як жалуд.

Днём лета не позна.

Добра вам жыць! (Слова на развітанне.)

Добра таго біць, каму баліць, добра таго лаіць, хто сорам маіць.

Добра ўсё ўмець, ды ня ўсё робіць.

Добра хлебу за блінамі, добра бацьку за сынамі.

Добра, што табе ўдалося, як Салосі.

Добраму чалавечку добра й ў запечку, а якой благаце блага й на куце.

Добрая жонка цяплей за валёнкі.

Добрая цацотка (цаца).

Добры чалавек пабаіцца ківа, а благі не пабаіцца й кія, калі не паможыць кіў, не паможыць і кій.

Добры чалавек, ды німа чаго даць.
Добры, як спіць: з кіем абыйдзіш.
Дома й салома ядома, а ў гасцях і сена ня есца.
Дома кажны куст гаворыць.
Дарага не прасі, скарэй прадасі.
Досіць зубы шчэрыць, будзім вячэраць.
Дрэнная карова адна прыйдзіць і ўсё сапсуець.
Думай за мора, а смерць за плячмі.
Дурны, як аглоблі.
Дурны як трэба.
Дурны, аж круціцца.
Дурны-дурны, а скваркі любіць.
Дурных не сеюць, не пашуць — самі раджаюцца.
Дурня работа любіць.
Дуросці поўны косці.
Духí падхартала (ад голаду).
Душа сваю долю чуіць.
Душачка б прымала, ды скурачкі мала.

**Еданíна** — ежа, едзіва. *Як глянула, аж чорна вісіць вішняў, еданіны будзіць на дзень.*

**Е́джанае** — тое, што ўжо елі, спытвалі. *Смíтана ў слоіку няеджаная, запраўляй халаднік.*

**Едма есці** — не даваць спакою. *Едма есь яго штодня, як толькі чалавек трываіць.*

**Езданіна** — язда, паездзіны. *Лепі дрэнная езданіна, нячым добрая хаданіна.*

**Еменка** — бульба на спажытак. *Еменка на емя, а семенка на семя.* Яшчэ — еменная (і семенная) бульба. *З яго ні емя, ні семя.*

**Ендза (яндзун, яндзуха)** — хто енчыць. *Ад гэтай ендзы й сам заенчыш.*

**Енкат** — енк. *Каго ўжо там б'юць, што енкат такі стаіць?*

**Ешчы** — добры на ежу. *Парасёнак папаўся ешчы, нейкая скварка к зіме будзіць.*

*Еў я пана, еў я цара,*
*Толькі рыбкі не спытаў.*
*За рыбкай паганюся*
*І сам утаплюся.*
(Камар.)

Еду, еду на старым дзеду, кійком паганяю, на смерць забіваю (човен і вёслы).

Ежа — толькі шалёнаму сабаку на хвост выліць.

Едзіва — адно рэдзіва, каб хоць троху густыша, засмяялася б душа.
Ей жа будзіць столькі хварсы́.
Ей сягоння не гумар (гумор) бегчы.
Ей хоць прысаку на пяты сып, усё роўна будзіць крычаць: люблю.
Елі панамі — адыйшлі свіннямі (не прыбралі са стала).
Есці як не сваімі зубамі (кепска).
Еш горка, пі сольна, памрэш, не згніеш.
Еш, дзеўка, селязенку — каса вялікая будзіць.
Еш квашаніну, а то Кундаль зьесь.
Еш, пакуль не запяеш.
Еш, пакуль рот свеж, а як завяніць, не загляніць (а як памрэш, і калом не ўпрэш).
Ешце, хоць кішкі на плечы.

**Ёкат** — екатанне. *Хваціла ёкату, пакуль яго ўгаманілі.*
**Ёлкае** — гаркаватае. *Леташняя сала ўжо ёлкае, ялчыць на языку.*
**Ёўня** — халодная гаспадарчая будыніна. *У хаці, як у ёўні.*

Ён і ад яйка адліець.
Ён моўча, а дума воўча.
Ён табе не шыш-варона й не кукуй-заяц.
Ёрмы чужыя, а наша шыя.
Ёсць што казаць, няма каму слухаць.
Ёсь папарць, як языкі, а ёсь, як парасонік, на балотах.

**Жабурынне** — жабіная ікра падчас нерасту. *У жаб нораст пачаўся, ад жабурыння ўся сажалка зялёная.*
**Жа́ласнік (жаласніца)** — той, хто спачувае, жалее. *Жаласніца знайшлася, хочаць заплакаць, ды ня ўмеіць.*
**Жаркота** — гарачыня. *Надаела нашай гаспадыньцы жаркота-пякота.*
**Жарсцвяк** — пясок, жарства. *Нічога не расло — адзін жарсцвяк на гародзе.*
**Жаўжаняткі** — малыя жвавыя дзеткі. *Для маткі роўныя ўсе жаўжаняткі.*
**Жаўцяк** — жоўць. *Жаўцяк у рыбы выцек.* Яшчэ — пясок. *Капалі яму — адзін жаўцяк.*
**Жва́нікі** — пажванае едзіва, якім, бывае, кормяць малога, яшчэ бяззубага. *Сама еш жванікі свае, а мне ня торкай.*

**Жму́рнуць** — міргнуць, зірнуць прыжмурана. *Нічога не сказала, толькі вачмі жмурнула.*

**Жмут** — жменя, пук сена, травы. *Хоць жмуток сена ды ўкініш у яслі.* Яшчэ — скупы чалавек, скнара. *Такі ўжо жмут, такі жмудзяк, што зімой лёду не пазычыць.*

**Жогаль** — той, хто паўсюль паспявае. *Куды б ні пайшоў, а жогаль — жох тут як тут.* (Жогаль — магчыма, адзін з адменнікаў божышча агню.)

**Жор** — жыраванне. *Якраз рыба на жор пайшла.*

**Жу́дзель** — парасячае імя. *Жудзель як заваліўся ў лужыну, дык і вылазіць не хочаць.*

**Журыла** — дакучнік, ныцік. *Мяне жонка не зажурыць, я сам добры журыла.*

**Жывасіллю** — праз сілу. *Жывасіллю ўпёрлі мне гэткае дабро.*

**Жывіна́** — жывёла, птаства. *Усё ж жывіна ў хаці нейкая.* Яшчэ — жывацiна. *У гаспадарцы павінна быць жывацiна.*

**Жыгалка** — быстрая, жарсная. *Так і жыгаіць жыгалка, каб за якога мальца зачапіцца.*

**Жыгун** — спрытны ў заляцаннях, юрлівы. *Такі жыгун у смаляной кабылкі выпрасіць і мёрзлай сучцы ўціснiць.*

**Жыдзе́ль** — рэдкая страва. *Зва́рыць жыдзель такі, хоць сёрбай, хоць пі, хоць галаву мый.*

**Жыллё** — жылы. *Ей атняло ногі й жыллё падцягнула.*

**Жымаласны** — падцягнуты, зграбны, паджары. *А нашто лішняе мяса, яны такія жымаласныя, крэпкія.*

**Жытнічак** — невялікі палявы пацучок. *Ішлі з лагеру (з нямецкага), абначавалі ў Воранi. Дзед поліўкі навaрыў. Пытаемся: а з чым поліўка? Кажыць: жытнічкаў налавіў.*

**Жыць з капейкі** — з зарплаты, з пенсіі, не мець сваёй гаспадаркі. *З капейкі жыўшы, не разгонішся.*

*Жыў-быў буцян*
*На высокіх нагах,*
*На шырокіх лугах.*
*Ставіў пунькі-прыпунькі,*
*Накашаваў сена-сянца.*
*Будзім пачынаць знову з канца?*
(Прыбабунька.)

Жаніся, каб дурныя не звяліся.
Жар касці не ломіць.
Жар насіў у прыпале й разуваўся на стале.
Ждала-ждала й жданкі паела.
Жджы, сучка, Іллі, блін з'ясі.
Жывець шэртам, вэртам, перавэртам.

Жыві верна й крадзь памерна (жыві па веры й крадзь па меры).

Жыві ды не хачу (добра).

Жывіце, як брацці, а рахуйцеся, як жыддзі.

Жывот аб жывот пацерці — й ня будзіць балець да самай смерці (медычная парада).

Жыву як Дарота — ад рукі да рота.

Жыву, як жыд на млыне: жыд круціцца, а млын стаіць.

Жыву, нічога не маю, алі й з вазоў не хапаю.

Жыць будзіш, алі не захочаш.

**З казу ростам** — невялікая, маленькая. *І меньшанькая ўжо з казу ростам, расцець.*

**З'ежнае** — ядомае, што можна есці. *Там з'ежнага нічога німа.*

**За памяццю** — пакуль помніцца, пакуль не забылася. *За памяццю трэба адкупіць муку, а так удаўніець пазыка.*

**За́барсні** — халяўкі. Забарсаць — зашнураваць чаравікі. *Халяўкі, якія забарсаваліся, й зваліся забарснямі. Чаравік разбарсаўся — развязаліся шнуркі. Снег ужо ў забарсні (глыбокі). Па забарсні снег (не дужа глыбокі).*

**Забаяцца** — спалохацца. *А я забаялася, што не застану іх.*

**Забла́жыць** — зашкодзіць. *Табе не заблажыць схадзіць да лекара.*

**Заблу́д** — аблуда, атлум. *Гарэлка заводзіць у заблуд іх.*

**Забражыцца** — закіснуць, пачынаць брадзіць. *Ягады ўжо забражыліся, доўга ляжалі ў слоіку.*

**Забратаць** — залыгаць. *Забратаў карову за рогі й павёў.* (Хутчэй за ўсё ад аброці.)

**Забрусець** — зрабіцца цвярдым, як брус. Пра вымя, пра твар (з адценнем агіды кажуць). *У Гілёні віма забрусела. У гэнага начальніка морда забрусела.*

**Забутэліцца** — запіць, цягнуцца да бутэлькі. *Забутэліцца так можна, што ад гарэлкі памрэш.*

**Забыць** — адбыць. *Паспела сваю радоўку забыць.*

**Забягалаўцы** — хто забягае выпіць на хаду. *Забягалаўцы п'юць з чарак, дык і з карэлых яшчэ.*

**Зава́дзісты** — пышны, багаты. *Бярэзіна завадзістая пад вакном, аж на душы спакой.*

**Заваліцца** — сканаць, памерці. *Яны ждуць, каб я завалілася.*

**Завароткі** — манеры, нораў, ухваткі. *У мяне кароткі завароткі.*

**Завіло ў матылях** — занатурыўся, нешта ў галаву ўбілася. *Яму ўжо завіло ў матылях, гародзіць гарод.*

**Завінуцца** — шчыра ўвіхацца. *Яна так завінулася каля печы, што бліны самі на стол скакалі.*

**Завод** — развядзенне, гадоўля. *Купіла дзвюх курачак, а ўсё завод быў. Авечкі свайго заводу, воўна ў іх густая.*

**Заводлівая** — купленая ці пакінутая на завод. *Гэта заводлівая карова.*

**Завозер'е** — мясціна за возерам. *У завозер'і чарніц гібель.*

**Завознік** — той, хто на млыне стаіць у завозе — чакае сваёй чаргі. *І завознікі пакалелі, й коні перастаяліся.*

**Завя́зак** — завязь. *Агуркі ад першага завязку памочаныя, яны размякчэць маглі.*

**Загавеніць** — добра зачарэпнуць. *Сабе мёду дык загавеніў, аж лыжка трэснула, а мне — рука задрыжэла.*

**Загібець** — сканаць, дайсці, загнуцца. *Я так саўсім загібею.*

**Загон** — запас, затай на чорны дзень. *Пенсію палучаіць, дый загону многа тысяч ёсь.*

**Загруднік** — хвартух. *Які ў цябе загруднік модны, з гузікамі.*

**Загудзець** — заспяваць. *Тады я загудзела гэту песню.*

**Задраць палазы** — сканаць. *І Сальнік ужо задраў палазы, а думаў усіх перажыць.*

**Задубарыцца** — заўпарціцца. *Задубарыўся, хоць ты кол яму на галаве чашы.* (Магчыма, ад дуба.)

**Задылдаваты** — заносісты, пыхлівы, занудны. *Не столькі багаты, колькі задылдаваты.*

**Зазвярэць** — улюцець. *Так зазвярэў — на людзей не глядзіць.*

**За́ймішча** — распачаты, прамечаны кавалак жніва, касьбы. *Заняў займішча куды там, ці справіцца толькі.*

**Закалец** — вязкі слой у бохане. *Хлеб з закальцам спёкся. Закалец у палец.*

**Заканурак** — куток, закутак. *Схавацца заканурак знойдзіш.*

**Закіпцюры́ць** — ухапіць, сцапаць. *Сабе дык лепшае закіпцюрыў.*

**Закокаць** — гукаперайманне. *Як пятух закокаіць, куры бягом.*

**Закотам** — закочваючы. *Цяжкое бярвенне на машыну закотам грузілі.*

**Закрапа́цца** — заблытацца. *Ідзі, каза закрапалася.*

**Закраса** — прыправа да стравы. *І да мяса трэба закраса* (кажуць пра соль).

**Закрута́ць** — дужа захацець, загарэцца нечым.

*Загарэўся куль саломы,—*
*Толькі пыхаіць агонь.*
*Закрутала дзеўка замуж,—*
*Толькі топаіць нагой.*

**Закукярэчыцца** — задраць нос, закапызіцца. *Закукярэчаўся так, што сваіх не прызнаець і чужых не знаіць.*

**Залапіць вочы** — даць хабар, даць у лапу. *Ён ужо добра залапіў вочы суддзю, ясна, што сваё высудзіць.*

**Залатнік** — хвароба. Гэта, калі хто падарвецца. *Мяне тры бабы вучылі загаварваць залатнік. На моры дванаццаць царквей, дванаццаць свяшчэннікаў, дванаццаць абедзен. Абедня састаіцца, залатымі путамі падпеpaзaнa. А ты, залатнік, стань на месці ў залатым крэслі, пад бакі не падпірай, у дыні не ўпірай. Дай, Божа, помач ад маей просьбы.* Ці яшчэ. *Ах, Божа мой, памашнічак мой, памажы ж ты мне. Ішоў Хрыстос ціраз рэчку і так жа Іардані, перайшоўшы рэчку, сеў у крэслічку. Залатнік, стань на месцічку! А трэцяя вучыла, тая караценька. Залатнік залаты, залатнік малады, па касцях не хадзі, па жываце не хадзі, стань на месці ў залатым крэслі!* А пад канец: *Святы Дух, святая Тройца, святая памашніца. Кажная баба свой загавор маіць. Залатнік ад падрыву, як падарвецца. Дыні — пахі, яны дыні завуцца.*

**Залачок** — золак. *Устала ў чатыры, віднеіцца, залачок, мне так добра.*

**Залетаваць** — застацца на лета. *Скасі траву, каб не залетавала. Трэба расаду высадзіць, а то залетаваіць.*

**Залі́вень** — заліўны дождж, залева. *Залівень як запражэцца, дык свет белы заліць гатоў.*

**Залобак** — франтон. *Забілі залобак — і на гарэ зацішна стала. У залобку ластаўка гняздзечка зляпіла.*

**Залужэнне** — нізкая мясціна за лугам, лугавіна. *Ішла нізам, залужэннем, далей ад людзкога вока.*

**Залысі́ць** — задзерці кару на дрэве. *І які цябе чорт пад руку штурхнуў, каб ты лес залысіў.*

**Замкі́** — мачавы пузыр. *У малога крэпкія замкі, ні разу яшчэ рыбы не налавіў (не абмачыўся, не ўсюкаўся).*

**Замураваць** — пакрыцца лёдам, шэранню (пра шыбы). *Вокны замуравала, нічога не відаць. Вокны, як мядзведзі, замуравала за ноч.*

**Замясціць** — замяніць. *Ты паглядзі, колькі ты замясціла мяса петухамі.*

**Занездаравець** — занядужаць, падупасці, набрацца хваробы. *Сынок мой, нешта занездаравела я. Трэба бульбу пацерабіць ад растоў, можа, яна занездаравела.*

**Запа́длівы** — хваравіты, часта западае (хварэе). *Малы западлівы, з хваробы не вылазіць.*

**За́пал** — запар, адзін за адным. *Думаіш, што тры дні запал свята будзіць.*

**Запасці ў вока** — запомніцца, падабацца, запрыкмеціцца. *Трэба, каб ты яму ў вока запаў.*

**Заплюснуць** — заплюшчыць. *Яшчэ адну хвілю, і заплюснуў вочы.*

**Запоіны** — сваты, калі запіваюць маладую. *Паедзем у запоіны, пакуль не перадумалі.*

**Запу́ткі** — абходныя сцежкі, прасёлкі. *Не йдзіце запуткамі, а йдзіце бальшаком.*

**Запятак** — абцас. *Насы дзяржацца, а запяткі шлём-шлём.*

**Зародыш** — зародак, зачатак. *У мокрага семя німа зародыша, а ў сухім, як чарвячок.*

**Заспець** — застаць. *Як на тое ліха, не заспеў начальніка.*

**Засунуць** — зачыніць на засоў. *Я сені засунула, праз вакно вылізла й дзверы зашчапіла.*

**Затаміцца** — замарыцца, прыстаць. *Пакуль сюды прыйшла, затамілася.*

**Затаргаваць** — купіць, утаргаваць. *Казу затаргавала, козная.*

**За́таўчына (за́таўка)** — сала ці здор, якім запраўляюць (затаўкаюць) страву. *Гэта добра, затаўка маіцца. Не голы ж булён, а затаўканы. Не па катлу затаўчына.*

**За́ткала** — заторчына, якой затыкалі комін. *Заткала закудактала, памяло яйцо знясло.* Яшчэ — неахайны чалавек. *Ходзіць, як заткала, мурзаты, чорны.*

**Затохнуцца** — задыхнуцца. *Рыба ў возіры затохлася. Прывёз прадаваць тохлую рыбу рыбак без кручка ў галаве.*

**Затравець** — парасці травой. *Гарод астаўся няпаханы, затравеў увесь.*

**Зату́ла** — вялікі фартух, каб затуліцца (звычайна ў рыбакоў скураныя). *Яшчэ ў яго рыбацкая затула новая.*

**За́тхля** — задуха, безвятроўе, бязветрыца. *Такая жара, такая затхля стаіць, дыхаць німа чым.*

**Заўдавець** — зрабіцца ўдаўцом. *І Піліп заўдавеў рана.*

**Захвэндаць** — забрудніць, занасіць да чарнаты. *Што ні надзеніць, усё захвэндаіць, такая ўжо хвэнда.*

**Захмурэць** — захмарыцца. *Нешта рана захмурэла.*

**Заходнік** — сетка лавіць рыбу, таптуха. *Адзін заходзіць, а другі заходнік дзяржыць, рыбе й німа куды дзявацца.*

**За́цепла** — не чакаючы халадоў. *Добра, што яблыкі зацепла знялі.*

**Заціснуць** — даканаць, забіць. *Тут аднаго чалавека на Ліпаўцы бык забоў, ён яго глядзеў, а ён яго заціснуў.*

**Зацягнуцца** — пра доўг. *У мяне былі зацягнуўшыся грошы, дык я ўжо адразу аддала.*

**Зашáціцца** — схавацца, застацца. *Зашаціўся адзін агурок у бураках, такі ладны.* (Затаіцца пад шатамі.)

**Зашытае** — гарачае варыва, якое зашылася (заплыло, пакрылася) тлушчам. *Поліўка, яна зашытая, дык ты дуй.*

**Збáгдарыць** — збыць, прагуляць, прадаць за бесцань, цішком. *Ён усё, што бацька нажыў, скора збагдарыў.* (Відаць, ад — Богу дарыць.)

**Збан** — посуд з гліны пад вадкае й сыпкае. *Да пары збан ваду носіць. Галава, як збан.* Розныя назовы ў збана. Ручасцік — з ручкаю. Гарлач (гладышок) — гладкі, паліваны. Гарнушак — болей конаўку нагадвае. *Выпі, выпі, мая душачка, з поўненькага гарнушачка!*

**Збегчы** — угнацца, бегчы разам, дагнаць. *Дужа мама збяжыць за намі.*

**Збежышча** — месца, дзе збягаюцца. *Ваўкам не збежышча, сарокам не злецішча* (заклён).

**Збівіны** — стаптаная, зблочаная збажына. *Ня жыта, а збівіны адны засталіся.*

**Збрагнуць** — забрадзіць, укіснуць. *Незакупаранае варэнне аментам збрагніць.*

**Звадыяш** — ашуканец, той, хто зводзіць з правільнай дарогі. *Звадыяш і чорта звядзець, і сябе абвядзець.*

**Званне** — мянушка. *З некага знялі званне, а к яму прылажылі, і стаў Мэгуш.*

**Звекаваць** — доўга жыць на адным мейсцы. *Я ўжо звекавала тут і то не ўсё помню.*

**Звесціся** — занудзіцца, занядужаць. *Усё ж я багата, а то саўсім без курэй звялася. Столькі хварэіць, звёўся на сцень.*

**Звесць** — звестка, навіна. *Сарока прыляцела, нейкую звесць прынясла. Сініца стукаіць у вакно, нейкую звесць дасць.*

**Звягунéц** — галасісты званок, звычайна пад дугою. *Гоняць коні ганцы, і звіняць звягунцы, едзіць вяселля.*

**Звярыца** — злая асоба. *Не матка, а звярыца нейкая, на роднага рабёнка кідаецца.*

**Звя́цца** — зніцець, усохнуць. *Сёлета бульба так звялася — адны арэшкі. Развялася гэта бульба, смашная была.*

**Згалавець** — здурнець, з'ехаць з глузду. *Што ты, згалавела — такое робіць?*

**Згараны** — звараны, спечаны, прыдуманы. *Згараны з нечага — людзі не свінні, усё з'ядуць.*

**Згірдзіцца** — сканаць, акалець, счэзнуць. *Скрыпеўскрыпеў і згірдзіўся.*

**Згла́бсціць** — прыбраць да рук. *І не жыў, каб не зглабсціць хоць што-небудзь.*

**Зглоціць** — збаёдаваць, некуды падзець. *І калі толькі паспеў зглоціць набытак? Куды ўжо зглоціла мяшалку?* (Яўна, ад глытаць.)

**Згыркаць** — зглуміць. *Столькі дабра згыркаў і каб дзякуй сказаў.* Яшчэ — згубіць, недзе падзець. *Згыркаў ужо недзе сцізорык.*

**Здача** — здаванне, выправодзіны. *У салдаты раней не праводзілі, возьміць торбачку, пасадзюць у Полацак, там здача была.*

**Здзержыць** — стрымацца. *На табе, учора дождж здзержаў, а сягоння як пачаў з паўдня, веялкай шумела-шумела ўсё.*

**Здубавецця** — усе сабранае абы-як, абы-што сказанае. *Ён здубавецця вярзець, а мы слухаць павінны.*

**Здобыч** — пажытак. *І пайшоў гэта воўк на здобыч.*

**Зды́хацца** — аддыхацца. *Не магу здыхацца, юшкі столькі з'ела за ўсе дні.*

**Зжыць** — перажаыць. *Быў чалавек з Атрошкава, чатыры жонкі зжыў.*

**Зжыць на сабаку** — дажыцца да непавагі, да абразлівага стаўлення. *Бедны Курыла на сабаку зжыў, нявестка аб яго ногі выціраіць.*

**Ззаўха́** — з-за вуха, з размаху, раптоўна. *Як грымнуў ззаўха, дык ён брык вобземлю.*

**Злажыць** — зваліць віну на іншага. *Усё на гэту бабу злажыла, а сама сухая выйшла, сама асталася чыста.*

**Зласець (разласець)** — прывыкнуць да прысмакаў. *І кот зласеў, ужо абы-чаго не есь.*

**Зла́скаваць** — спесціць, раздурыць. *Малога зласкавалі, а цяпер самі не рады.*

**Злая моц** — злосны, зацяты. *Злая моц, а не чалавек, усіх ненавідзіць.*

**Злеціцца** — крыху сагрэцца, адстаяцца. *Абы троху вада злецілася. Злець ваду, хай хоць летняя будзіць.*

**Змазгаваць** — прыдумаць, прыдбаць. *Можа, паўлітру змазгуім?*

**Змікіціць** — прыдумаць, арганізаваць, вымергаваць. *На трох паўлітэрку змікіцілі — і на душы цяплей стала.*

**Змý́ста** — той, хто прымушае, змушае да пэўнай працы. *Стары — змуста, ды без яго ў двары пуста.*

**Змяісты** — хітры, затоены. *Яна такая змяістая, жах.*

**Змякчыцца** — адысці, падабрэць, палагоднець. *Праўда, ён тут змякчыўся.*

**Знакомасць** — знаёмства, сяброўства. *Яго жонка вазьмі памёрла, ён па старой знакомасці ўзяў шляхцянку з Вурады.*

**Знасіць ногі** — прыстаць ад хадні. *Проста ногі зносіш, пакуль упадзеш чаго.* Пра адзежу — усё зношанае-пераношанае.

**Знатка** — прыкметна, відно, памеціна. *Па цялятку знатка, якая матка. Індыкі дзе стануць у гародзі, там і знак (знатка).*

**Знахальнічаць** — згвалтаваць. *Жанчыну заб'ець, а пасля знахальнічаіць.*

**Знахопу** — з наскоку, нечакана. *Хочаць усё ўхапіць знахопу, нецярплівы.*

**Зніцець** — змарнець, звяць, пабялець. *У бульбы каліўе зніцела ад такой пякоты.* (Бадай, ад нікнуць ці ад ніткі.)

**Знові (знава)** — адразу, спачатку. *Каб я знові зробіў, лепі было б. Яна знава такая няспраўная, мясакрутка гэтая.*

**Знячы́велі** — з перапуду, з нечаканкі. *Знячывелі, аж заікацца стаў.*

**Зразвагі** — не спяшаючыся. *Ідзе сабе паволі, зразвагі.*

**Зробіцца** — дамовіцца, уладзіць. *Ты не чапайся, я сама неяк зроблюся.*

**Зродасць** — радня. *У яе ж нейкая зродасць ёсь.*

**Зубашчэр** — весялун, баламут, прасмішнік. *У зубашчэра са смеху вячэра.*

**Зу́брыць** — навучаць, нацкоўваць. *Яна яму зубрыць, кажаць гэтак і гэтак.*

**Зу́хнуць** — павесці сябе як зух, шыкануць. *Яго хлебам не кармі, а дай зухнуць.*

**Зцёмным** — абначэла. *Зцёмным прыехалі, дарога была далёкая.*

**Зыгарадзь** — загароджа. *Зыгарадзь коні паламалі, німа парадку скрозь.*

**Зык** — гіз, калі на кароў нападаюць авадні й сляпні. *Карову б'ець зык, а бабу бабскі язык. Сонца сагрэіць, дык і каровы зазыкуюць.*

**Зылда** — неўваротлівы, нехлямяжы. *Кавалеры ў яе ўсе нейкія — то зылда, то дылда.*

**Зялёнкі** — няспелыя ягады (зеленчакі, зяляннё, болей пра яблыкі). *Чарэшні каля плоту — адны зялёнкі. Зяляння, гэтых ападышаў калі хто прынясець.*

**Зятняя** — зяцева. *Браў ён зятняй жонкі дачку.*

— Значыцца...

— Калі значыцца, дык і целіцца (значыцца — у каровы па баках відаць, што хутка ацеліцца).

З аднаго боку пячэць, а з другога думу валачэць (ля вогнішча).
З бараной па лесі ходзіць.
З Богам, Хадорка, калі людцы здараюцца.
З вады ў ваду й сухі.
З высакосці паламаіш косці.
З вялікіх выбораў лапці ды аборы.
З гора кот капусту есь.
З гурту выбіраюць курту.
З дзякуй шапкі не пашыіш.
З добрага дупла добрая й птушка.
З ігрушкі коцяцца недалёка гнілушкі.
З кім не рос, таму не дзьмі ў нос.
З крыкам, з гікам.
З кулаччом кідацца (на каго-небудзь).
З кута ў кут — і вечар тут.
З лясочку дачакаеш, а з пясочку — не.
З макавае зярнятка хлеба не бачыў.
З малачком і зямельку абгоніш (мама дадавала: як абгоніцца ў році, дык і праглынецца).
З навойчыка ды за малойчыка.
З носу па грошу, а ў каго большы — з таго два.
З печы зваліцца й зад не пабіць.
З сабачым хвастом у ваўчыны табар.
З усіх капылоў далоў.
З чорта пералетка (маленькі).
З яго карысці, як з казла малака.
З'еш акрайчык, каб быў сын Мікалайчык.
З'явіліся апенкі — праз месяц мароз.
За адным скрыпам (выйсці з хаты разам).
За гарой табе Насярэйка кланяўся.
За дзянькую ніц не купую.
За другім бачыць пажашкі, а за сабой і бярвенні не бачыць.
За дурной галавой і нагам неўспакой.
За пнём галава, за калодай ногі (усё да толку, утульна).
За прос не б'юць у нос.
За руку, як суку́ (браць жонку без вянца).
За свой грош усюдых харош.
За слабо й цыган павесіўся.
За тры гады боты, як перуном, спаліла.
За тры дні пірад смерцю ўсе папраўляюцца.
За хатуль ды адтуль.
Забі мяне лапцем (калі не так).
Загнаць у казіны рог (давесці да безвыходнасці).

Задаецца, як хлеб у дзежцы.
Задраць палазы (сканаць).
Задумаўся, як сабака ў чоўні.
Зайца забіў метраў дваццаць.
Зайцы поле ўгнойваюць (у нядбаліцы).
Зайшоў за Дунай і дамоў не бувай.
Закаціцца кандзібоберам (з пыхай).
Закон без вакон.
Закруціў носам, быццам хрэну панюхаў.
Замуж хоць у пятніцу (няўсцерп).
Запішы (засячы) сабе на ілбе.
Запытала зіма, дзе ты лета быў.
Зарадзіў Бог чалавечка — ні баран, ні авечка.
Зарадзіўся сабака з лысінкай, дык і здохніць з ей.
Заробіла, як Хоўра на воўне.
Заробіў бочку мякіны.
Заробіў курам на соль.
Заробіў як Заблоцкі на мылі.
Заробіць стыдніцу.
Засмярдзіць пад сталом, запахніць на стале.
Застала зіма ў летняй адзежы.
Засталося саўсім мала — пачаць і кончыць.
Застаўся толькі дух ды пятух.
Застаўся як на моры без вясла.
Застацца на бабах (ні з чым).
Заўхом руда́, у чарапочку вада (прыгаворваюць, калі кот мыецца).
Захацелася як дурню мыла.
Зашыўся, як прусак у шчыліну.
Заяц і той злосць маіць.
Заяц не трэпліцца.
Заяц у галаве здаровы (дурны, вар'ят).
Збіць на горкі яблык.
Збялеў, як бярэсціна.
Збялеў, як ліпа.
Звер не звер, а чорт яму вер.
Звёўся на самоў хвост (выхудаў).
Звычай. Парасёнка як прыносюць з базару, труць аб печ, каб тоўсты, як печ, быў; труць аб заслонку, каб сала было, як заслонка; кормюць са скаварады, каб свіння была гладкая, як скаварада; абносюць кругом ножкі стала, каб ад дому свіння не адхадзілася.
Згаварыўшыся, і бацьку можна забіць.
Здуру — як з дубу.
Ззаду ды навыскачку.

Зімой хоць худоя, ды ўдвоя.

Злодзя пройдзіць, хата астанецца, а агонь нічога не пакініць.

Злосці поўны косці, а сілы з катовы кілы.

Злосцю людзей не перажывеш.

Злось пакінь на заўтра, а работу зроб сягоння.

Змог не змог — пад ніз лёг.

Змяніў бы́ка на інды́ка.

Змяя свінню не кусаіць.

Знай, дзе ўміраць, саломкі паслаць.

Знаходка — тапор пад лаўкай.

Знік, як нагавіцы з плоту.

Знаіць матка, чыё дзіцятка.

Знойдуцца на рукі мукі.

Зроб бела й гуляй смела.

Зробіў бы многа, ды штаны не пускаюць.

Зробіць гразь на гарэ (марная пагроза).

Зялён, што рута, а кісел, што атрута.

Зялёна, як елка, чырвона, як дзеўка, а хвост, як у мышы́, ды ня мыш? (Морква, бурак.)

Зялёная, а ня луг, белая, а ня снег, сукрыстая, а без валасоў (бярэзіна).

Зямлі скварка, а людзям чарка (калі хто памірае).

Зямля вяліка, а дзецца недзе.

**І лапы абтрэсці** — ніякіх справаў не мець. *Разабраўся з ім па-добраму й лапы абтрос.*

**І па той час** — болей ніколі. *Як сыйшоў кот з хаты й па той час.*

**І хвастом накрыцца** — уцячы, схавацца, не аддаваць доўг. *Пазычыла ей з апошняга, а яна й хвастом накрылася.*

**Ігрушшо** — купка грушынаў. *Ігрушшо стаіць даўнае панскае.*

**Ізгарода** — плот, загароджа, зыгарадзь. *Гарод каля самай яго ізгароды.*

**Ікаўка-смяротніца** — моцная. *Яго ўжо ікаўка-смяротніца б'ець.*

**Ікра́нка** — рыба падчас нерасту. *Цяпер у возіры адна ікранка, нораст жа.*

**Іл** — крухмал. *Колькі там бульбін сабрала, а ілу поўная міса.*

**Ілоўка** — патраўка з крухмалу, забеленая малаком. *Ілоўка — ежа для парогу.*

**Іменне** — імя, мяно. *Нядоля, нядоля, няшчасце маё, Не любіць свякроўка йменніка майго.*

**Імшонік** — імшоны хлеў. *У імшоніку Лысоні, як у мядзвежжум вушку.*

**Імянны палец** — сярэдні палец альбо даўгай. *На імянны палец пярсцёнак усадзіў і хварсіць.*

**Індзеі разводзіць** — малоць пустое. *Толькі індзеі разводзіць, а робіць і не падумаіць.*

**Іскаверціцца (скаверціцца)** — сканаць, адхварэць. *Як ні верціцца, усеадно іскавірціцца.*

**Іскацца** — шукаць вошы ў галаве. *Ты б хоць паіскаўся, а то не галава, а вашэўня.*

**Іcподкі** — вязаныя рукавіцы. *Іх некалі надзявалі на голую руку, а паверх рукавіцы з кажушыны* (з кажушыны — толькі рукавіцамі зваліся). *І ў іcподках рукі пакалелі.*

**Іcподняе** — ніжняя бялізна. *Іcподняе данашаваіцца, на новае напрашаваіцца.* Пад іcпод — пад ніз. *Пад іcпод надзень нешта мякчэйшае, а паверх — калянейшае, і цёпла будзіць.* Іcподнікі — падштанікі. *Матузы ад іcподнікаў па зямлі цягнуцца, кавалер стаптаны.* (Спадніца — ад іcподняга.)

**Істопка** — гаспадарчая будыніна, зімой топяць (паляць), летам халодная. *У яго істопка ёсь, дык і бульба й капуста не мёрзніць.*

**Істрыць** — рабіць вострым (войстрым). *Я ім косы істру, як затупяцца.*

**Ісці ў водмаладзь** — маладзець. *Як ахосала (палюбоўніка) знайшла, дык у водмаладзь пайшла.*

І Аўгіння нявінна, й Ігнат невінават, а вінавата хата, што пусціла Ігната.

І вухам не страпянеш.

І да мяса трэба закраса (соль).

І дзесятаму закажаць.

І за лучынку знаходзюць прычынку.

І камар носа не падсуніць.

І качачка казала: ты-ты-ты-ты.

І кваску ня зробіш з пяску, усё мучыца трэба.

І козы ў золаці, як п'яны.

І лапы сашчэпіць (памрэ).

І лгаць трэба ўмеючы.

І на лаўку і з лаўкі, і вон і з вону (шустры).

І няўмека пячэць, як з засекі цячэць.

І розум бы мела, каб яе спасціла са свету.

І рукамі, і нагамі, і ўсякімі спасабамі.

І семя звялі.

І тыя хвалілі, што цераз шлеі валілі (коні).

І ў вераб'я сэрца ёсь.

І чорт — не брат, і свіння — не сястра.

Ідзі ты к Богу за пісара!

Ілжэць, аж скіпаіцца.

Ілля дась гнілля.

Ішлі лесам, пяялі басам, няслі драўляны піражок з мясам (хаўтуры).

Ішоў пан градой, нёс два бліны пад барадой і кусок сала на галаве (певень).

**Кавалёк (казялок)** — конік. *Кавалькі на дождж трашчаць. Ад казялкоў уся пожня зялёная.*

**Кавалерыцца** — старацца быць кавалерам. *Рана яшчэ табе кавалерыцца, малако на губах не абсохла.*

**Кавёлы** — мыліцы. *На кавёлах, як верабей, скачаць.* Яшчэ пра ногі пагардліва. *Прымі свае кавёлы.*

**Кавялю́га (кавяла)** — крывы, кульгавы, недалужны. Кавялю́гаць. *Во, ужо кавялюгаіць сюды кавялюга гэны.*

**Кажанець** — слаба расці, паршывець (пра малога). *У Плікаціхі маліц гладка скажэнеў, кажан кажанком.*

**Казляччы** — казліны. *Былі два кумпячкі казляччы, і ўсіх прыпасаў.*

**Казярэка** — хто любіць казаць усё поперак. *Як заказярэцца казярэка — не згаворышся, не ўпросіш. Навошта мне казярэка ў хаці?*

**Калапніна** — клопат, намаганне, завіханне. *Калапніны многа каля яго, а толку мала.*

**Калахвосціць** — трэсці, калашмаціць. *Будзіць, будзіць яго, калахвосціць, а ён сабе спіць.*

**Калдунаватая** — злямцаваная, збітая. *На сабаку поўсць калдунаватая.*

**Калека** — мянтуз. *Іван злавіў два язі й калечку.*

**Калелікі** — зябкасць, дрыжыкі, зябікі. *Ужо калелікі бяруць на такім марозі.*

**Калёскі** — каляска, вазоўнічак. *Двое калёсак вады прывязла.*

**Каліва (каліўе)** — куст, націнне бульбы. *Бульбу прапалола, аграблямі выграбла, усё ж калівіна якая будзіць. Сухое каліўе — паспела «спешка»* (гатунак бульбы).

**Калмак** — кузлак. *Хоць калмак сена дай карові.*

**Калоддзе** — калоды. *Дровы — адно калоддзя, тапор і той прыстаў.*

**Калом** — невядома куды, праз зямлю. *Як калом праваліўся серп, ніяк не знайду.*

**Калюччо** — калючае кустоўе. *Такое калючччо — не прадрацца.*

**Калядоўка** — Каляды. *Яшчэ ў Калядоўку дровы прывезіныя ліжаць.*

**Каменка** — мураванка, цагляная будыніна. *Ён у каменцы робіць.*

**Камы́** — страва. *Тлумачыла Марушка: гарох уперад зварыцца, тады бульбу кладуць, запраўляюць салам, алеім, адцэджваюць. Боб намочыш, аблупіш яго, як намокніць, і бульбу послі пакласці й зварыць.*

**Канада́** — назола. *Сядзіць на душы, як канада тая.*

**Канаць** — прасіць, дамагацца. *Канаіць купіць яму абнову.*

**Канашэсь** — жэрдачка, на якой сядзяць куры. *Нанач пасаджу курэй на канашэсь.*

**Ка́па** — накідка (акрывала) на ложак, набіраная кшталту сурвэты. *Закінь ложак новай капай.*

**Канькаць** — прасіць. *Канькала канькаіць, а некала — некаіць.* (Каня просіць піць — канькае.)

**Капа́** — шэсцьдзесят (снапоў, яек). *Раскашуйся, снапе, пакуль у капе!*

**Капанікі** — сані, капылы ў якіх з выкапанага кораня. *У капаніках на капылы йдзець дуб.*

**Капызі́цца** — задавацца, пышацца. *Прыйшлі дзеўкі на базар, сталі капызіцца.*

**Каравай** — горб. *І каравай ззаду на плячах.*

**Караві́на** — зарэзаная карова. *Дзяку, дзяку, каб ты мені вякаў, палавіна каравіны й скура табе* (шаптаў селянін, які ўкраў карову, на судзе дзяку, які выступаў сведкам).

**Карапунька** — караценькі, маленечкі. *Маліц недалужны быў, такі карапунька.*

**Каратэлька** — гатунак морквы. *Ляху «каратэлькі» пасадзіла, яе добра ў капусту крышыць.*

**Караўка** — каравая (брудная, каляная ад гразі) анучка. *Пакараў Бог і караўкай накрыў.*

**Карміна́** — корм, кармы. *Карміны гэтай можна было нанасіць на ўсю зіму.*

**Карнавухі** — з кароткімі вушамі. *У карнавухага сабакі дарогу пытацца.*

**Карнаты** — без хваста. *Сабака ты карнаты.*

**Каруза** — прыставала, надаеднік. *Як прычэпіцца да каго каруза, не адстаніць.*

**Карчанець** — зябнуць, слаба гнуцца (пра рукі). *У проламцы лайно палашчу, рукі карчанеюць, нічога ня ўзяць імі.*

**Карэлая** — брудная. *Карэлую сарочку надзеў і хварсіць.* (Можа, што стала, як карына, ад бруду.) *«Гразь, гразь, чаму ты не гарыш?» — «Я б гарэла, каб не была карэла». Ідзі*

*чыста, не йдзі карэла, ненавіджу мужыкоў, якія карэлыя ходзюць.*

**Касма́рка** — касматая. *За пуп — руб, за касмарку — марку.*

**Ка́смаўка** — невялічкі ахапачак. *Касмаўку сена пад паху — і дахаты.*

**Касталыга** — кульгавы, на мыліцах. *Што з гэтым касталыгам зробіш?*

**Касцёр** — града дроў. *Складзі дровы ў касцёр, хай не мокнуць.*

**Ката́нка** — скручаная скароміна. *Дала яму катанку здору на закрасу.*

**Катлянець** — спаць з перапою (наліўшыся, як кацёл). *Прыпаўзець дамоў і ўсю ноч катлянеіць.*

**Катовы мудкі** — зёлка кашачыя лапкі. *Калі ў сцяну ўторкнуць катовы мудкі, яны ўсю зіму стаяць. Усе травы зніцелі, выпетралі, адны катовы мудкі рудзеюць пухната.*

**Кляўшы́ць** — біць, лупцаваць. *Адвёў у цёмны кут і кляўшыць малога, а той маўчыць.*

**Кроклы** — кроквы. *Кроклы паставілі, цяпер трэба нарашаціць і крыць страху.* Яшчэ — тыповы, выліты, прыродны. *Яна жыдавешачка так сабе, а ён, кроклы жыд, з усіх вылучаіцца.*

**Крукам сядзець** — упарта, не разгінаючы спіны, без разгіну. *Маліц крукам сядзіць над кніжкамі, хочаць у людзі выбіцца.*

**Купа** — торф. *Як купа ўзгарыцца, рады не дасі да восеньскіх дажджоў.*

**Купіна** — яміна, з якой выбралі купу (торф). *Усё балота ў купінах, і цвярозы ня пройдзіць, праваліцца.*

**Кура́я** — гермафрадыт. *Андрэй так і астарэў, ня жэнячыся, відаць, ён курая.*

**Кацíхí** — катахі, кацёлкі. *Па вуліцы конскія кацíхі валяюцца, ні прайсці.*

**Кашлюн** — хто дужа кашляе. *Малы кашлюн усю ноч спаць не даваў.*

**Квактуха** — дзіцячая гульня часінаў мамы.

*Курыца-квактуха*
*Вадзіла дзяцей*
*Каля кляцей.*
*Квок — сесці*
*На чырвоным месці.*

**Квасíны** — ападонне ад квасу. *Як быў квас, тады не было вас, а як засталіся квасіны, і вас чэрці пананасілі.*

**Квачак** — маленькі пэндзлік. *Квачакам добра сценку бяліць.*

**Квашаніна** — сцюдзень, халадзец. *Еш квашаніну, а то Кундаль з'есь.* (Кундаль — імя сабакі. Літоўскае kundalis — сабака.)

**Квя́кат** — прыглушаны гук ад udараў. *Б'юцца — аж квякат ідзець.*

**Кезік** — кацінае мурлыканне. *Кот зацягнуў свой кезік. Яшчэ — курня.*

**Кепікі строіць** — пакепліваць, рабіць насмешку. *Любіць з другіх кепікі строіць, а паглядзеў бы калі на сябе.*

**Кешкацца** — валаводзіцца, таптацца. *Кешкаецца-каламешкаецца, ніяк з хаты не выбірацца.*

**Ківок** — п'яны. *Ківок ківаецца на вуліцы цэлы дзень.*

**Кілун** — кнор. *Свіння на кілуноў паднялася.*

**Кіндзюк** — трыбух, начыняны мясам, салам, вантробамі. *Кіндзюк павесілі сівірыцца на гарэ (гарышчы), летам як знойдзім.*

**Кірмашовікі** — пярэднія зубы. *Кірмашовыя зубы — пярэжнія, а далі — кутнікі. У мяне яшчэ кірмашовікі свае, не казённыя.*

**Кі́рпачка** — кірпаценькая дзяўчынка. *Такая кірпачка ладненькая, такая ўслужлівая, матка не нарадаваіцца з яе.*

**Кісля́ць (кіслаццё)** — кісляціна. *Не ўзвар, а кісляць адна.*

**Кісялёўка** — карчавешка абгабляваная, звычайна стаіць у парозе. *Дажыліся, у хаці каб кісялёўка — гола. Нос, як кісялёўка, а яшчэ задзіраіць яго.*

**Кіў** — порух пальцам з грозьбай. *Добры чалавек пабаіцца ківа, а благі не пабаіцца й кія, калі не паможаць кіў, не паможаць і кій.*

**Кі́чаўка** — купіна на балоце. *Нос, як кічаўка.* (Недзе недалёка ад кічаўкі й рускае кичиться.)

**Кі́шкаць** — праганяць, турыць, пэндзіць. *Адусюль яго кішкалі-кішкалі, нідзе не прыстаў.*

**Кла́дзі** — кладкі, лагі (бёрны, на якія кладуць падлогу). *Пярэйдзім рэчку цераз кладзі. Кладзі трывалыя, падлога, як звон.*

**Клёк** — розум, цямкасць, моц. *У яго ёсь клёк у галаве. Пыхі многа, а клёку мала. Так ён схварэўся, што ніяк ня можа клёку ўзяць.*

**Клённік** — кляновы ліст. *Хлеб пякуць на аіру ці на клённіку.*

**Клышні** — ногі. *Як малая захварэла, дык матка клышні свае падняла, да ўрача пабегла.*

**Клюкатаць** — кіпець. *Вар аж клюкочаць.*

**Кля́ваць** — ледзьве жыць, ліпець, знямоглець. *Дзед ужо чуць кляваіць, на паповы сані збіраецца.*

**Кля́ты** — праклёны, кляцьбёны. *Ужо кляла яго мёртвымі клятамі* (праклінала на смерць).

**Кнігі** — лёгкія (у каровы). *Па такой пыльнай пашы пасуць, што ў Гілёні ўсе кнігі пяском забіла.*

**Кнораз** — кнур. *Яшчэ малы, а ўжо, як кназарок, бегаіць.*

**Колам** — аблогай, нечапана. *Увесь гарод колам ляжыць, німа каму робіць.*

**Конік** — доўгая лава пад кут, ад стала да парога. Пра чалавека, які памёр, кажуць: *на коніку ляжыць.*

**Конікаў пасціць** — калі немаўлятка ўжо абапіраецца на локцікі й падымае галоўку, некуды гледзячы. *Ужо Мікітка конікаў пасець, глядзі й помач бацьку расцець.* Калі малы пачынаў пасці конікаў, вызначалі ягоны лёс. Клалі каля яго вараны бурак і паперыну. Калі пацягнецца да бурака — будзе аратаем, калі да паперыны — пісарам, чалавекам вучоным. (Я пацягнуўся, успамінала мама, да бурака.)

**Корнік** — хто вядзе плыты, сплаў. *Ганкі (плыты) у Рыгу ганяў, корнікам быў.*

**Корх** — мера на шырыню далані. *Давай вымерам кій кархамі. Уручча ў Мікіты два кархі й два пальцы.*

**Котма каціцца** — пра нешта круглае. *Кола з гары котма коціцца, само.*

**Коцы-боцы** — несці малога на плячах, падтрымліваючы рукамі пад азадачак, а малы мусіць трымацца аберуч за шыю дарослага. *Вазьмі Дамінічку коцы-боцы.*

**Крайней** — неабходней, пільней. *Давай, каму крайней трэба.*

**Крапа́ць** — начыняць кілбасы, пхаць пальцам у кішку праз пярсцёнак праз спецыяльную як бы лейку альбо праз мясакрутку. *Троху кілбас накрапала, малы быў падсвінак. Кола крапанай кілбасы суседцы аднясла.*

**Крапось** — моц. *Ты падумай, гэткая крапось.*

**Красняк** — здаровы, ружовашчокі. *Яшчэ такі красняк, а ўсё кволіцца.*

**Кратавінне** — нарытыя кратамі купкі зямлі. *Увесь гарод у кратавінні, як завёўся крот.*

**Крок** — шырынка. *Зашпілі крок, а то пітуха свайго згубіш, выліціць.*

**Круг** — лішай. *Калі ў малога кругі, свежым хлебам мажуць і сабакам ці катам аддаюць. Яшчэ круг так выводзюць: саскрабаюць з круга перхату нажом і кладуць на сук у стале ці падваконні, послі беруць пот з шыбіны й страсаюць на сук, крыжуючы сук гэты некалькі разоў.*

**Круглёвіна** — кружляк, круглы кавалак. *Дзве круглёвіны здору таплёнага дала яму.*

**Кружнік** — скручанае ў круг. *Цэлы кружнік дроту валяецца.*

**Крупяная каша** — з круп. *Кашы крупяной наварыла, укруціла ў фуфайку, каб не стыла.*

**Крутадушнік** — няшчыры, двурушны, крывадушны. *Німа яму веры, крутадушніку, вечна душой круціць.*

**Крутарог** — з крутымі (гнутымі) рагамі. *Ёсь у мяне крутарог, што шавеліць паміж ног.*

**Круцікі** — розная жамяра ў вадзе. *Даланёй балацінку працісніш, здзюмухнеш круцікаў і п'еш.*

**Кручок** — маленькі начальнік, службіст. *Сын ейны нейкім кручком уторкнуўся ў Вушачы.*

**Крушáны** — рассыпісты, скаромны. *Пірог гэткі крушаны — не адламіць, увесь рассыпаіцца.*

**Крываўнік** — зёлка. *Крываўнік, што белым цвіціць, і лісці, як лапці.*

**Крычаць** (пра казу) — хацець казлоў, падымацца на казла. *Хай бы козачкі ўжо крычалі на казлоў. У белай віма з кулачок, як усё роўна дойная.*

**Крыччу сядзець** — не разгінаючы спіны. *А вы тут не сядзіце крыччу, пахадзіці, на людзей паглядзіці.*

**Крэў** — вывернутае дрэва, пень дагары карэннем. *Дзярэцца, як жаба на крэў.*

**Кубатурка** — курка з інкубатара. *Курка-кубатурка, ей пятух усе косці памяжджуліў.*

**Кубачкі** — грыбы. *З дождджу пусціліся, і тут жа занёс сураежкаў, кубачкаў.*

**Кубíч** — невялікі кубельшчык. *Ссып пшанічку ў кубіч, яе мала асталося.*

**Кудлáчыць** — касмаціць, кудлаціць. *Вецер кудлачыць петухоў хвост.*

**Кýка** — драўляная даўбежка, пабаешка, якой разбіваюць глыжы ці лёд. *Зімой, калі пад ільдом стаіць шчупак, б'юць кукай, глушаць, прабіваюць лёд, а пасля восцямі дастаюць рыбіну. Шчупак спіну к сонцу, яго кукай бух, тапаром прасякуць і скарэй на лёд. Некалі свякроў смяялася з маёй маладой мамы, калі яна сказала: «Іван рыбы накукаваў».* Показка: *рукі не кукі.* Яшчэ — крамяная, тоўстая. *Яна, як кукамі збітая.*

**Кукулка** — зязюля. *Месяц пройдзіць, і кукулку не пачуіць. Начная кукулка дзённую перакукуіць (жонка й мацi).* Яшчэ — мала, на завод. *Грошы на кукулку толькі.*

**Кулем-потарчма ляцець** — на злом галавы. *Ляці ты кулем-потарчма, не дуры мне галавы.*

**Кулеўе** — кулі саломы. *Кулеўем страху накрылі.*

**Кулічкі** — драўляныя гвазды, каб вешаць сёдлы.

*Каб былі для конікаў стайнічкі,*
*Для ўздзечак палічкі,*
*Для сёдлаў кулічкі.*

**Кулогаць** — праць, мыць збольшага. *Ты лайно троху пакулогай, і ладна.*

**Купала** — агонь, пажар. *Яны яму купалу зробілі — хата згарэла.*

**Купіла** — грошы. *Купіць бы купіла, ды мала купіла маю.*

**Куравод** — пра пеўня й пра маладога хлопца, ласага на дзевак, пра завадзілу. *І куравод гэты ўжо дзевак прывёў.*

**Куракí** — вушкі ў лапцёх, куды ўдзявалі аборы (вяровачкі), каб забарсаць лапці. *Ідзеш балацявінай, курак за курак чапляецца. Лапці лыковыя, й куракі тарчаць.*

**Курган** — дзялянка, участак. *Быў курган лесу, дык яго зрэзалі.*

**Курдупэпачка** — маленькая асоба, як кнопачка. *Курдупэпачка такая, а яшчэ звысоку глядзіць.*

**Куросадзь** — курасадня, мейсца, дзе куры садзяцца нанач. *Куры ўжо на куросадзі, а дурны пятух іх па двары шукаіць-гукаіць.*

**Кусáнік** — надкусаны, недакусаны хлеб, пірог. *Мне чужых кусанікаў не трэба.*

**Кусуваць** — кусаць, рваць на кускі, шкуматаць. *Кусуй-кусуй, сучка, зайца то за кудлы, то за хвост!*

**Кутам сядзець** — кватараваць, здымаць куток. *Сваей хаты няма, й сядзіць кутам кутніца гэта. Кутнік, кутніца — кватаранты.*

**Кышнуць** — прагнаць, папэндзіць. *Як кышну — дык разлятуцца, хто куды паспеіць.*

— Калі?
— Не калі, а жывых пушчай!

— Крыж на крыжы.
— Калі знаіш, не кажы.
— Клубок.
— Скулля табе ў бок.

К чорту ў зубы залезіць (спрытны, прайдак).
Каб Бог яе гадаваў!
Каб госці не селі косцю!
Каб захацеў, знайшоў бы рукі!
Каб і лепі, дык на чорта!

Каб ламіўся стол ад ежы, ложак ад люботы!
Каб на хмель не мароз, ён бы й тын перарос.
Каб не дзюркі ў році, хадзілі б у злоці.
Каб не клін ды ня мох, цесля б з голаду здох.
Каб цябе намачыла ды не высушыла!
Кажнаму гора сваё.
Кажны гад цяплу рад.
Каб не еў, не спаў, у Амерыцы б стаў.
Каб не плеш, дык і гола б не было.
Каб петушкі не звадзіліся й на курачак садзіліся (пажаданне).
Каб табе даў Бог здароўя з жабіны прыгоршчыкі.
Каб табе моль пяты пабіла!
Каб твайго й духу-паху не было!
Каб ты сцежку мацаў!
Каб ты так з носам быў!
Каб ты тое з'еў, што думаіш!
Каб цябе жырам абклала й балесь не брала!
Каб цябе любіў стары цыган вялым (праклён цыганкі)!
Каб цябе на кут абмылі!
Каб цябе порах узяў!
Каб цябе хвіля-бура зваліла!
Каб шырэй ступаў, дык на чарку б папаў!
Каб яму было цёпла ў пеклі!
Каб яна так смак чула!
Кажнаму дразду па сваім гнязду.
Кажнаму дыханню трэба папіханне.
Кажнаму свае саплі салёныя.
Кажны любіць падмазку.
Кажны сабе мякашом, а другому коркай.
Кажны чалавек сам сябе варт.
Калі б'юць ззаду, спераду прывыкніць.
Калі гаспадыня з голаду памрэць, дык яе пад прыпечкам пахаваюць.
Калі ж будзе тое лялё? (Абяцанае.)
Калі люлька адарвецца — й гаспадарка звядзецца.
Калі кішэнь сухі, тады й суд глухі.
Калі на адной вуліцы два вяселлі ў вадзін дзень, нехта згарыць.
Калі на ёлцы многа шышак, агуркоў многа будзіць.
Калі просюць, тады жнуць і косюць.
Калі сяродка поўная, тады й канцы йграюць.
Калі сячэш дрэвы, трэскі далёка не лятуць.
Калі ты курэц, дык і май свой тытунец.

Калі ў возіра ўкінуць грэбінь і шчотку са свіной шчэці, возіра зарасцець такой густой травой (павер'е).

Калі ў коміне дужа выіць, нехта сярдзіты памёр.

Калі шыя баліць, рушнікам абвізаць. Рушнік убіраіць гразь з рук, з твару і больку тваю ўбярэць.

Камень яму на грудзі, такой падлі.

Каму гадка, а каму матка.

Каму па каму, а мне два камы.

Каму рупіць, таму й вочы лупіць.

Каму тое, каму сёе, а мне юр наўме.

Каму што, а сляпому цеста.

Капейка камінь дзяўбець.

Карова з Туроўлі, з Бычкоў бык сышліся разам і зробілі крык (скрыпка, смык).

Кароста не проста — панская хвароба, стаі ды дзяры.

Кароўка — мамка, а сала — ямка.

Каса любіць парася, а як хлеб ды ваду, ляжы, каса, ў халаду.

Качаўся (купаўся) як сыр у маслі.

Кепска каля Вітэбска, а каля Воршы яшчэ горшы.

Кій на кій завадзіць, а абед на абед — не.

Кіну не палку, заб'ю не галку, скубу не пер'е, ем не мяса (вуда, рыба).

Кладуся спаць, як уміраць.

Кожная пачвара знойдзіць сабе пару.

Корчыцца, як скурат на агні.

Кот столькі рыбы з'есь, колькі сам заважыць.

Кравец за іголку, гаспадыня за калатоўку.

Краса завяніць, а шчасця не абманіць.

Краса пракрасіцца, а розум прыгадзіцца.

Красавіца, што з-пад стала кусаецца (сучка).

Круціцца, як жулік на кірмашы.

Круціць духамі (двурушнічаць, хітраваць).

Круціць яго як вяроўкі.

Круць-верць — у чарапочку смерць (кілбаса ў гаршку).

Крычала, крычала: «Падай патарчала!»

Крычы, хоць разарвіся.

Куды вецер, туды й дож.

Куды ноч, туды й сон.

Куды па што, куды па нішто.

Кука-рагу, ўсім па пірагу! (Пяе певень.)

Кукулка — ня птушка, нявестка — не дачушка.

Купіў бы сяло, ды грошы гало.

Купцы на растрогі (шмат гарачых пакупцоў).

**Лабазаватае** — з дуддзём, з быльнікам. *Сена лабазаватае, карова не дужа есь. Каза дужа не будзіць лабузу есці, ей ласейшага дай.*

**Лабазда́** — лухта. *Такую лабазду нясець, аж вушы вянуць.*

**Лаба́к** — здаравіла, цвердалобы, нахабны. *Прыхадзілі лабакі п'яныя й дзяўчына кудланаватая.*

**Лабяк** — голая мясціна. *На лабяку німа дзе стаіцца й ваўку.*

**Лавэр** — развал, бязладдзе, беспарадкаўшчына. *У хаці такі лавэр, што босы чорт ногі паламаіць.*

**Лайба** — няспрытная, нехлямяжая. *Сядзіць, лайба, ад гарэлкі, як бервяно, набракла.*

**Лайно** — адзежына. *Трэба мець лепшае лайно ў людзі.*

**Ламлівая** — у грудзе, няроўная. *Дарога дужа ламлівая, мароз прыціснуў раптоўна.*

**Ламок** — скрылёк, лустачка. *Хлеба ламок ды масла камок — нам і надойдзіць.*

**Ламы́** — паламаныя дрэўцы, хлуд, суччa. *У яго даўгоў, як у зайца ламоў.* Яшчэ — лам'ё. *Воўк хамыль-хамыль у лам'ё, толькі трэскат пайшоў.* Яшчэ — дуддзе. *Каза, яна выбіраіць лам'ё якое з сена.*

**Лапандзе́й** — балбатун, пустамол. *Як завядзецца лапандзей — і рот, і зад у яго гаворыць.*

**Лапу́н** — блін, спечаны нахапку. *Нейкі лапун спяку, дый ладна.*

**Ласае** — смачнае, прысмакі. *Што было ласае, са стала ўбралі.*

**Ла́сікі (ла́харцікі)** — ласункі. *Малы гоніцца за ласікамі, яму толькі лахарцікі ў галаве.*

**Ласкуха** — ласкавая, якая любіць лашчыцца. *Такая ласкуха, хоць прыкладай да вуха.*

**Ласоха** — ласая да прысмакаў. *Яна ў цябе ласоха, зласела гладка.*

**Латока** — нізіна, нізовіна. *У латоцы дасюль вада стаіць.*

**Ла́хаўка** — хто балбоча, абгаворвае, пераносіць сплёткі. *Бегаіць, як лахаўка, ды лахаіць языком скрозь.*

**Лахаць** — плявузгаць, брахаць, казаць несусвецце. *Язык не на прывязі, дык і лахаіць ім абы-што.* Яшчэ — бегаць, насіцца. *Пакуль усю вуліцу не аблахаіць, не супакоіцца, лахаўка.*

**Лахмонне** — рыззё, лахманы. *Дымам будзіць смярдзець ейная лахмоння.*

**Ла́ціна** — жардзінка. *Лацінай ды па хрыбціне.*

**Лашчаві́нка** — ямінка, упадзінка. *А ў лашчавінцы баравік сядзіць.*

**Легліца (палегліца)** — леглая трава. *Накасілі сена па легліцы.*

**Лежма ляжаць** — не падымацца. *Трэцці дзень лежма ляжыць, ніяк моцы не возьміць.*

**Лёк** — расол з-пад селядцоў. *Хто есь бульбу з лёкам, той будзіць з клёкам.*

**Лемяшы** — птушкі. *Птушкі досвіта пяюць, іх завуць лемяшы, лемяшы точуць.*

**Лепшы бок** — у тканіне, у вопратцы. *Вывірні сарочку на лепшы бок, ты ж ня ўвосні надзяваўся.*

**Лесаўцы** — жыхары лясістай мясціны. *Лесаўцы ў лесе жывуць, як у цёплай хаці.*

**Лёстачкі** — салодкія словы, кампліменты. *Так і падпускаіць лёстачкі дзеўцы.*

**Летка** — летняя пшаніца. *Ладны ткі лапік леткі пасеялі, паглядзім, ці ўродзіць.*

**Лізун-месяц** — калі падлеткі пачынаюць кавалерыцца, дзеўчыцца. *Ужо лізун-месяц напаў на дзеўчынёшку, не знаіць, як вылупіцца, са скуры вулазацца.*

**Лісіцы** — грыбы лісічкі. *Я за свае лісіцы нап'юся. Там соснік, а лісіцы па сосніку, па імху.*

**Літоўка** — каса. *Цэлую лугавіну літоўкай за раніцу абсадзіў.* Яшчэ — пуня, дах на слупах. *Толькі стаўбы й страха, як у пуні, — завецца літоўка. Чатыры стаўбы крэпкія такія, й завецца літоўка.*

**Ліцвяк** — літовец (летувіс). *Ліцвяку ўсё па баку. Нешта ў нас ліцвякоў не любілі.*

**Лі́шніца** — збытак, лішняе. *Навошта мне лішніцу браць, бяру, колькі паложана.* Яшчэ — лішэнь, лішак. *Вярнуў сваё яшчэ з лішнём. І кійком аддзякаваў з лішаком.*

**Логаўе** — логава, лагво. *А там воўча логаўе.*

**Лостам (улогам, логам) ляжаць** — покаццю. *Пахварэлі, уся хата лостам ляжыць.*

**Луга́** — шчолак, настоены на попеле, якім ільга праць лайно; бывае, мыюць валасы. *Даўней лугі зробіш, каўнер вымыіш. Памый валасы лугой, перхаці не будзіць.*

**Лузгаць** — папякаць, дакараць. *Колькі можна лузгаць адным і тым жа?*

**Лу́нуць** — кануць, прапасці, знікнуць. *Як пад ваду лунуў, нідзе ні водзыву.*

**Лупацень** — лупаты, надуцька. *Развесіў лупы свае лупацень і сядзіць.*

**Лызь-мызь** — есці нахапку, паспытаць. *Лызь-мызь, і пабег, не каб сесці ды пад'есці.*

**Лы́ліца (лы́ла)** — недарэка, недаробак. *Лыліца й пад дажджом запыліцца. Здаровы лыла вырас. Лыла тоўстамордая стаіць на ганку.*

**Лындаць** — сланяцца без справы. *Лындаіць, лындаіць дзень пры дні, лынды б'ець.*

**Любавізна** — сала з прораззю (бэкон), любовае мяса, прорезь у сале. *Любавейшага сала адрэж, самай любавізны. Адна любавізна папалася.*

**Любей** — лепей, добра. *Любей жа, як ёсь, чым ня ёсь.*

**Любосць (любось)** — каханне, мілосць. *У іх любосць даўно, толькі тоюцца.*

*З неба зорачка упала*
*І растала пад мастом.*
*Ўся любось мая прапала*
*У сабакі пад хвастом.*

**Люшка** — накрыўка ў дымаходзе. *Рана люшку заклалі, ад чаду ў хаці сіня.* (Магчыма, ад нямецкага luft (паветра). Літаратурнае — юшка — калька з рускага вьюшка. Блытаецца са стравай (рыбная юшка).

**Ляда́ік** — моташна. *Еш з хлебам, каб лядаік не быў. Улядаіў мне гэны кавалер, глядзець не магу.*

**Ляжня́** — доўгае ляжанне, гультаяватасць. *Ляжня знясіліць і каня.*

**Лянуха** — варыва са свежай капусты, часта бялёнае. *Лянуха не свята для бруха.*

**Лянько** — гультай, лянотнік. *Толку з лянька, як з казла малака.*

**Ляпа** — зняважліва пра рот. *У яе ляпа разадралася ніжняя, як у сабакі, са страху.*

**Ляпітар** — ляпіла, той, хто нешта лепіць, невялікі спец. *Так печку клаў ляпітар нейкі, што дым ідзець не ўгару, а ўніз.*

**Лясачка** — кіёк, кульбачка. *Выразаў сабе лясачку з ляшчыны — лёгкая і ўручная. Тупаіць сабе з лясачкай, куды яму бегчы.* Яшчэ — пачатак. *Купіла лясачку масла, надаела паснаццё.*

**Лясачкі** — кропачкі, рысачкі. *На ей хусцінка шаўковая ўся ў лясачкі-ясачкі.*

**Лятун** — няўседа, рухавы. *Малы сюд-туд, лятун такі.*

**Ляха́** — градка. *Увесь дзень лехі палола.*

*Качан капусты на лясе,*
*Верабеічка у страсе.*

Лапаць не князь — абуў ды ў гразь.
Лахі пад пахі ды бягом.

Лгаць як у лёд.
Лёг не еўшы, устаў не спаўшы.
Лежань ляжыць, а яму доля бяжыць.
Лепі даць, чым прасіць (прыгавор цыганак).
Лепі жартаваць, чым гараваць.
Лепі з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.
Лепі за статкам хадзіць, нячым статак вадзіць.
Лепі першы гнеў, чым апошні.
Лепі ўвідзіць злодзю ў клеці, чым на Грамніцы сонца (на няўрод).
Леташні год сёляткі з'еў.
Лішняга й свінні не ядуць.
Лыжка вады — бочка гразі (увосень), бочка вады — лыжка гразі (увесну).
Лыжка гнецца, нос смяецца, душа радаваецца.
Любі, як ду́шу, і калаці, як ігрушу (дзіця).
Любіў бы Грасім, каб чорт грошы насіў.
Людзі не свінні — усё з'ядуць.
Людскі рот — не гарод, не паставіш плот.
Ляжаць не ляжыць і бягом не бяжыць.
Ляжыць ужо на боскай пасцелі (памірае).

**Мазніца** — пасудзінка, у якой трымаюць мазь, каб змазваць колы. *Такая праўда, што сучка дзёгаць з'ела й на галаву мазніцу ўздзела. Хахол-мазніца, давай дражніцца.*

**Макрата** — мокрае, намоклае. *Перадзенуся, макрату сваю скіну.*

**Малебенка** — каплічка. *На магільніку й малебенка невялічкая ёсь.*

**Ма́ліцца** — прыкідвацца дзіцем. *Няма чаго маліцца, калі з-за пазухі валіцца.*

**Малочнік** — трава малачай. *Салатопку ўсю ўзвярнулі, дзе кусты якія былі, а малочнік-трава парасла па калена.*

**Маніцца** — абяцаць, дакляраваць. *Наелася буракоў, напілася квасу, манілася з мальцам спаць — не дабрала часу.*

**Маразявы** — зябкі, золкі. *Вецер нейкі маразявы, няўтульна на дварэ.*

**Маркацінне** — каціныя выдзяленні падчас марцавання. *Маркаціннем усё прасмярдзела.*

**Мармы́ль** — пануры, незадаволены, бурклівы. *Сядзіць адзін у хаце мармыль мармылём.* Адсюль — мармыляваты.

**Маршча́кі** — зморшчыны. *Пад вачмі маршчакі, як барозны, а яна ўсё маладзіцца.*

**Масіяш** — паўсюль дапаплівы, з адхіленнямі ад нармальнага, лунатык. *Ад масіяша нідзе праходу німа ні ўдзень ні ўначы.*

**Місулька** — місачка. *Ты ў тую місульку вылій поліўку.*

**Матавіла** — той, хто матляецца паўсюль. *Добра, што майго матавілы не было.*

**Маркі́** — завязкі, звычайна з тканіны. *Як не сваімі рукамі мех завязаў, матаркі цягнуцца.*

**Матрамоззе** — лахманы, акраўкі. *Матрамоззя поўна, а людскага лайна й німа.*

**Маўчлівы** — негаваркі. *Маўчлівым чалавекам дрэнна саўсім быць.*

**Мацак** — моцнае яйка, якім б'юць іншыя яйкі на Вялікдзень. Выбіраюць — зубя́ць (аб зубы стукаюць), звычайна за яго слаба бярэцца фарба. *З добрым мацаком я ўсе яйкі піраб'ю.*

**Мацамэнды** — прычандалле, align рознае начынне. *Забірай свае мацамэнды ды йдзі з Богам.*

**Мачлівая** — дажджлівая. *Восень такая мачлівая, неяк бульбу выбраць.*

**Мачонікі** — грыбы, якія мочаць (соляць). У процівагу ім — сушонікі, іх сушаць. *Мачонікаў прынёс, а сушонікаў не было. Мачонікі, яны рудзенькія.*

**Машарнікі́** — грыбы. *Ужо машарнічкі пайшлі па імхах.*

**Метляні́к** — дзяржанне ў мятле. *Такі гаспадар, што й метлянік у мятлу не ўставіць.*

**Мі́тацца** — кідацца з кута ў кут, мітусіцца. *Не мітайся ты перад вачмі, як мітуніца. Людзі цяпер мітаюцца, не знаюць, дзе дзецца.*

**Мітрэга** — здарэнне, нечаканасць. *Тут у нас мітрэга зробілася.*

**Мой ты свой** — ласкавы зварот да знаёмага. *А мой ты свой, як жа я рада, што напаткала цябе.*

**Мора** — шмат, багата. *Работы мора, а робіць некаму.*

**Мужавей** — мужчына, мужчына ў самай сіле, гаспадар. *Так мальчуган, а ажэніцца, мужавеім будзіць. Мой яшчэ мужавей малы, алі ўжо ўпірлівы.*

**Мураванка** — будыніна з цэглы. *Мураванка ягоная ад усіх выдзяляецца.* Яшчэ — мур. *Мур стаіць, печ гэта.*

**Мурцоўка** — страва. У міску крышацца цыбуля, хлеб, соль і ўсё заліваецца вадой. *Па мурцоўцы не памарцуеш, а свайго падрабяззя ня ўчуіш.*

**Муты́ліць** — мучыць, заезджваць. *Каня мутыліць кажны дзень.*

**Мырк-мырк** — мармытанне, размова паўсловамі. *Тады яны мырк-мырк і пайшлі ў хату.*

**Мыр-мыр** — мыркаць, цадзіць праз зубы. *Насадзіць цыганят поўны сані й едзіць, мыр-мыр, ні слова не скажаць.*

**Мязджу́ліць (размяджуліць)** — патаўчы, пакрышыць. *У маждджэрцы (ступцы) змязджуліў часнык. На магільніку соснік вырас, каб гахнула сасна, дык усё б размяжджуліла.*

**Мякануць** — ударыць (кулаком), уперыць. *Як мякануў у плечы, дык аж мне дух зацяло.*

**Мяка́ш** — сярэдзіна ў бохану, мякота. *Гэта я мякаш выразала. Кажны к сабе мякашом, а к чужому коркай.*

**Мякуха** — далікатная трава. *Пайшла, нажала мякухі, пасекла свінням. Мякуха дужа мяккая, зялёненькая, калі дробненькая* (тлумачыла мама).

**Мялга́** — драбяза, малеча. *Акуні й тыя мялга такая.*

**Мя́ліца** — прылада мяць лён. *Над мяліцай як настоішся, дык спіна колам зробіцца.* Яшчэ — нязграбнае, няўклюднае.

*Расступіся, зямля-маці,*
*Выйшла мяліца гуляці!*

**Мяні́ны** — іманіны. *У сяле век зжылі, век ніхто мянінаў не робіў.*

**Мяншак** — меншы сын. *Сынок, яе мяншак, падрос за лета.*

**Мя́рлы (мярлі́на)** — нягеглы, затарможаны. *Як народзіцца мярліна, дык хоць ты яму маланкамі ў пяткі бі.* Яшчэ — недаваранае, недапечанае нешта. *Сягоння, як на тое, і бульба мярлая, й бліны мярлыя.*

**Мясёж** — бойка, звада. *Вайны ня будзіць, алі будзіць такі мясёж, што ўсё.* (Ад мясіць — біць, тут і мяса.)

Мазгі ў ствол пайшлі.

Май — каню сена дай, а сам на печ залізай.

Маладзік як зменіцца, пагода зменіцца, маладзік пойдзіць на другую палавіну.

Маладосць — буйносць, старасць — кайнасць.

Малады — першую галаву на карку носіць.

Маленькі дажджышка — калхознікам перадышка.

Маленькі сабачка давеку шчанючком.

Малы — з чорта пералетка.

Матка не знаіць, што цялятка рыкаіць.

Матка нясець дзеткам — пазуху дзярэць, а дзеткі ад маткі хаваюць — пазуху дзяруць.

Маўчыць, як цень.

Мая душка не перабірушка.
Мокры, як мачонка.
Муж аб'еўся йгруш.
Мужык так гаруіць па жонцы, як баба па йголцы.
Мужыку калена пакажы, толькі праўды не кажы.
Мурзаты, як заткала.
Муха не разарвець бруха.
Мы з табой як рыбка з вадой.
Мы паедзім, мы пайдзём, надаелі мы людзём.
Мыць языком (абгаворваць, пляткарыць).
Мядзведзь стаіць — вушы скачуць (ступа й таўкач).
Мяне на работу не хвалілі, алі й на ежу не ганілі.

**На бягу** — похапкам, неўзнаку. *Смерць на бягу маладога чалавека ўзяла.*

**На воўка** — навошта, не трэба. *На воўка табе гэтыя мацамэнды?*

**Нага́ўрыць** — наваліць, нагрудзіць. *На стале ўсяго нагаўрына — толькі еш.*

**На дражджах** — п'яны. *Нанач прыцягнуўся пад Божай воляй, на дражджах.*

**На ду́кі браць** — браць на хітрасць, на арапа. *Яна яго на дукі бярэць, нічога там німа.*

**На дух** — на паветра. *Трэба яе на вуліцу вынесці, на дух.*

**На згон зімы** — напрыканцы, напрадвесні. *На згон зімы пацяплеем і мы. На згон зімы, летам і восенню кацілася кошка.*

**На ключы** — пад ільдом, замерзлыя возера, рэчка. *Мора яшчэ ні на ключы — можам тапіцца.*

**На любкí** — на выбар, што падабаецца (што люба). *Бяры на любкі з усяго каша.*

**На панíчоў** — калі свіння хоча кнура. *Свіння на панічоў паднялася.*

**На паспытак** — пакаштаваць. *Вазьмі хоць на паспытак, а там асмакуешся.*

**На паўзлокатках** — на сагнутых локцях, упёршыся локцямі. *На паўзлокатках ляжыць і пілнуіць.*

**На хапу (хапку)** — не чакаючы, похапкам, на хаду. *Усё на хапу цапу-лапу. На хапку нешта ўкусіла — таго й палудня.* Яшчэ — на тым хапу. *На тым хапу зробіла ўкол.*

**На цвярозую нагу** — пасля гулянкі. *З раніцы на цвярозую нагу скажаш, а цяпер гарод гародзіш, а жардзё гнілоя.*

**На часёх** — вось-вось, неўзабаве. *Яна на часёх ходзіць (павінна нарадзіць). Ягоная жонка ў бальніцы на часёх* (хутка памрэ).

**На шарэнніку** — на досвітку, калі неба шарэецца. *Устаў на шарэнніку, каб дарогу не праспаць.*

**Наблiскую** — наўпрасткі. *Наблізкую тут не прайсці, балота топкае.*

**На́брыдзь** — навалач, прыхадні. *Уся набрыдзь да нас цягнецца.*

**Набягаць на памяць** — успамінаць, прыгадваць. *Мне цяпер на памяць не набягаіць, калі ўсё гэта было.*

**Набярна́я хвароба** — заразная (якой набіраюцца ад іншага). *Кароста, яна набярная хвароба, шанавацца трэба.*

**Наве́даме** — як і належыць, само сабой зразумела. *Ей сорак гадоў ужо наведаме.*

**Навідку́** — навідавоку. *Хто ў кутку, а хто й навідку.*

**Навіць** — нават. *Тут навіць сляпому відаць, што толку не будзіць.*

**Навушнікі** — шоры. *У Завячэллі жыў Брэнт, у яго быў фурман з адным вокам, у каня такія навушнікі, каб нічога не бачыў.*

**Навярсціся** — патрапіць знянацку, папасціся. *І адкуль ён навёрся? І не навярайся мне на вочы.*

**Нагбом** — піць з усяго вядра, каўша. *Пілі гора і нагбом і каўшом.*

**Нагладку́ю** — цалкам, поўнасцю. *Нагладкую разлічылася з зяцям.*

**На́гліца** — мор, раптоўная хвароба, эпідэмія. *Во якая нагліца навалілася, людзі, як мухі, мруць.*

**Нагога** — пыхлівы, задавасты, надзьмуты. *Сядзіць нагога, ні бачыць нікога.*

**Нагой не бываць** — не хадзіць, не наведваць. *Нявестка сюды нагой не бываіць.*

**Надаражацца** — модзіцца. *Як надаражаюцца — глядзець страшна.* Яшчэ — цвяліцца. *Прывык толькі ўсім надаражацца неслух.*

**Падвор'е** — дзядзінец, двор. *Хоць жа па надвор'іку пахаджу, хоць жа на сваю мамульку пагляджу.*

**Надзетка** — адзежа, апратка. *Бабы стаялі, і ў вусіх адзін фасон надзеткі.*

**Надозыр ісці** — ісці за некім, не спускаючы з яго вачэй. *Я за ім надозыр ішла, каб не згубіцца на чужой дарозі.*

**Надуцька** — крыўдлівы, капрыза. *У надуцькі губы тоўсты, а зад тонкі.*

**Наеда** — насычэнне, сытасць. *Вялікая наеда — жывату вярэда.*

**Наезджыя** — нетутэйшыя, прыхадні. *Наезджыя, чужыя тут, а сваіх німа.*

**Наёмшчык** — памагаты. *Мне трэба наёмшчык, хто хлеб носіць, я ж з сынам жыву.*

**Нажом стаяць** — абрыдзець да болю. *Яны мне ў грудзёх нажом стаяць.*

**Найсціся** — прыстаць у прымакі. *І найшоўся к ей дзед крывы Віннік.* Яшчэ — нарадзіць. *У яе ўжо дзяўчынка найшлася без яго.*

**Накамшы́ць** — напячы многа. *Накамшыла бліноў на ўсіх ядуноў.*

**Налецце** — наступны год. *Будзем жыць сёлета, а да налецця ці дажывём. Вып'ем тут, пакуль мы тут, а налета Бог ведаіць, як мы будзім.*

**Налечыць** — паправіць здароўе. *Ездзіла ў Віцебск, дык там троху налечылі.*

**На́лле** — няпрошаныя, нахабныя. *І адкуль толькі налля нанясло?*

**Налю́дзіцца** — набрацца добрых манераў, абчасацца каля людзей. *Па свеце паездзіў, дык і налюдзіўся.*

**Намерыць** — намерыцца, наважыцца. *Куды намерыла, туды і йдзець.*

**Нападоймішча** — як падняць. *Малы нападоймішча, дужы вырасцець.*

**Нападрост** — навырост, з запасам. *Малым трэба ўсё шыць нападрост, скора ўсё робіцца кароткая.*

**Наперакось** — коса, няроўна. *Дзверыну павесілі наперакось, дык яна й не зачыняецца.*

**Напінду́рыцца** — апрануцца, прыбрацца вычварна, крыкліва. *Любіць напіндурыцца, каб усё на піндурах было.*

**Напіры́цца** — адказаць, уставіць слова, адгаварыцца. *І напірыцца не дась, сам гаворыць, сам слухаіць.*

**Напіры́ць** — падбухторыць, падахвоціць. *Як напірыць яго, дык ён на ўсіх кідаецца.*

**На́піта** — насцеж. *У хаце каб душа, дзверы напіта.*

**Напі́цірыцца** — набрацца рускіх словаў, старацца гаварыць па-руску (ад Піцера). *Напіціраўся ў горадзе й ламаіць язык, свайго забываецца.* Яшчэ напіціры́цца — прыбрацца, прыладзіцца, сабрацца. *Напіцірылася ўжо на гулі, скура на ей гарыць.*

**Напляўдырыць** — нагаварыць абы-чаго, нахлусіць. *Напляўдырыла, напляла мех з торбачкай.*

**Напоўніцу** — на ўвесь рот есці, скубсці. *Напоўніцу есь і наесціся не можыць. Выгнала карову раней — напоўніцу скубець атаву.*

**Напрасоў** — па цаліку, уцэла. *Напрасоў пойдзіш па веснавым снезі, будзіш праваліваццa.*

**Напуцíць** — наставіць на дарогу, падгаварыць, нацкаваць. *Хоць ты яго напуць, а то нікога не слухаіцца. Сабаку напуцяць, дык свайго можаць узяць.*

**Напушчонік** — хто напускаецца на некага. *Што ты на мяне, напушчонік, напусціўся?*

**Наразумíць** — навучыць, падказаць. *Нехта наразуміў яе напісаць.*

**На́раснік** — кустоўе, зараснік. *Усё зарасло гэтым нараснікам — ні прайсці.*

**Нараток** — сплеценая з вялікімі вочкамі торба, куды клалі каню сена (аброк). *На чужы раток не накінеш нараток.*

**Нарок** — нараканне, дакаранне. *Хоць бы нарок на што быў, усё прынялі.*

**Нарошч** — паўтор, раз, заход. *Як Сілівея хавалі, хаўтуры йгралі ў два нарошчы.*

**Нарэдчас** — зрэдку. *Нарэдчас дык і добра троху выпіць, думкі пераменіць.*

**Насатка** — насоўка, хустачка для носа. *Хоць насаткай вытрыся.*

**Наслядаваць** — наслядзіць, пакінуць сляды. *Толькі ў хаці наслядавалі, а толку з іх ніякога.*

**Насоў** — апранаха, халат. *У мяне насавоў балесь ведаіць колькі.* Загадка пра капусту: *сорак насавоў, а ўсе без рукавоў.*

**Насоўма** — нахабна, жывасіллю. *Ніхто яго ня просіць, а ён сам насоўма лезіць.*

**Наспары́ць** — урадзіць. *І ягадаў і грыбоў наспарыла гэтым годам, дзякаваць Божаньку.*

**Настоліць** — пакласці столь. *Столь настолілі, падлогу паклаў — хата гатова.*

**Насушнае** — слабое, струхлелае. *Страха саламяная, ён яе расхінець і ўлезіць, усё такоя насушная было.*

**Насыцíць** — накарміць, здаволіць. *Насыціў Бог, дык — за парог.*

**Наські** — тутэйшы, свой. *Ён чалавек наські, яму можна давяраць.* Нянаські — чужы, наезджы.

**Насяваціца** — самасеіцца. *Яна насяваецца, тады гарод глушыць.*

**Наталкавацца** — пагутарыць. *Нагаварыліся, наталкаваліся, а нічога ня выталкавалі.*

**Натаптаны** — у слядах, наследжаны. *Глядзь, аж снег натаптаны, нехта быў ноччу.*

**Наткнуцца** — сустрэцца, адведаць. *Хай бы ты ка мне, сваціца, наткнулася.*

**Натрывожыць** — расхваляваць, растрывожыць. *Толькі маю душу натрывожыў.*

**Наўгадзь** — наўздагад. *Наўгадзь узяла парасёнка з каша.*

**На́ўра** — навалач, нежаданыя, нечаканыя находжыя. *Як ехаць трэба збірацца, дык навярэцца якая наўра — ня выгнаць.*

**Наўсцяж бегчы** — адзін за адным. *Як пабеглі наўсцяж, дык і канца не відаць.*

**Націнаць** — напіраць, настойваць. *На мяне націнаў, каб я настаўнікам быў.*

**Націшка́** — употайкі, крадком. *Тады яны націшка міржкамі (на мігі) згаварыліся.*

**Начарадзіцца** — начапурыцца, прыбрацца. *Як начарадзіцца, дык ні пазнаіш, куды тая старась дзяецца.*

**Начніцы** — бяссонне. *Начніцы сягоння на ўсіх напалі, ніхто ні на волас не заснуў.*

**Нашушэрыцца** — наставіць поўсць. *Кот са страху ўвесь нашушэрыўся.*

**Не ў нараў** — не пад густ, не ў нос. *Што б ні браў, што б ні краў — усё яму не ў нараў.*

**Невіру́тнае** — нечуванае, невыноснае нешта. *Гад нівірутны, яшчэ насміхаецца.*

**Недалужны (недалуга)** — няспрытны, цельпукаваты. *Недалужны трапіўся ей мужык, недалуга.*

**Недамоглы** — слабы, хворы. *Дзед саўсім недамоглы зробіўся.*

**Недапошлы** — недалужны, ніякаваты, слабы. *Такі недапошленькі маліц, аж глянуць страшна.*

**Недаробак** — няспрытны, ні да чога не здатны, недапечаны. *Во ўжо недаробак — усё з рук валіцца.*

**Недаткнёнка** — недачэпа, недатыка. *Буду недаткнёнкаю са сваей даёнкаю.* Яшчэ — *свенты недаткненты.*

**Некальства** — адсутнасць часу, клопат. *З-за гэтага некальства і з хаты не выйдзіш.*

**Некарысны** — незайздросны, непаглядны. *Бульба такая некарысненькая ўрадзіла.*

**Непамыслы (непамысловы)** — недарэчны, няпутны. *Як жыццё непамыслае (непамысловае), дык нічому не рад.*

**Непераліўкі (неўпераліўкі)** — непрыемнасць, бязвыйсце, бяда. *Як якія непераліўкі — ён у кусты. Кот на мышыну напаў, а ей — неўпераліўкі.*

**Несклямяжны** — няскладны, нязграбны. *Хоць несклямяжны, ды сам сабе важны.*

**Неслух** — непаслухмяны. *Неслуху хоць вуха вываравай, не паслухаіцца.*

**Несусвецце несці** — лухту, абы-што казаць. *Несусвецце нясець і сораму ні маіць.*

**Неўваротны** — непаваротлівы, марудлівы. *Рыба станіць сытая, неўваротная.*

**Неўда** — плакса, румза, нюня. *Як уродзіцца неўда, дык да сівой барады румзае.*

**Неўзнакý** — няцяжка, незаўважна, непрыкметна. *Неўзнаку ей іх пракарміць.*

**Неўспадзеўкі** — неспадзявана. *Неўспадзеўкі дзіця ў дзеўкі, жох — і ёсь.*

**Ні шум баравы** — каб што, усё абыякава. *Вочы заліецъ — яму тады ні шум баравы.*

**Нізь** — нізіна, нізкае месца. *Там самая нізь, што ні пасей — вымакніць.*

**Нíкаць** — дападаць, шныпарыць. *Так і нікае па кутках, каб дзе што ўхапіць.*

**Ніўё** — ніўная мясціна. *Яно па ніўю жатае, там не касілі.*

**Нішцяк** — нішто сабе. *І ў бедных гасцях жывату нішцяк.*

**Нія́кі** — кепскі, шкодны. *Маліц ейны такі ўжо ніякі, толькі шкоды й пілнуецца.*

**Новіна** — ежа з новага ўраджаю. *Сягоння на вячэру новіна. Новая новіна на старое бруха.*

**Нораст** — нераст. *Рыба на нораст ідзець.* (Так і хочацца патлумачыць — на рост.)

**Норат** — нерат. *Што горад — то норат.*

**Нэдны** — змораны, саслаблы, занудлівы. *Не столькі бедны, колькі нэдны.* (Відаць, ад нэндзы.)

**Нюхаўка** — калі згаворваюцца, знюхваюцца. *Цяпер у іх будзіць нюхаўка, яны будуць адзін аднога на ўзглядзіны панімаць.*

**Нюшок** — узятыя ў тры пальцы мука, соль, крупы. *Солі адзін нюшок — і досіць.*

**Нявогляддзю** — хутка, не азіраючыся. *Ваўчыца як ляснула зубамі, той ходу, ляцеў нявогляддзю.*

**Нявы́валака** — лежабока, гультаяваты, разманяваты. *Нявывалака на хаду спіць, у яго ў роце мухі жэнюцца.*

**Нядбаліца** — гультай, хто не дбае. *А п'яніца-нядбаліца красу маю выпіў.*

**Нязнатка** — не відаць. *Як сала рэзалася, поўна ўкоптур было, як зжарылася, нязнатка.*

**Нямтур** — нямы, нямко. *Маўчыць нямтур, як каптур.*

**Нямудраны** — несамавіты, няхітры. *Нямудранымі сеткамі рыбу лавілі.*

**Няпошлы** — непаваротлівы, нязграбны. *Няпошлы нейкі работнік знайшоўся, й толк з яго слабы.*

**Няпутны** — бесталковы, які адбіўся ад рук. *Не дай Бог няпутных дзяцей.*

**Нястоцце (нясноцце)** — кволае, слабое, недарэчнае. *Усё нястоцце сабралася.*

**Няўрокам казаць** — каб не сурочыць. *Няўрокам казана, добра ўсё ўрадзіла. Няўрокам — другім бокам* (цвеляцца, калі хто валіцца).

**Няўсхолае** — зерне, якое не ўзыходзіць. *Пшаніцу засеялі, аж зёрнеткі няўсхолыя.*

На адным кулаку сем вёрст правалаку.

На базары й бык цельны, й певень з яйцом.

На балючыя вочы пароша валіцца.

На вілачках цераз парог (падаваць госцю).

На воўка памоўка, а мядзведзь спадналуску.

На гора й сядун — дзіця.

На Дзяды ўсё ядуць, каб ногі ня мёрзлі.

На дзяцей бацькі на век не нагатуюць.

На другі дзень пасля вяселля сваццяя мяцець на кут. Тады маладая ўвязваіць у венік рубель, сваццяя мяцець назад.

На костку змерзнуць.

На Купалу суніцы, а на Пятра чарніцы.

На ласы кусочак знойдзецца куточак.

На лечаным кані далёка ня ўедзіш.

На мазгі разварыцца (бульба, гарох).

На маладзіку пасеіўшы бульбу, бульба будзіць добрая, алі дробная.

На першую Каляду зоры — грыбоў многа будзіць.

На печы добрыя рэчы.

На тым свеце пабілі ўсе ліхтары, шукаўшы (чакаюць на тым свеце).

На тым свеці на загнеці.

На ўбоінах, заходзячы ў хату, кажуць: «Багата!»

На ўзвей-вецер кідаць словы.

На ўсю галаву крычаць (голасна).

На чужое шчасця й мухай ня ўпасці.

На чужой бы шкуры вала спёк, на сваей і вошыны не заб'еш.

На чужой старане й жук — мяса.

На чыім вазку еду, таму й песню йграю.

Набойнае шыла танна каштуіць (калі хто набіваецца сам).

Набраўся, як Гапон сліў.

Нагаварыць сем бочак арыштантаў (шмат).

Нагінаючыся, не нацалуішся.

Надаела сабачай лапі ляжаць на стале, дык хай пад сталом паляжыць.

Надуюцца адзін на аднаго, як мяхі.

Наеўся — аж вочы поўнымі сталі.

Нажыў махам — пойдуць прахам.
Напіўся да зялёных мятлікаў.
Нарваўся хітры на мудрага.
Наробіш, як сляпы наплачаць.
Нас ні вада ні размыіць, ні свіння ні разрыіць.
Насі й Бога прасі! (Калі даюць абнову.)
Насупіўся, як кот (мыш) на крупы.
Не адзін той Гаўрыла, што ў Полацку.
Не бачыў ты яшчэ савы смаленай (сапраўднага гора).
Не бачыўшы цэлага, й лапленаму рад.
Не бойся сабакі брахлівага, а бойся кусʼлівага.
Не будзеш есці — не будзеш везці.
Не будзіць з яго людзей.
Не будзь ні войтам, ні сватам, ня будзіш чалавекам праклятым.
Не будзь разумнейшы за папову цялушку.
Не быў ты на смычковым пераездзе (у бядзе).
Не вучы таго кульгаць, у каго ногі баляць.
Не выходзіць у Хадоры тры бліны.
Не да парасят свінні, калі смаліць нясуць.
Не да цябе п'юць, не да цябе здароў кажуць.
Не дай Бог ні дадзенага, ні крадзенага.
Не дай Бог свінні рог, а мужыку панства.
Не дай Бог тры разы тапіцца й тры разы сяліцца.
Не для таго цябе браў, каб з табой спаў, а для таго, каб у цябе кусок сала клаў (бот).
Не дорага брага, а дорага ўвага.
Не з колам у горла (упарты).
Не з мясам, дык з квасам.
Не затое мы збяднелі, што ў нас людзі пілі й елі, а так Бог даў.
Не знайшоў шчасця зрання — ні шукай яго й на змяркані.
Не кайся, што рана ўстаў і што малады жаніўся.
Не калі было, не калі будзіць.
Не кармі хлебам, а дай хвост падняць.
Не купіў бацька шапкі, ніхай галава мерзніць.
Не купіш, а зубы налупіш.
Не лезь, жаба, дзе коні куюць.
Не налечышся, а скалечышся.
Не нашага носу-палосу.
Не па барадзе, а па чарадзе смерць ходзіць.
Не па старасці, а па спеласці (паміраюць).
Не падпускаць ані на́ храбт.
Не пастаяўшы на парозі, не пасядзіш і на куце.

Не руш нічога й ня бойся нікога.
Не смейся, рабе, будзіць і табе!
Не спяшайся на торг, спяшайся з торгу.
Не стаў сябе ніжэй падашвы.
Не столькі брагі, колькі звягі.
Не страшна работа, а страшна варкота.
Не так страшан чорт, як яго малюткі.
Не ўздыхай, німа й няхай.
Не ўсіх людзей ваўкі паелі — яшчэ засталіся.
Не хадзі да папа, што ў нядзелю свята.
Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы.
Не хочаш расказваць — нясі ў кішані.
Не хухры-мухры, а рух-рух.
Недапіты, як недабіты.
Недасол на місе, перасол на спіне.
Недзе курыцы клюнуць — морду збіў мёрзлай касцiной.
Некалі сабака бліны пёк, а ўсё цестам еў.
Нечага козамі сена псуваць, яны й лыка з'ядуць.
Нечага таму богу кланіцца, каторы на нас не глядзіць.
Нея з зладзім — хлеб ёсь, сала ўкрадзім.
Ні каровы, ні каня — жыву (сяджу) сабе, як паня́.
Ні свой, ні чужы, як вятрак на мяжы.
Ні скубсці, ні смаліць.
Ні стуль ні ссюль.
Ні ў пір, ні ў вір, ні ў добрыя людзі.
Ніводзін бык карову не забоў, ніводзін мужык жонку не забіў.
Ніводная гаспадыня пад пяколкам ня здохла — усе жывуць.
Ніколі ня плюніць у чарку (любіць выпіць).
Німа сала — лупі здор (хуткамоўка).
Нічога ў хаці німа — як перуном высмаліна.
Нічому так ня рад, як ідуць дзеткі ў лад.
Новае сітца пакуль навісіцца, а як навісіцца, дык і пад лаўкай наляжыцца.
Новась, калі пятух запяець.
Ногі таўстыя — па жыдзянёнку.
Нос як кічаўка (кісялёўка).
Носіцца як па трэцяму (жарабя па трэцяму году добрае ўжо).
Ну, як дуж-крэпак? (Пытанне пры сустрэчы.)
Няма паганій рук і чысцей вады.
Няма тых крамак, дзе прадаюць мамак.
Няма шчасця — і ў грыбы не йдзі.
Нясецца як чорт з грэшнай душой.
Няўлад мая сучка — за хвост ды на плечы.

**Па свайму калену** — па сабе, роўня, падыходзіць. *Бугаяваў-бугаяваў маліц, алі знайшоў дзеўку па свайму калену.* (Далёкі водгук роду.)

**Па́бераззе** — нешта нязграбнае. *У яго рукі, як пабераззя.*

**Павагу даць** — ушанаваць, прывеціць. *Даў ім такую павагу, слухай сюды.*

**Паваронiць** — пацікавiцца, паназіраць. *Пайшла паглядзець, за чым людзі стаяць, каля крамы паваронiла.*

**Паверх** — вышэй. *Паверх іх ёсь большыя дзеці, яны вішні шчыпюць.*

**Паверх папараці (лесу) пайсці** — нікога не слухацца, ні на кога не зважаць. *Як у пер'е ўбраўся, паверх папараці пайшоў.*

**Паветрыя** — паветра. *Зроб прадушыну, каб паветрыя праходзіла.*

**Павечка** — вейка, раснічка. *Загадай, з якога вока павечка зляцела?*

**Павідну́** — пакуль светла, засветла. *Я свіней павiдну накарміла.*

**Пагалець** — пажыць у бядзе, пагаладаць. *Пагалела б, тады б знала, а то ей матка прэць і прэць.*

**Пага́рышча** — месца, дзе згарэла будыніна. *На пагарышчы вазьмі зямлі.*

**Па́гніль** — падгнілыя ў вадзе ламачыны, палкі. *Адна пагніль ля возіра ляжыць.*

**Пагоднікі** — дзеці, якія нараджаюцца адзін за адным год у год. *У Рыпіны аж трое пагоднічкаў, хватаіць клопату маладзіцы.*

**Пагонь** — атожылле, памаладзь. *Вішніна пагонь дала.*

**Пад нара́ў** — даспадобы. *Ей пад нараў, што такая ўвага.*

**Пад'ехаць** — задобрыць, падмазаць, даць хабар. *Праўды ў судзе не знойдзіш — тут пад'ехана.*

**Падлавудзіць** — падпільнаваць, вычакаць зручны момант, нешта ўхапіць, украсці. *Ня жыў, каб не падлавудзіць што.* (Яўна ад вуды.)

**Пад'юшыць (пад'юхрыць)** — падбухторыць, нацкаваць. *Іх проста пад'юшылі, й яны робяць абы-што. Яго й пад'юхраваць ня трэба — сам на людзей кідаецца.*

**Пад'ярошваць** — заводзіць, падаграваць, раскатурхваць. *Вы яго яшчэ пад'ярошавайце, а то саўсім абвяў.*

**Падабенькі падбіваць** — старацца спадабацца. *Ён ужо, глянь ты, падабенькі падбіваіць пад яе.* Яшчэ — падабенькі падабраць — быць падобным. *І падабенькі падабраў бацькавы, выліты Якута.*

**Пададэнне** — самае дно. *Верніць усё з пададэння, нешта знайсці хочаць.*

**Падáнак** — міласціна жабраку. *З паданкаў раз'ясіся, як шыла.*

**Падаўкíя** (дровы) — якія паддаюцца сякеры. *Падаўкія дровы лёгка біць.*

**Падбародавіч** — падбароддзе, падбародак. *Раз'еўся, аж падбародавіч адвіс.*

**Падбрушша** — падчарэўе (у свінні). *На падбрушшы сала ў палец.*

**Падвячорак** — падмацунак перад вячэрай.

*А Хадора падвячоркавала,*
*Назад ногі пазаторкавала.*
*А Рыпіна пазавідавала,*
*Назад ногі пазакідавала.*

**Падграбалы** — хапугі, сквапнікі. *Усе гэты падграбалы, што хапалі жыдоўская* (у час вайны).

**Паджары** — падцяты, руды. *Спрытны, як вецер, як воўк, паджары.*

**Паджога** — сухія трэсачкі, смалячкі на распал печы. *Наскіпаў лучынак на паджогу.* Яшчэ — хто падторкваецца недарэчы, калі нешта робяць. *Узяла скавараду ў рукі, а ён, паджога гэты, пад руку жох.*

**Падзённікі** — падзённыя работнікі, падзёншчыкі. *У іх усё лета падзённікі робілі.*

**Падзюркавацíцца** — падрацца, пабіцца дзюркамі. *Уся страха падзюркавацілася, перакрываць давядзецца.*

**Падкрадаць** — патрошку, нясмела красці. *Дык я падкрадаваю сена карові.*

**Падляпішча (падляпак)** — ніжняя сківіца (звычайна ў парсюка). *Такое ў парсюка падляпішча, аж страшна, таз квашаніны можна наварыць. Пачашы свінні падляпак, хай супакоіцца.*

**Падмызнік** — падхалім, дагоднік. *Язык у падмызніка лепі за рамізніка.*

**Паднадолак** — падшыты падол. *Яна так абнасілася, што паднадолкам падлогу мяцець.*

**Падножнае** — усё, што расце. *Есь усё падножнае, як індык, ніпераборлівая жывацінка.*

**Падперціся саплямі** — засапліівіцца. *Сядзіць жыдоўка, саплямі падпёршыся, ды глядзіць, хто па вуліцы йдзець.*

**Падпуззе** — падчарэўе. *Дзеўку ўзяў сабе з Загуззя, у яе чорнае падпуззя.*

**Падрабяззе** — звычайна мужчынскі «струмант» так называюць. *Схавай сваё падрабяззя, людзі кругом.*

**Падсанкі** — сківаца ніжняя. *Ад злосці аж падсанкі падцяў. Як цмыгнуў у падсанкі, дык ён — кулік вобземлю.* Яшчэ — невялічкія сані. *Што на санях, што на падсанках, глядзіш, і перавязлі ўсю запасіну.*

**Падсеіваць** — сеіцца, імжыць.

*Дождж ідзець, дождж ідзець*
*І падсеіваіць.*
*Усякая шантрапа*
*Ўсё падсмеіваіць.*

**Падскрэбіш** — перапечка з цеста, наскрабанага на дзяжы. *Хоць падскрэбіш спячы — душу адвесці.* Яшчэ — апошняе дзіця ў старых бацькоў. *Вось табе й вось, у іх падскрэбіш знайшоўся.*

**Падсмішка** — пакеплiванне, кпіна, падколванне. *Падсмішку яму зробілі, гладка спанталычылі чалавека.*

**Падстолле** — месца пад сталом. *Стол поўны, й падстолля поўнае.*

**Падструнаваты** — стройны, паджары. *Падструнаваты, што з-пад жывата ног не відаць.*

**Падсы́каваць** — нацкоўваць, падбухторваць, падбіваць, пад'южваць. *Што ты яго падсыкаваеш, і так добрая цаца. Так і падсыкаваіць яго, як змяя, каб на мяне зверам глядзеў.*

**Падумка** — задума, думка. *Навіць і ў падумцы не было нічога.*

**Падхартаны** — падцягнуты, стройны. *Падхартаны мужчына, не тое што гэты цабэрак.*

**Падхвоснік** — падхалім, падпявала. *Падхвоснік усім дагодзіць, калі яму выгодзіць.* Падхвосніца — тое, што ў свінні пад хвастом. *Як сваю радню, у падхвосніцу пацалуй свінню.*

**Падхлебнік** — падхалім, падліза. *Падхлебнік да любога падхлебіцца* (падлашчыцца, паддобрыцца).

**Падхмяліцца** — крыху пахмяліцца. *Падхмяліцца трэба, дык і цёпла будзіць.*

**Падхухуліцца** — прычапурыцца, прыбрацца. *Як падхухуліцца, дык хоць пад вянец вядзі.*

**Падшпаркі** — дзеці. *У яе ўжо свае падшпаркі пайшлі.*

**Падштука́ніць** — нешта падладзіць, падстроіць. *Да працы рукі як крукі, а падштуканіць штуку спец.*

**Паёнік** — цяля, адсаджанае ад каровы, якое пояць. У пойла апускаецца рука, а цяляці даюць смактаць пальцы. (Адсюль і пра заядлага пітака: п'ець без пальцаў.) *Паёніка неяк падкачаць трэба.*

**Пажашкі́** — смяцінкі. *У чужым воку пажашок згледзіць, а ў сваім і бярно не бачыць.*

**Пажыванне** — здабыча, спажытак. *Пайшоў на пажыванне, нешта ж знойдзіць.*

**Пажывіцца** — падмацавацца, перакусіць.

*Узяў абараначак — пажывіўся,*
*Узяў я дудачку — павесяліўся.*

**Пажытак** — здабыча, узятак. *Тады пажытак самы ў пчол.*

**Пазаву́галле** — цёмныя куткі, завуголле. *Яго сон не бярэць, ён яшчэ будзіць хадзіць пазавугаллю.*

**Пазаддзе** — адыходы, высейкі. *Не ячмень, а пазаддзе адно, гэта ж трэба так не ўрадзіць.*

**Пазасвараваца** — дужа перасварыцца. *Так пазасвараваліся да паўсмерці, ваўкамі ходзюць.*

**Пазаўтраму** — паслязаўтра. *Пазаўтраму й дамоў паедзім.*

**Пазню́р** — позні, пазны. *Агуркі-пазнюры яшчэ зялёныя.*

**Паказеліць** — вырачыць вочы. *Паказеліў ужо вочы, казёл бязрогі.*

**Пакато** — кола. *Пакацілася пакато, не дагоніць ніхто.*

**Паклычацца** — пускаць клыкі (парасткі). *Семя буракоў намочаць у анучку, як паклычацца, тады й садзяць. Бульба ў ямі доўга растоў не пускала, алі ўжо паклычалася.*

**Па́круп'е** — рэштка ад прасеяных круп. *Крупы з'елі, адно пакруп'е асталося.*

**Пакрэпнуць** — азябнуць, зайсціся. *Не да любеблі, калі рукі пакрэплі.*

**Па́кулле** — атрэпкі лёну й пянькі, якімі зазвычай заторкваюць шчыліны.

*Адна ластаўка на пуні,*
*А другая на таку.*
*Лепі пакуллям заторкну,*
*Ды не дам я дураку.*

**Палавы** — з мякінай, з палаўнёй. *Лепі палавы хлеб, ды першы, чым другі пшонны.*

**Палазаві́нкі (палазняк)** — след ад палазоў, палазня. *Ішла па палазавінках, набок неяк сыйсці. Цяжка йсьці па палазняку, а ўсё ж ня ўцэла.*

**Пала́начкі** — начовачкі (часцей ліповыя) палоць (веяць, правейваць) крупы. *Мы ў паланачках палолі груцу.*

**Паласіна́** — паласа, абрэзак. *Дзе Трахім жыў, там гэта паласіна ў роў.*

**Палату́нак** — спажыва. *Лісіца чуіць палатунак. Добраткі палатаваўся на базе, пакуль ня сеў.*

**Палаць вачмі** — быць у нялоўкім становішчы, саромецца нечага. *А я стаю ды толькі вачмі палаю.*

**Палёгліца** — палеглая трава. *Каб дзе травінка ўкосная, адна палёгліца.*

**Па́лер** — ахвота, жарсць, пал. *Умеіць жа палеру нагнаць.*

**Палі́ўнік** — ганчар, той, хто робіць паліву. *Кравец без штаноў, паліўнік без staўбуноў* (жбаноў).

**Палудзень** — папаска летам у полі пасля абеду. *Журавы паляцелі — палудзень паняслі* (пазной восенню ўжо не палуднаваюць).

**Пальчыкі** — невялікая рыба, драбяза. *Налавіў рыбы во такой — пальчыкі.*

**Палю́к** — дзяржанне ў касы. *Так улёг касіць, аж палюк лопнуў, давялося новы гнуць.*

**Паляўцы́** — жыхары бязлеснай мясціны. *Паляўцы да лесаўцоў грэцца едуць (па дровы). У паляўцоў поле, як толькі вокам скінуць, каб дрэўца дзе.*

**Памаўза́** — хто без просу некуды лезе, нешта бярэ. *Памаўза скрозь улезіць, абы памаўзаваць.*

**Памёт** — папар. *Купалка на памётах расцець.*

**Памошка** — падмацунак, падмога.

*А збірайся, мой брацітка, у дарожку,*
*А бяры злота-серабра ў памошку.*

**Пана́дка** — звычка, завядзёнка, мода. *Паняў панадку — выпіваць піва кадку.*

**Панаравіцца** — пакапызіцца, пакапрызіць. *Панаравілася, не ўзяла ў злось.*

**Панурка** — адменнік мышы. *Ішла Панурка растурэцкая з гарада́ й пыталася ў Куркульяна: «Ці дома цар Канстанцін?» — «Быў на грыме-гарадзе, пайшоў на глінгорад».* (Мыш пыталася ў пеўня, дзе кот. Певень адказаў, што быў на градзе дроў, а потым пайшоў на печ.)

**Пануры́цца** — паваліцца, упасці. *Аплявуху як дась, каб панурылася. Як стаяў, так і панурыўся носам у снег.*

**Папа́саваццa** — разгуляцца, раскашаваццa, пабаляваць. *Ці свінні елі, ці шляхта папасавалася. Нядоўга яму папасаваццa асталося.*

**Папасці** — застаць, заспець. *Во каго хоць раз папала.*

**Папе́рва** — спачатку. *Паперва буракі выраслі.*

**Папі́ка (папікішча)** — дакор, папіканне. *Кожны раз адным і тым жа папіка. Было папікішча на цэлы век.*

**Па́пінка** — гатунак яблыкаў. *Пятрок Апёнак сваю папінку абабераць, пад Новы год вязець прадаць.*

**Паплячэць** — раздацца ў плячах, памужнець. *Не так вырас маліц, як паплячэў.*

**Папра́шаваць** — прасіць часцей. *Ілонка ўжо есці папрашаваіць.*

**Папушчэнства** — патуранне, паблажлівасць. *Усё шаленства праз гэта папушчэнства.*

**Пара́** — час. *Курам дала, во колькі пары.*

**Параднік (парадніца)** — дарадца. *Сястрыца-парадніца, парайце парадачку.*

**Паравы** — каму прыйшла пара жаніцца. *Паравы хлопец, паглядны, а па́ры яму няма.*

**Па́расаваць** — рабіць беспарадак, гаспадарыць не ў сваім жытле. *Хата як ляда — папарасаваў злодзя.*

**Па́раснік** — хмыз, порасць. *Усе лугі параснікам параслі, недзе касе ўткнуцца.*

**Пароддзе (прыроддзе)** — гатунак. *Сёлета з калхоза другое пароддзя бульбы.* Яшчэ — род, радня. *Усе некуды ўцёрліся, іхнае пароддзя такое, усе надта разумныя.*

**Парожнія рукі** — пустыя, вольныя. *Ідзець гэта к гэтай, алі парожнія рукі.*

**Паролікі** — бульба, якая перазімавала ў зямлі, бо яе не выбралі. *Бывала, з вайны паролікаў напорыш, абчысціш, адцісніш, нюшок мукі дадасі — і лапуноў напячэш, усё ж кішку абдурыш.*

**Пароўну** — упоравень, да самага нізу. *Я кашу́ пароўну зямлі.*

**Пароцца** — валтузіцца, капашыцца. *Кошка старая ляжыць, а маленькая кошачка порацца ў яе пад пузам.*

**Пару́шыцца** — падарвацца. *На гэтай працы цяжкой парушыўся чалавек.*

**Па́свішча** — выпас. *Атава адскочыла — самае пасвішча.*

**Пасівярэць** — падсохнуць на сіверы. *Дошкі падсохнуць, пасівярэюць.*

**Паскума́ціць** — зблоціць, змарнаваць. *Косіць так, што паскумаціць, паскумаціць — і на тым.*

**Паслюгоціць** — паслініць, папэцкаць. Яшчэ — пасулоціць. *Толькі паслугоціць, пасулоціць дый выплюніць.*

**Паснаццё** — посная страва, без закрасы, без затаўчыны. *Сёлета парасёнка не дзяржалі, так паснаццём і давімся.*

**Пастка** — пашча, рот. *На поўную пастку есь.*

**Па́сушнік** — пасохлае лісце. *Каровы пасушнік ядуць.*

**Пасце́льнік** — дошкі, што на дне ў брычцы пад сенам. *Пасцельнік новы, хоць два беркаўцы можна класці ў брыку.*

**Патарчака** — стрэмка, карчавешка.

*Дзеўка ў рэчцы купалася,*
*Патарчака папалася.*
*Як на гэту забылася,*
*На другую узбілася.*

**Патруха́** — пацяруха, аб'еддзе. *Запрог у сані, патруху насыпаў у кашэль каню есці, конь стаіць, патруха стаіць.*

**Паўдзень** — паўдзён. *А ў паўдзень ніхай прыйдуць, возьмуць паўлітра малака.*

**Паўднёвішняе** — пра малако, падоенае ў паўдзён. *Дастань паўднёвішняе малако, яно не ўкісла.*

**Паўколак** — палова недачасанага кала, пра нязграбу. *Гэта дзеўка прама нейкі паўколак.*

**Паўхір** — пухір, пухліна. *Паўхір не пытаіцца, дзе яму ўскочыць.*

**Паўцагелак** — кавалак цагліны. *Грубку з паўцагелкаў склалі, алі цэгла была старая, добрая.*

**Паўшабэлак** — падлетак (з адценнем пакепліванне). *У кажнага паўшабэлка свая абэлка.*

**Пахадзе́нь** — венік, якім мятуць на хаду. *Маліц пахадлівы, як пахадзень.*

**Пахадзіцца** — пакрыцца. *Дала за казла тры рублі, й каза мая пахадзілася.*

**Пахадні** — як бы гульня, забава. Каб адчапіцца ад надаядлых і шумных малых, каб хоць на час пацішэла ў хаце, звычайна пасылалі: *«Збегайце, вазьміце ў Музыканціхі пахадні».* Малыя бягуць у крайнюю хату: *«Матка сказала, каб мы забралі нашы пахадні».* А там ужо ведаюць, што гэта проста забава, й пасылаюць да Мікіціхі, а Мікіціха пасылае да Піліпіхі. І так, пакуль усю вёску абгаляпаюць, суцішацца дуронікі й на паветры набудуцца. А па пахадні пасылаюць наступны раз наступных.

**Пахляба́ла** — рэдкая страва. *Памачы хлеб у сала й дай кошцы, а то што ей тое пахлябала.*

**Паходнік** — падарожнік, вандроўнік, хто ў паходы ходзіць. *Нейкія людзі хадзілі, можа, якія паходнікі.*

**Па́цебнік** — кустоўе алешніку, хмыз. *Пацебнік высячы, дык ладная дзялянка будзіць.*

**Пацішнець** — супакоіцца, пасталець. *Пацішнеіць ніхай, тады й гаварыць будзім, падрастуць, пацішнеюць вачапоры.*

**Пацьмяк** — тоўсценькі, мяканькі, малы. *Такі пацьмячок, аж па азадачку пашлёпаць хочацца.*

**Пачопка** — падвешаная пад столлю калыска-зыбка, якую калышуць звычайна нагой. *Матка начэй недаспала, з пачопкі нагі не вынімала.*

**Пачуле́ць** — набрацца моцы, падужэць. *Хай падрасцець, пачулеіць троху.*

**Пачэпка** — аборынка, скураток, чым пуга прывязваецца да пугаўя. *Пачэпка гнілая была ўжо, й пуга згубілася, адно пугаўё асталося.*

**Пашлапень** — нягеглы, недалужны чалавек. *Пашлапень зачапіўся за пень, пень стаіць, а пашлапень ляжыць.*

*Такі-сякі пашлапень,*
*А ўсё ж за ім паляпей.*
*Такі-сякі, абы быў,*
*На гарэлку ж зарабіў.*

**Пашлы́пацца** — пахадзіць, пацялёпкацца. *Па вадзе пашлыпалася-пашлыпалася й захварэла.*

**Паялопіць вочы** — вылупіць. *Чаго ты вочы свае паялопіў?*

**Паяс** — паясніца, пояс. *Вада па паяс, усё стаіць, як мора, зарасло сіня й сіня.*

**Пекліцца** — мучацца. *Мы б усё роўна пекліліся з ім.* Яшчэ — працаваць няўдзячна (як у пекле). *Цэлы век пеклюся, свету белага не віджу.*

**Пекліць** — аддаваць усё набытае цяжкой працай. *Матка, як вол, робіць і на дачку ўсё пекліць.*

**Перабойны** — тое, што бывае ў крамах з перабоямі. *У нас ужо карасіна перабойная, пра астатняе й казаць ня хочацца.*

**Пер'е** — у цыбулі. *Цыбуля ў мяне пасаджана. Цяпер пер'е з дожджу добрая вырасла.*

**Перавуззе** — вузкая мясціна, дарога, абапал якой балоты ці азёры. *Возіра ад возіра блізка, дарога абапал балота, толькі перавуззем і можна прайсці.*

**Перадкава́ць** — забягаць наперад, лісліва гледзячы ў вочы. *Не перадкуй, як сабака перад пастухом.*

**Перажыргнуць** — пераступіць цераз каго, цераз штосьці. *Аджыргні, а то расці не буду.* (Ёсць такая прыкмета: калі перажыргнуць цераз каго, ён расці не будзе.) (Літоўскае żergti — пераступаць, перакручваць.)

**Перажыткі** — усё, што здараецца ў жыцці. *Трэба ж усе перажыткі пеpажыць.*

**Пераклады** — жэрдкі, якія падтрымліваюць снапы ў гумне, каб не валіліся.

*У мяне гумно вялікае,*
*Пярэплаты вісокія,*
*Перакладьі шырокія.*

**Перакуска** — падмацунак. *Каням перакуску далі, самі пад'елі.*

**Пералетак** — маладая жывёліна, якая пералетавала (гадавалася летам). *Асталася на завод цялушка-пералетак.*

**Перапрос** — перапрашэнне, выбачэнне. *Глядзіць, што перапросу не будзіць, дык і маўчыць.*

**Перапуддзе** — страх, перапалох. *І такое перапуддзе найшло на ўсіх, што не маглі апомніцца.*

**Пераруга** — цвяленне, наруганне.

*Пайду я каля лугу*
*Мальцам на пераругу.*
*Пайду я каля саду*
*Дзеўкам на перасаду.*
(Калі перасядае ў горле ад зайздрасці.)

**Перасыпáць** — перабіраць, памяняць падгнілыя вянцы ці асобныя бёрны будыніны. *І хату й трысцянец перасыпалі, цяпер будынінка як званок.*

**Пературакаваць** — перарабляць, змяняць. *Так не так, ператакаваць не будзім.*

**Першынá** — першы раз, упершыню. *Ці мне першына адной спаць?*

**Пестун ваўчыны** — спешчаны, распушчаны (з кеплівым адценнем). *Во, яшчэ пестун ваўчыны сквярэцца.*

**Печанёўка** — кілбаса, у асноўным з пячонкі і лёгкага. *Пічаннё, ліганнё перакруціш, і пічанёўка гатова.*

**Пешакá** — пешкі, пехатой. *Туды й пешака зайсці можна.* Яшчэ — пюхтам. *Ад падвод адстаў, дык усю ноч пюхтам пёр.*

**Пілатоўкі** — балацявіна ў купінах. *На пілатоўках не разгонішся.*

**Пільніца** — тэрміновы клопат. *Такая пільніца навалілася, што ні спаць, ні есці некалі.* (Пільна — значыць тэрмінова.) *Каму пільней, таму пыльней.*

**Пільсць (пільсь)** — поўсць у ката. *У Мірона такая гладкая пільсць, аж блішчыць на ім, толькі гладзь.*

**Піскляняты** — кураняты. *І піскляняты пішчаць, і гэта піскля сквярэцца, піск стаіць.* Яшчэ — пылькі, ціплюкі. *Я сабе ціплюкоў купіла з кубатара, дзяўбуць зернеты.* (Курэй, куранят клічуць: пы-лі-пы-лі, ціп-ціп-ціп!)

**Піцаваць** — шчыра працаваць. *Піцаваў-піцаваў, а заробіў бочку мякіны.*

**Піцýга** — шчыры працаўнік. *Такі піцуга быў, а помятнік сабе не заробіў.*

**Плазма (плазмаком)** — бокам ударыцца, упасці. *Урэзаўся плазма, аж іскры ўваччу.*

**Племянютанька** — ласкавы зварот да пляменніка. *А племянютанька ты мой, чаго ж так рэдка бываіш?*

**Плоць** — плоткі (зборнае паняцце). *Плоць з белай спіной стаіць у возіры.* (Польскае płoc — плотка.)

**Побер** — засада, паляванне. Так цвяліліся са стрыжанага:
*Стрыжка-камарышка*
*У пóберы сядзела,*
*Усіх мышэй паела.*
*Адна пад мост —*
*І тую за хвост.*

**Повірак** — кіёк, палка. *Удваіх на повірку папёрлі цэбар.*

**Погусць** — густая страва, густыш. *Ці табе погусць наліць?*

**Пожаг** — кіёк, дубец з завостраным канцом (на агні абпаленым). *Гатоў пожагам вочы выкалаць.* Яшчэ — увішны, гарачы кавалер. *Ён маладзея, пожаг такі.*

**Покаддзю** — да ўпаду. *Мы покаддзю лажыліся са смеху ад ягоных жартаў.*

**Покат** — водгалас, гук. *Аж разлягаліся покаты смеху.*

**Покладзь** — яйка, якое пакідаецца (кладзецца) у гняздзе нясушцы, як бы на заахвочванне. Яшчэ — падкладзе́нь. *На покладзь адно яйцо пакінула, а ўсе забрала. У гняздзе толькі падкладзень ляжыць, сягоння не няслася курыца.*

**Пол** — палок, палаці. *Пол — ад печы да вакна, дзе спалі ўсе разам, а ўнізі — падполля, дзе бульбу хавалі. З печы, з полу сабірайціся к столу!* (Клічуць есці.) *Дару жменю солі, каб было дзяцей падпольля!* (На вяселлі.)

**Полка** — пялёнка, пялюшка. *Збіраецца, як свёкар, полкі паласкаць.*

**Полягка** — палёгка. *Полягку зробілі паштарам — павесілі скрынкі на вуліцы.*

**Помак** — намоклае палена, нехлямяжы чалавек. *Як пакладзеш помак у печ, дык з яго толькі дым, а ціпла німа. На балесь мне гэны помак у хаці.*

**Поражня ехаць** — паражняком. *Туды вязець, аж восі стогнуць, назад поражня едзіць.*

**Порах** — прах, пыл. *Мышы ўжо салому на порах патачылі.*

**Посік** — выразаны ў забітага парсюка хвост і адпаведна ўсё, што пад хвастом. Зімой перад запаленай печкай посікам змазвалі боты, папярэдне патрымаўшы посік перад агнём. *Боты гладка ссохліся, вазьмі посік ды добра памаж іх.*

**Поўната** — поўны месяц, поўня. *Поўната на неба выкацілася.*

**Пояў** — з'яўленне, паказванне. *Мяне й появу не было там, а яны сваё — быў.*

**Праварына** — праход у плоце, куды йдзе жывіна (жывёла) з поля, адкуль выязджаюць. *Збегай закладзі праварыну, каб каровы ў шкоду не залезлі.* Перакладаў я неяк вершы ўкраінца Івана Драча. Там было: на ворині сидять тесть і зять. Слова ворина не было ні ў Грынчэнкі, ні ў сучасных слоўніках. Мой сусед-украінец патлумачыў, што гэта проста жардзіна ў плоце. Дзе Кіеўшчына, дзе Вушаччына, а словы пакумленыя. І ясней, адкуль праварына. Дарэчы,

на Вушаччыне ёсць і слова таго ж значэння — увароціна. А на Меншчыне праварына — стойла.

**Правіна** — віна, вінаватасць. *Якую ды якую правінку знайдзіць, абы прычапіцца.*

**Прадрогацца** — пратрэсціся, пракалаціцца. *Па брукаванцы прадрогаўся, як жывы астаўся.*

**Пражонка** — страва. У чыгунку пражэ́цца (тушыцца) сала, кілбаса, скабінка (рабрына). У яе мачаюць бліны ці закручваюць у блін. *Калядны стол без пражонкі, як мужык без жонкі.*

**Пражытак** — пражыццё, выдаткі. *Што б яму мала было на пражытак гэтых грошы.*

**Прайдак** — кемлівы, пранырлівы, вясёлы чалавек. *Прайдаку лацвей у любым баку. Прайдак не прападзець нідзе — ні на зямлі, ні на вадзе.*

**Пралаіць** — прысароміць. *Пралай яго, што абы-як ходзіць.*

**Праскарджваць** — упікаць, прасміхаць. *Другіх праскарджваіць, а на сябе дыхнуць баіцца.*

**Пратарэка** — жартаўнік, прасмешнік, пад'ялдыка. *Пратарэка ўсіх прасмяець, а сам і не ўсміхнецца.*

**Пра́тацъ** — выбіваць пранікам мокрую бялізну. *Цэлы адвячорак пратала белле на кладцы, як пранік ня збіла.* Яшчэ — біць, дубасіць. *Яна на яго вярэць, а ён яе пратаіць. Чорная карова ка мне ды абваліла, пратаіць у грудзі рагамі, і ногі пасініла.*

**Прахадзі́м** — прайдзісвет, махляр, круцель. *Прахадзімы гэты ўсякія поўну Вушачу наехалі.*

**Праці́вак** — прамежак паміж дзвюх сценаў у хляве. *У пуні сена кладуць на два канцы, а пасярод дзверы. Гэта й ёсь праціван. Два канцы сена налажыў і праціван.*

**Прачутка** — погаласка, чутка, навіна. *Прачутка пайшла па сяле, што Праксэдзін маліц вярнуўся.*

**Проздзверы** — выбягаць, уцякаць. *Ён проздзверы — і насып яму солі на хвост.*

**Промеццю (апромеццю)** — стрымгалоў, не зважаючы ні на што. *Як угледзіць бацьку, промеццю ляціць.*

**Прос** — просьба, угавор. *Яна дуроная, просам нічога не зробіш — калі крыкну, калі джгну.*

**Просты** — няпутаны. *Папускаў конікаў простых у сад.*

**Протар** — рагацень, пожаг. *Не прапарыся на протар, рот разявіўшы. На протары сала на агні пяклі.*

**Прохаладзь** — халадок, ахалода. *Толькі к вечару павеяла прохаладдзю. Хоць упрогаладзь, абы ў прохаладзь.*

**Пру́дзіцца** — напінацца, упарціцца. *Вінаватая, а яшчэ й прудзіцца. Аж прудзіцца, каб сваё даказаць.*

**Пру́дзіць** — у гарачым памяшканні (вашапрудні) «пражыць» (знішчаць) вошы, варам прудзіць прусакоў у шпарах (у шчылінах). *Вашапруд на кут, а добраму чалавечку добра і ў запечку.*

**Прыбіць ногі к азадку** — шмат выхадзіць, забегацца, стаміцца ад хаданіны. *Прыбіла ногі к азадку, пакуль паперыну гэную выбегала.*

**Прыбытак** — дзіця, малое. *Жывуць ён і жонка, а ў жонкі прыбытак будзіць.*

**Прыбыцкія** — розныя няпрошаныя госці й наведнікі. *Ад гэтых прыбыцкіх спасу няма, хоць дзверы забі.*

**Прыверціся** — прыцягнуцца, прывалачыся. *Прывярэцца ўночы п'яны — й радуйся, жонка.*

**Прыві́на** — прычына, абэлка. *Любая прывінка знойдзіцца, абы адчапіцца.*

**Прыгажавіты** — прыгожы, паглядны. *Мужык ён прыгажавіты, не круці душой.*

**Прыдумнік** — кемны, быстры на выдумкі. *Яны, бапцісты, прыдумнікі.*

**Прыйсці на стол** — на памінкі. *Прыйдзіці ж на стол, памянём нябожчыка.*

**Прыкулі́кацца** — прыкавыльгаць, прывалачыся. *Яна ка мне прыкулікалася к вечару.*

**Прылажыць** — прыбудаваць, прыладзьбаваць. *Трысцен новы прылажыў к хаці, дык атразу ўсім прасторна стала.*

**Прылежаны** — праляжаны, прыціснуты, сцяты. *Падушкі, насыпкі прылежаныя — знізу прыляжаліся.*

**Прылепіш** — лёгкая, нехуцаватая прыбудова. *Такая хата ў іх ёсь прылепленая, у прылепішу й жывуць.*

**Прылюдзіцца** — прыбрацца святочна, у людзі. *Як прылюдзіцца, дык і на чалавека пахож.*

**Пры́мастачка** — нешта прымошчанае да ганка, да моста. *Каб прымастачка якая, неяк ступіць.*

**Прынізісты** — нізкі, прыземісты, абніжаны, ніцы. *Прынізісты маліннік, а маліны сядзяць, як таўкачы.*

**Прыпарадчыць** — прыбраць, навесці парадак. *Троху ў хаце прыпарадчу, дый ладна.*

**Прыпа́рак** — сугрэў, парнасць. *Німа такога прыпарку, каб дожджык, а то з тога боку, з холаду, сядзяць агуркі.*

**Пры́парніца** — прыпар, гарачая пара. *Цяпер самае прыпарніца ў вусіх, на зіму стараюцца.*

**Прыпі́рышча** — прыстанішча, прыстанак, свой кут. *У пагарэльца ні прыпірышча, ні прыстанішча.*

**Прырода** — род, радня, крэўнікі. *Прырода мая ўся тут, і мяне тут закапаюць.*

**Прыродны** — тутэйшы, чый род тут. *Кавалеўскія прыродныя ўсе паўміралі, а наезджыя жывуць, асталіся.*

**Прысабачыцца** — прыстаць. *Ды яшчэ прысабачыўся к гэтай валяўцы.*

**Прысватыш** — хто сам навязваецца ў сябры, у кампанію. *Бяз прысватыша абыйдзімся.*

**Пры́святак** — пярэдадзень свята, конадзень. *Ці гэта будзінь дзень, ці прысвятак?*

**Прысіві́ць** — трошкі забяліць булён, суп. *Хоць трошкі прысівіш булён, усё ж смачней.*

**Прыскрынак** — шуфлядка ў скрыні, у стале. *Адразу пакладзі ключы ў прыскрынак, каб потым не шукаць скрозь.*

**Прыслі́зіць** — зрабіць слізгату. *Дарогу разрылі, чуць троху прыслізіць — не ўехаць.*

**Прыслонак** — мясціна на сонечным баку. (Мама тлумачыла: сонца прысланяіцца, упіраіцца.) *На прыслонку клубнічыны згарэлі гладка.*

**Прысляпі́цца** — прыстаць, прыбіцца. *Тады Каця (кошка) кашы́цца к Кухарэнчысі прысляпілася.*

**Пры́смалак** — мясціна, дзе прыпякае сонца. *Такі прысмалачак найдзіш, маліны такія спелыя — аж сінія.*

**Прысмалкі** — прысмаленыя сонцам дачарна пралысінкі на палазні. *Ужо зачарнеліся прысмалкі, на санях ехаць цяжка.*

**Пры́смаўкі** — выбоіны, ямінкі. *Колы так скачуць па прысмаўках, што зубоў не сабярэш.*

**Прыстроіць** — зрабіць дзіця. *Ён дзеўцы мальца прыстроіў.*

**Прыступу няма** — не падступіцца. *Ён маёй пяты не варты, а яму прыступу няма.*

**Прытул** — прыстанак, прытулак. *Пецькава жысь сыйшла на быка, німа яму прытулу, будзіць ён за паганую палку.*

**Прыты́ка** — прымак. *У Маісы гэтай прытыка завёўся.*

**Прытыкіш** — не гаспадар, той, хто толькі прыткнуўся ў бяседзе, не свой у грамадзе. *Ён вечна як прытыкіш нейкі. А гэта што яшчэ за прытыкіш?*

**Прыхаіць** — прыбраць, давесці да парадку. *Прыхай троху ў хаце дый сама прыхайся.* (Адсюль і неахайны.)

**Прыхінацца** — прытуляцца, абжывацца, атайбоўвацца. *Век зжываіць чалавек, трэба ж некуды прыхінацца.*

**Прыхітрыцца** — схітраваць, прымудрыцца. *Некаторыя прыхітрыліся самагонку гнаць з нічога, абы галаву адбірала.*

**Прычандалы, прычандалле** — рознае начынне. *І без тваіх прычандалаў барахла поўна.*

**Прычына** — бяда, няшчасце. *У калхозі прычына зробілася: слабая цялушка ў балота ўлезла й залілася.*

**Прышорхнуць** — падмерзнуць. *Дарога троху прышорхла, адлега прапала.*

**Прыязджалы** — прыезджы, хто бывае наездамі. *Чалавек ён прыязджалы, алі наша ўсё знаіць.*

**Пселы (псюк, псіца)** — састарэлы. *Пселы псюк, а ўсё туды ж нясець свой сюк.*

**Псуйства** — марнаванне, псаванне. *Адно псуйства паперы, а не пісання.*

**Псю́рыць** — сцябаць, біць рамянём, дубцом. *Як перапсюру дзягай, дык шоўкавым зробішся.*

**Пузе́нь** — чэрава, жывот. *І ў Пецькі ад піва пузень вырас.*

**Пукі́** — парасць у цыбулі. *Маладыя пукі аблупліваюць і ядуць, яны салодкія. Цыбуля пад марозам сядзела, дык яна ў пукі йдзець, а там ёсь на сімяну.*

**Пулятая** — яркая, квяцістая (пра тканіну). *Хустка пулятая, сама багатая.*

**Пуляць вочы** — га́ліцца, рабіць вялікія вочы. *Атарві ягадзіны, а то рабяты пуляюць вочы на іх.*

**Пурхнуць** — абвяць, шашэрыцца, шэжыцца. *Мае ж куры крычаць есці, папурхла іхнае крылліка ад жары.*

**Пусціцца** — разрасціся. *Ад саду карэнне пусцілася.*

**Пу́тра** — страва. *Аржаную муку размішаць, да вечара засалодзіцца, зробіцца салодкай, а пасля ў дзежку, дзе хлеб, трэба ж, каб яна ўкісла.* (Латышскае putra.)

**Пуха́** — тупы канец яйка. *На першы дзень Вялічка б'юцца яйкамі дзюбкай, а на другі дзень пухой.*

**Пуц** — пацук. *Пацука можна й пуц называць.*

**Пуцкалаваты** — пухлашчокі, лупаты. *І сынок пуцкалаваты — копія таты.*

**Пушачка** — карабочак. *У пушачцы ўсё складзена — й ніткі і йголкі. Хоць пушачку цукерак малому прывёз, адшкадаваў.*

**Пы́лькі** — назоў курэй, куранятаў. *Пылькі мае, пылюткі, акыш куды, акыш у хлеў.*

**Пыркл́івая (пыклівая)** — калуплівая, якая патрабуе шмат часу. *Работа пыркдівая — пер'е скубсці.*

**Пырсь** — пырх, шась. *Упаў снарад, галава пырсь уверх, паляцела.*

**Пы́хтараць** — лезці без просу, дападаць усюды. *Як бацькоў німа, дык дзеці пыхтараць па хаці.*

**Пышэць (пытэць)** — брадзіць, хадзіць. *Уцерпяць яны, калі там стаіць пышыць (пытыць) бражка.*

**Пэтрухі** — парахня, шчэнт. *Згніў кузаў у пэтрухі, дык я яго за лазовыя кусты выкінуў.*

**Пэцкаль** — няўмелы, нядбалы працаўнік. *Пасля пэцкаля ўсё пераробіць трэба.*

**Пяколак** — чарэнь, гарачае месца на печы. *Баба сядзіць на пяколку й есь клёцку.*

**Пялёх** — гукаперайманне. *Вада ў возіры пялёх-пялёх.*

**Пярхекала** — хто кашляе сухім кашлем (перхае). *Стары пярхекала ў хаці, як барана якая.*

**Пяршачка** — карова, якая першы раз цялілася. *Купіла пяршачку, мала яшчэ малака даець.*

**Пярэжні** — пярэдні. *Сабака кульгаіць на пярэжнюю лапу.*

**Пярэкруты** — перакручаныя ніткі. *Калі калаўротам круцюць — пярэкруты, як ткуць — бугор.*

**Пястачка** — шчопаць, нюшок у пяць пальцаў мукі, солі, круп. *Усып яшчэ пястачку круп, а то суп рэдкі.* (Відаць, ад пяці кстоў (пальцаў).

**Пясчанкі** — грыбы, якія па пяску растуць. *Павінны пясчанкі пайсці, зялёнкі з зямлі пушчаюцца.*

**Пята** — у касе. *Хай на пяту бярэць, а не носам, тады лепі касіцца будзіць.*

**Пяток** — лік пяць. *Пяток яечак ды йшчэ пяток, глядзіш і дзесяток будзіць на Вялічка.*

— Па што, воўча, йдзеш?
— Па апошняя.

— Пакажы.
— У казы пад хвастом паглядзі.

— Папкі (хлеба просіць малы).
— Скулля ў лапкі.

— Памагай Бог!
— Казаў Бог, каб і ты памог. (Калі працуюць, а хадыка жадае спору.)

— Позна ўжо.
— Гэта ж ня ў гроб лажыш, што позна.

Пагода цёмная, як у мяшку.
Па дастатку пякуць букатку.
Па ім верхам едуць, як па пастуху.
Па малаку ног не павалаку.
Паверх папараці пайшоў (заганарыўся, адбіўся ад рук).
Пагавары з ім, як цар з жыдам.
Пагода — аж трасецца.
Пад паветкай тры кані (хуткамоўка).

Пад'еў — аюсь у хлеў!
Падаіць з гары, а б'ець унізе (маланка).
Падняўся вышэй папараці.
Падторкнуўся, як чорт з каўшом пад брагу.
Падупалага не лічы за прапалага.
Пажывём далей, пачуем балей.
Пазыкі не ходзюць без'языкі.
Пайшла слава да Аршавы.
Пайшла сучка баразной (знаёмым шляхам).
Пакажу табе, на чым свіння хвост носіць (пагроза).
Паказаць кіем, у які бок дамоў ісці.
Пакроў, пакрыў Божа зямлю сняжком, ваду — лядком.
Пакуль вочы свецюць і глядзяць.
Пакуль лес адзеніцца, невядома, хто дзе дзеніцца.
Пакуль па каню, па аглоблі скарэй.
Пад стогам мышы дохнуць (вугалле тухне пад гаршком).
Паліц каля пальца грэіцца.
Палопаліся са смеху.
Памагло, не памагло, а ад сэрца адлягло (за сэрца ўзяло).
Памог як кашаль кольцы.
Памрэць матка — аслепніць бацька.
Пасля Саракоў не начуй за ракой.
Паспеіш з козамі на торг.
Пастух-пражор на пасту йдзець — жарэць, з пасты йдзець — жарэць.
Пахахаталі б у повен рот.
Пацалуй мяне сягоння, а я цябе заўтра.
Пацягнула, як ката па варацакі.
Пашкадаваў воўк кабылу — пакінуў хвост ды грыву. Ці будзіць яна жыва?
Пашлі дурнога, а за ім другога.
Пашлю пасланца па любога гасця. Госць ці прыдзіць, ці не, а пасланец ня верніцца (стрэл).
Пекната чысціню панясла на вышыню (агонь (ці кот) узбег на страху).
Пенсія малая — пальцам вымакаіш.
Пень гарэў, а воўк азадак грэў, іскра пала й радня стала.
Перад зайцом жабы ўцякаюць.
Перад сячэць, а зад валачэць.

Перапілі, параелі, пералушчылі,
Перапілі, пераелі, пераласавалі.

(Шчабеча ластаўка.)

Ператрэцца, пераменіцца — мука будзіць.

Першая краска лепі цвіціць.

Пілі, пакуль іх у штабялі не склалі.

Піў, піў, як напіўся, дык ажарабіўся.

Піце, жылы, пакуль жывы, пойдзіце да гробу, вып'еце хваробу.

Піць (пітва) — хоць галаву мый.

Пішчыць, як свіння ў пярэплаце (у друках).

Плач, галасі — рады не дасі.

Плюй на верхні грыб, на ніжні само зваліцца.

Поўна бочачка віна, нідзе дзюрачкі німа (яйка).

Поўна бочачка круп, а наверсе струп (мак).

Пракоп пралез праз строп, праз крупы, праз муку й праз падкруп'я (хуткамоўка).

Прайсці туркі-баркі.

Прайшоў усе трубы й воўчыя зубы.

Прапаў, як муха ў сыраватцы.

Прасіў, прасіў — ня выпрасіў, бадай табе чорт выкусіў!

Працягні, Бог, веку з зайцаў хвост.

Праязджаць на шармака (шармачка) (на дурніцу).

Проста, як гаспадарчае мыла.

Пры віннай чары сяброў хмары, пры худой гадзіне нікога ў паміне.

Прыдзіць каза да ваза, ды ня будзіць сена.

Прыйшоў з бору й гоніць з двору.

Прыйшоў у маю хату й б'ець майго тату.

Прыходзюць дні к вечару.

Прычапіўся, як сляпы к плоту.

Прышануй адзежынку дома, а яна цябе ў людзях.

Псюк пад каленьмі кусаіць, ды німа каму выгнаць яго (старасць).

Пуза на лоб лезіць (пра тоўстага).

Пусці — паваллюся, падымі — устану.

Пусціўся, Мікіта, у валакіту й валачыся, пакуль канцы прыйдуць.

Пыжыкі дуць (пра надуцьку).

Пытаіш у хворага здароўя.

П'юць так, што сабакі морду ліжуць.

Пяі, бусел, на балоці (хуткамоўка).

Пятух вечарам нанач пяець на цёпла, а як халодна, дык з курасадні не злазіць.

Пяць пальцаў на руцэ і ўсе жалка.

**Рабаццё** — рабацінне. *Рабаццё пабіла твар, як яечка птушынае.*

**Рабой** — рознае начынне, розная ежа.

*А пры мне ёсь рабой,*
*Нап'ёмся гарэлачкі мы з табой.*

**Рагачом** — параскіданае дагары нагамі. *І ў хаці ўсё рагачом, і гаспадар з добрым рагачом.*

**Рáгі (рагíлі)** — падцёкі, струменьчыкі. *Абярнуў цэбар, рагілі так і пацяклі. Вытрыся ты, па шчоках рагі цякуць.*

**Радабодзь** — рэдка, абы-як тканае, вязанае. *Не настольнік, а радабодзь нейкая.*

**Радак** — рэдкая сетка. *Большую рыбу радаком ловюць.*

**Радзіцца** — пра збажыну. *На хлябы ў нас ураджай радзіўся.*

**Раз'еханая** — разбітая. *Можа, дзяўчына была, калі к ей падкаціўся, а каб была такая раз'еханая, сказаў бы: на чорта ты мне.* Яшчэ — асунутая. *На полі асталася бабка троху накрытая, раз'еханая.*

**Разáчка** — боль, рэзі. *Каб яе разачка рэзала, як я ейную капусту чапала.*

**Разбасячыць** — распусціцца. *Так разбасячыў на гэтай рабоці, што ад рук адбіўся.*

**Разбіць** — расчыніць, развесці. *Узяла разбіла бліноў, спякла блінок.*

**Развалкі** — сані. *На сені ў развалках і ў мароз цёпла.*

**Развіцца** — аслабнуць, анямець. *Рука так развілася, што не магу лыжку трымаць.*

**Раздабухацца** — расшчодрыцца, раскашэліцца. *П'яны прачухаецца, а жмундзяк не раздабухаецца.*

**Раздзяліць** — распазнаць, адрозніць. *Магу знаёмага раздзяліць здалёку.*

**Разжы́ліцца** — знясіліцца, развіцца. *Рука разжылілася — нічога не падняць.*

**Раззяпіць** — шырока расчыніць. *Раззяпіў дзверы й не падумаіць зачыніць!* (Ад зяпы.)

**Разінуць рот** — сканаць. *І сам рот разінуў (разюў), не парой яшчэ на той свет паспяшаўся.*

**Разласець** — прывыкнуць, звыкнуць да ласага, да прысмакаў. *Як разласеіш, дык палысеіш.*

**Размазгатаць** — разбіць да драбна, размяжджуліць. *Усю дарогу трактар размазгатаў.* (Выраз: бульба на мазгі зварылася — разварылася на кашу.)

**Разматруніцца** — расслабіцца, абвяць. *На людзях струніўся, а дома разматруніўся.*

**Разналадзіца** — разброд, align="" рознагалоссе, адсутнасць згоды. *І такая ў іх разналадзіца пайшла, як хто калатоўку ўкінуў.*

**Рандэлка** — невялікая пасудзіна. *Рандэлку мыла наклала.*

**Ранейшае** — ранняе, першае. *Пасею што ранейшае, хоць бацьвіння будзіць.*

**Раньком** — на досвітку, рана. *Устаніш раньком, будзеш з райком* (пчаляры кажуць). Яшчэ — ра́ння. *А тады рання бяру я ваду, а ка мне прыбігаіць дзеўка. Яна і рання напоіць, і вечар напоіць, і ў паўдзён дась выпіць.*

**Раскапусціцца** — рассесціся дужа шырока, заняць задужа месца. *Раскапусціцца на ўсю лаву, а мне стаі.*

**Распрарэшыцца** — данасіцца да дзюрак, да прарэхаў. *І верхняе й ісподняе распрарэшылася, насіць нечага.*

**Распушчонік** — спешчаны, распушчаны, неслух. *Нікога не баіцца, нікога й слухаць не хочаць распушчонік.*

**Рассяканка** — пра шуструю дзеўчыну кажуць. *У яго адны дзеўкі-рассяканкі, сыноў німа.*

**Расты́** — парасткі, карэньчыкі. *Цыбуля расты пусціць і сапшыкаіцца, яна цераз тры дні зялёная пусціць.*

**Расхохліцца** — распусціць валасы, нашушэрыцца. *Як расхохліцца, дык не пазнаць.*

**Расчвяліць** — парэзаць глыбока, распялёхаць, расшастаць. *Руку нажом да касці расчвяліў.*

**Расчынаць** — пачынаць. *Калі расчаў робіць, дык і роб.*

**Расшабуняцца** — раскатурхацца, расхадзіцца. *Ракамбокам, а як расшабуняешся, дык і на хваробы забудзішся.*

**Ратунку крычаць** — зваць на помач, моцна крычаць. *Ратуначку крычу, а ніхто не чуіць.*

**Раўні́зь** — роўная мясціна, раўніна. *Вырваліся на раўнізь — усё далёка відаць.* Яшчэ — раўня́дзь. *Такая раўнядзь — хоць на Вялічка яечкі качай.*

**Раўчы́на** — невялічкі роў, абровак. *Пабег раўчынай за руёй ваўчынай.*

**Рахунак** — выгода, карысць. *А ці будзіць рахунак купляць бульбу на базары?*

**Родзілка** — мякіна й зярняты. *Змалаціў усю й скрыжаваў (абмёў усюдых калоссе), асталася мякіна й жыта — родзілка.*

**Родня** — сваякі, свае. *Казала, устроілі к родні мальца гадаваць.*

**Рожа** — хвароба, калі гарыць твар. *Рожа напаўзаіць невядома калі, й рана і ўвечар. Рожу загавараваюць. Ішоў Хрыстос ціраз тры полі, ціраз тры дарогі й вёў семнаццаць рожаў. Першую паўзучую, вадзяную, камяную, пудавую, касцявую, розавую, ранішнюю, паўднёвую, чорную, урочную*

*і ўроч. Ідзі, уся худаба, проч. Ідзіці, рожы, на ніцыя лозы. Амін. І фу — падзьмеш.*

**Розна** — насцеж, наросхліст. *Вокны парасчыняны, дзверы розна.*

*Мой міленькі прыехаў позна,*
*Параскідаў падушачкі розна.*

**Рошні строіць** — прыкідвацца, цвяліцца. *Толькі рошні строіць, што хворая, а яе пабайнёй не заб'еш.*

**Рубель** — жардзіна (пераважна бярозавая), увязнік якім зверху ўціскаюць (увязваюць) сена ў брыцы. *Так стараліся ўціснуць сена, як рубель ня лопнуў.*

**Рубец** — шво, шытая адзежына. *Заехала туды — рубца сухога не было.*

**Рукаты** — майстра на ўсе рукі. *Ён маліц рукаты, у яго ўсё ў руках гарыць. Ён цясляр рукаты.* Яшчэ — зручны. *Такі ўжо зручны зяць папаўся, за што ні возьміцца, зробіць.*

**Рукаятка** — маток напрадзенай воўны.

*Ай, цюк дык і цюк,*
*Лепі дзеўка, чым дзяцюк.*
*Дзеўка хату падмяцець,*
*Рукаятку напрадзець.*

**Рукой пайсці** — добра гадавацца (звычайна кажуць пра свойскую жывёлу). *А можа, яна рукой пойдзіць.*

**Рунія** — рунь. *Рунія кажухом узялася, зерняты ўсхолыя былі.*

**Рупіць** — хвалюе, не дае спакою. *Каму рупіць, таму й вочы лупіць* (выраз — павылупіць вочы). Яшчэ — бядзіць. *Мне адно бядзіць, як гэта канцы з канцамі звесці.*

**Рупніца** — прыпар, клопат, праца, якую трэба зрабіць хутчэй. *Як рупніца нападзець, дык і валун ідзець.*

**Рухаць** — рохкаць. *Бог не слухаіць, што свіння рухаіць.*

**Ру́чна** — з рук у рукі. *Аддай яму доўг ручна.*

**Ручнік (ручніца)** — малыя, якія любяць сядзець на руках у бацькоў. *А маліц дык саўсім ручнік, з рук ня злазіць, ды і дзеўчынёшка ручніца.*

**Ручы́іць** — шанцаваць. *Хто на жыдоўцы жэніцца, таму свінні ручаць.*

**Руша́цца (руха́цца)** — кранацца з месца, наважыцца йсці, ехаць. *Дзе не ждуць, і рушацца нечага. Сядзі ты ў сваей хатцы й не рухайся, і там табе не мяды будуць.*

**Рыдзел (рыдлі)** — лапата, рыдлёўка. *Рыдзел — такая дзеравянная лапата з дрэва, а з бакоў жалеза, як панчоха надзета.*

**Рыззінка** — рызман, зношаная апратка. *Дайце мне якую рыззінку, закрыю я сваю разіньку.*

**Рында** — апушчаны, няхлюісты. *Рыззё якое ўсторкніць, ходзіць рындай такой.*

**Рыск** — бадзёрасць, жвавасць. *У нашага старога рыску на двух хопіць.* (У «Слове пра паход Ігаравы»: «Всеслав... в ночь влъкомъ рыскаше...»)

**Рыхлы** — жвавы, бадзёры, быстры. *Ён яшчэ дзед рыхлы. Яшчэ рыхла ходзіць, не саўсім старась сціснула.* (Гэты ж сэнс і ў выразе падрыхліць зямлю. Па-чэшску ryhly — хуткі. Хуткі цягнік — ryhlik.)

**Рэзгіны** — прылада для пераносу сена з пуні ў хлеў. (Дзве крыліны як бы рыбалоўныя сеткі, змацаваныя ўнізе, лёгка раздымаюцца й абхопліваюць сена.) *Наклаў рэзгіны як панесці, рад быў, што пазычылі.* Яшчэ — пра раскідаху, пра разіньку.

*Усе залёткі як залёткі,*
*А мая, як рэзгіны.*
*Ўсе гуляюць, весяляцца,*
*А ў мае ўсё хрэсьбіны.*

— Расказаць табе пра белага лася?
— Раскажы.
— Вось і казка ўся.

— Расказаць табе пра белых авец?
— Раскажы.
— Вось ім і канец.

Рабі, рабі, а дзюра мала.
Работкі да суботкі.
Радня пасярод дня, а як ноч, дык і радня проч.
Раз балець галаве (рашучасць).
Раз'еўся, як шыла.
Разгуляўся, як сабака ў торбі (мяху).
Разуй ногі, абуй нос.
Разумны паглядзіць, а дурны пасмяецца.
Рана — росна, паўднём — млосна, вечарам — камары кусаюць.
Рана апенкі — трэба жыта сеіць, позна — дрэнна.
Раней у Макея было два лакеі, а цяпер Макей — сам лакей.
Ранняя птушка цярэбіць дзюбку, а пазная — вочкі.
Раскінь ножкі, як баран рожкі.
Распусціў язык, як старац пугу.
Робіць, як мокрае гарыць.
Розум па запатылку (патыліцы) цячэць.

Рыба куплена, воз накрыт!
Рыба шукаіць, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей.

**Сабакам зрабіцца** — адзічэць, азлець. *Ён ужо сабакам зробіўся, толькі гыр ды гыр.* Яшчэ — астыць, закалянець (пра страву). *Булён сабакам зробіўся, неяк есці.*

**Сагнуцца** — сканаць. *Тады й ён сагнуўся пад вясну.*

**Садраць** — шмат узяць за тавар. *Садраў, як чорт за бацьку.*

**Сагурасціць** — зладзіць, прыдумаць, агораць. *Сагурасціў нейкую хатку й жывець сабе кум-каралюм.*

**Садам узяцца** — калі гарод зарастае садам. *Пад ябланамі нічога не будзіць, на тым чысцяку толькі бульбу можна пасадзіць, усё садам узялося.*

**Сажонка** — пасаджаныя дрэвы. *Каля дарогі сажонка з ёлачак цямнеіцца.*

**Сакавік** — бярозавы сок. *Сакавік — малаку памашнік, ды пасля сакавіка хочацца малака.*

**Саладом сесці** — спыніцца ў росце, не падыходзіць у дзяжы. *А то агуркі саўсім селі саладом. Не разгіналася ў гародзі, а ўсё саладом села.*

**Самадум'ю** — ні з кім не раіўшыся, на свой розум. *Самадум'ю ўсё робіць, як мяне й німа.*

**Сарачня** — сорак, саракоўка. *Яму ўжо цэлая сарачня, а ўсё яшчэ маліцца.*

**Сасіць** — карміць малое грудзьмі. *Рабёнку хоць бы з арэх малака даў, гэта ж грудное, матчына, як сосіць дык, і сосіць.*

**Сасмылець** — спаліцца ад спёкі, згарэць. *Усё сасмылела, ярына збялела, пасохла.*

**Сасмы́чыцца** — пахудзець, звесціся, схудаць (стаць падобным на смык). *Арына сёлета гладка сасмычылася.*

**Саўсім** — зусім гладка. *Ты Хадора, я Максім, ты гатовы, я саўсім.*

**Саці́ца** — напой на сотавым мёдзе, рэдкі (вадкі) мёд.
*Мой дзядок п'ець мядо́к,*
*А я ля яго саціцу.*

**Сачэнь** — печыва з бульбы й мукі са скваркамі. *Як з'ясі сачэнь, будзіш сыт цэльны дзень.*

**Сашчаўгнуцца** — саслізнуцца, злузацца. *Шчупак сашчаўгнуўся са столу й плясь на падлогу.*

**Сваейшы** — раднейшы, больш родны. *Яна ўсё-ткі сваейшая, да яе й душа мая хінецца.*

**Свечка** — плямка тлушчу ў варыве. *У супе каб свечка, крупіна за крупіной ганяецца з дубіной.*

**Свіння жванская** — нявыхаваны чалавек. *Свіння жванская, а пыха панская.*

**Свіння незапёртая** — хто не можа ўседзець, засяродзіцца. *Як свіння незапёртая, толькі й знаіць паўсюль дапасці.*

**Свіння няпораная** — нявыхаваны, няўдзячны чалавек. *Свіння няпораная, ні дзякуй, ні выбачай. Гэта свіння няпораная свой лыч не задзіраіць.*

**Свойсклівы** — ручны, хатні. *Свойсклівыя гусі ў вырай не лятуць.*

**Седня** — сядзенне доўгае ў гасцях, на зборнях. *Ад седні дурной галава стогам.*

**Сёлетнік** — прыплод гэтага года. *І пятух і бык-сёлетнік* (сёлетнічак). Яшчэ — сігалетак, сігалетка. *Цялушку-сігалетку на племя пусціла, а бычка-сігалетка здала на мяса.* (Ад сяго лета.)

**Селядоўка** — бочка пад селядцы. Ужываецца болей у адносінах да таўстога, азызлага чалавека. *Ужо набралася сілядоўка, ісці цяжка.*

**Семяна́** — насенне, семя. *Гэту бульбу на сімяну пакіну. Схаджу якой сімяны купіць у краму. Садзяць цыбулю саўсім маленькую ад сімяны.*

**Семяннік** — гурок (гарбуз), пакінуты да замаразкаў, каб з яго семя ўзяць. *Адны семяннікі, як быкі, у лясе бакі адлежаваюць.*

**Семярня́** — лік сем. *Сягоння нажала сем семярэнь і тры кучкі* (як пяцярня).

**Сеніна́** — сухая травіна сена. *Каза з'есь тры сініны й кініць.*

**Серан** — шарон, шарпак. *У серан ногі праваліваюцца, цяжка йсьці. Снег зсеранеў — карыной зробіўся.*

**Сечыва** — з дошак збітае карыта, дзе сякуць секачом ахрап'е. *Насяку ў сечыві якога капусніку, каб хоць як ад парсюка адчапіцца.*

**Сіва́к (сіві́ца)** — сівы, стары. *Сівак-сівак, а ў маладзіцах знаіць смак.*

**Сіва́й** — стары, сівы скрозь. *І ў сівая́ душа маладая, і ў яго душа — не балалайка.*

**Сівец** — стары, сівы. *І сівец да чужых сянец.*

**Сівуха, сіўка** — старая, сівая. *Пайшоў ужо к сваей сівусі. А яна старая такая, сіўка.*

**Сікман** — слабы напой. *Сікману чарку наліець, яму вочы й задурманіць.*

**Сіла** — шмат, багата. *Як стала сіла яблак, аж плот разламалі мальчаняты дуроныя.*

**Сіпка** — хрыпы, сіпатасць. *Тут у мяне на грудзях сіпка села.*

**Сісетнік (сісетніца)** — малое, якое сосяць (даюць грудзі). *Сынок у яе яшчэ сісетнік. Што малая — ня дзіва, сісетніца яшчэ.*

**Скавенчыцца** — змучыцца, схварэць, нагараваецца. *Скавенчыўся ўвесь ад гэнай, ня тут казана, хваробы. Пакуль гарод узараў, скавенчыўся з гэтым канём.*

**Скарбнік** — кладаўшчык. *Ейны мужык на базі скарбнікам робіць.*

**Скасу́рыцца** — паглядзець скоса, скасавурыцца. *Яна толькі скасурыцца — і досіць, маліц у яе пад слухом.*

**Скастрыць** — вылягчыць (выкласці). *Тады воліка скастрылі.*

**Ска́таваць** — замучыць, наздзекавацца. *Яны яго скаталі — чуць жывым пусцілі.*

**Склезень** — ледзь жывы, змарнелы. *Склезень, дый толькі, адна скура ды скабы.*

**Скняга** — скнара. *Скняга над кажнай капейкай трасецца.*

**Скорчыцца** — сканаць. *Ждуць, пакуль я скорчуся.*

*Вось і ўсё, вось і ўсё,*
*Песня скончылася.*
*А дзед бабу кулаком,—*
*Баба скорчылася.*

**Скрабацца** — нешта рабіць нямогла. *Паціхоньку каля дому скрабаўся.*

**Скрогат** — скрыгат, скрыгатанне. *Ад скрогату пустых жорнаў цела шэрхла.*

**Скружніцца** — скруціцца, стуліцца. *Воўка лёг на дзвярыну, скружніўся й заснуў.*

**Скрузонне** — наваколле, свет. *На дварэ такая завіруха ўзнялася, што здаецца, усё скрузоння праваліцца.*

**Скрут** — злом, скон. *Палез ён на страху на скрут галавы.*

**Скруціцца ў яблык** — сціснуцца, скружніцца. *А к вечару маленькі ўвесь гарыць, скруціўся ў яблык, ні грэлка, ні лекі не памагаюць.*

**Скрыпець** — ліпець, жыць нямогла. *Жывець жа, скрыпіць, як кола нямазаная.*

**Скукарэжыць** — скруціць, сагнуць. *Як скукарэжыла галаву й плечы болямі, не разагнуцца.*

**Скуматы** — шматкі, кавалачкі, акраўкі. *Нічога з гэтых скуматоў не пашыіш.* Скумаціць — шкуматаць, клычыць. *Прыйшлі, а сабака авечку скумаціць.*

**Скупінда́** — скупы, сквапны. *У гэтай скупінды зімой лёду не разжывешся.*

**Скупуваць** — скнарыцца, скупіцца. *Скупы скупуіць, а чорт мех гатуіць.*

**Скуралуп** — жывадзёр. Яшчэ — сквапны, бязлітасны. *Той скуралуп і з жывога й з мёртвага скуру злупіць, абы грошы.*

**Скурка валяшчая** — жанчына лёгкіх паводзінаў, прасталытка. *Там такая скурка валяшчая, а ён аж млеіць па ей.*

**Слаба** — мала. *У мяне дробязі слаба, трошкі буйнейшых грошы ёсь.*

**Слабіна́** — слабак. *Такая слабіна — вецер валіць яго.*

**Слата слатой** — незлічона, шмат. *Ідуць і йдуць слата слатой, і канца ім не відаць.*

**Следнічок** — сляды на снезе, на пяску. *Нядаўна зайчык праскакаў, яшчэ следнічок цэлы.*

**Слёзы пусціць** — плакаць. *Як успомніць — слёзы пусціць.*

**Слізгота** — слізкасць, коўзкасць. *Абы глынуць, пацягнуўся па такой слізгоці.*

**Сліня́віць** — імжыць, макрэць. *Пайшоў слінявіць дождж узноў.*

**Слух** — паслухмянасць, пакорлівасць. *Пахом у Тэклі пад слухом, а Ганна пад слухом у Стахвана.*

**Слуханне** — слых, чуванне. *Слухання слабейшая, не так ужо чую.*

**Слу́хаўка** — трубка. *Урачыха слухаўкі ўзяла, абслухала, абслухала.* (Польскае słuchawka — тэлефонная трубка, стэтаскоп.)

**Слушны** — паслухмяны. *Сынок у мяне слушны, не тое што гэты неслух, што скажу, робіць.*

**Сляпцы** — слепаватыя, слабыя вочы. *Пляц вялікі, ды што я ўбачу сваімі сляпцамі.*

**Сма́кі (прысмакі)** — ласункі, лахарцікі. *Нейкія ж будуць смакі, якія будуць, такія й будуць.*

**Смуголы** — блякла-чырвоны, ружаваты. *Смуголая ўся скрозь морква, яна далікатная, псуецца.*

**Смуголь** — загарэлы, зрудзелы на сонцы, на спёцы. *А мой жа ты смугалёк, гарыш, як вугалёк.*

**Смы́лень** — паленае, смылелае. *Смыленню смярдзіць — дыхаць нечым.*

**Смы́чыць** — іграць на скрыпцы. *Пiлiп так смычыць, ногі самі ў скокі йдуць.*

**Смяляк** — смелы, небаязкі. *Не пабаіцца смяляк выцадзіць самагонкі гляк.*

**Сняжніца** — снег з вадой. *А на балоці сняжніца — ні падыйсці, ні пад'ехаць.*

**Сонніца** — санлівасць, сон. *Сонніца напала на яго, ідзець і спіць.*

**Сопкая** — разварыстая (пра бульбу). *Сопкай бульбы купілі, адно аб'ядзенне.*

**Соснік** — хвойнік, сасоннік. *З сосніку паздзірана кара машынамі. Мы ў балотца, а соснік рэдкі*

**Соўма наляцець** — знянацку, нечакана. *Вараннё проста соўма наляцела на поля.*

**Спавагі** — паволі, няспешна. *Спавагі кладзі на вагі.*

**Спагадзіна** — разуменне, спагада. *Ні дня, ні гадзіны німа спагадзіны.*

**Спадкі (спажыткі)** — спадчына. *Усе спадкі жонцы асталіся. У яе ёсь спажыткі, ад мужыка перайшлі.*

**Спажытак** — ежа, папаска. *Даў Бог дзень, дась і спажытак (пажытак).*

**Спалатнець** — звянуць, страціць колер. *Грыжанка спалатнела, морква — палатном, сок выйшаў.*

**Спанталычыцца** — збіцца з толку. *Спанталычылася я гладка ад гэтай хаданіны.*

**Спарадкаваць** — навесці парадак, давесці да толку. *Усё спарадкавай, тады гуляй.*

**Спатыкаць** — сустрэць. *Ішлі з магільніка, спатыкаюць яе.*

**Спа́шнік** — той, хто ўзорвае гарод. *Спашніку гэнаму, мусіць, налієш выпіць. Спашнікі, яны пахалі зямлю ў пана, арандавалі як бы.*

**Спех** — паспешлівасць. *Не к спеху справа.*

**Спешка** — гатунак ранняй бульбы, якая хутка спее. *І «спешкі» пасадзілі многа, й пазной.*

**Спірацца** — адмаўляцца ад сваіх слоў, адгаворвацца. *Брэшаць як наняты й яшчэ спіраіцца.*

**Спірко** — заядлы ў спрэчках, неўступака. *Спірко як упрэцца, не саступіць нізавошта.*

**Справіцца** — паспець, мець час. *Ужо справіўся сад вырасці.*

**Справункі** — клопат, з якім трэба справіцца. *Не к спеху гэтыя справункі. У кажнай Матрункі свае справункі.*

**Спраўка** — калі гаспадар управіцца з усімі работамі (у яго спраўка). *Дайце Саўку спраўку.*

**Спярэкацца** — сысціся цесна, загарадзіць адзін аднаму выхад. *Спярэкаліся ў дзвярах і ніяк не размінуцца.*

**Спяшок** — хто спяшаецца, тарапун. *Не спяшайся, спяшок, дагоніць шашок.* Яшчэ — летняя (ранняя) капуста называецца таксама спяшок.

**Срадство** — радня, сваякі. *У яе срадства не было, адна бабылявала.*

**Ссіня́чыў** — пабіць да сінякоў. *Кавалер яе так ссінячыў, сядзіць, як слівіна.*

**Стада** — чарада. *Такая стада буцяноў ляцела ў пачатку тога месяца.*

**Сталюга** — варштат. *Пакладзі дошкі на сталюгу й стружкай.*

**Старлыбіна (старлыба)** — стары, ссівелы, падупалы. *Пацягнула старлыбіну на маладых.*

**Старчоўка** — дачка жабрака, старцаў. *Старчовачка прыхадзіла, прасіла.*

**Ста́рыца** — старое котлішча, мясціна, дзе была сяліба. *А на нашай старыцы на Верасовачцы доўга яшчэ расла йгрушына, праўда, адзічэўшы.*

**Старэннік (старэнніца)** — старанны, руплівы. *Такая старэнніца не кажнаму сустрэніцца. Ён ужо дык старэннік, усё старэнне ягонае на дзяцей.*

**Статэка** — недарэка, няўклюда. *Прысуніцца статэка, сядзіць колам, і не выганіш.*

**Стол** — памінкі. *Стол быў па Піліпу, й я сядзела на стале.*

**Стоць (стацьмаком)** — стаяком, дагары нагамі, дыбарам. *І паляцеў стоць галавой у яму. Аж валасы стацьмаком сталі.*

**Стралец** — паляўнічы. *Стралец лапці пляцець, а рыбак рыбу пячэць.*

**Страсянка** — стрэсены спажытак для жывёлы. *Страсалі салому з сенам, каб страсянкі хапіла.*

**Строп** — канёк у страсе. *Сала выцягнулі, а дзе ўлезлі — строп прадралі.*

**Струпехнуць (струпегнуць)** — згніць. *Струпехла ўсяродкі яблана, струхлела. Такі нягеглы, як пень струпеглы.*

**Струх** — струхлелае, струпехлае. *Яны зносюць хмыз і скідаваюць у яму гэны струх.*

**Струшчэліць** — пакрышыць, патрушчыць, сцерці на порах. *Струшчэліў усю салому, конь гэтакі.*

**Стрыгма́нка** — быстрая, шустрая, ухвацістая. *Прыляцела стрыгманка, а багдай яе ліхаманка!*

**Стрыножыць** — кульгаць, ступаць на тры нагі. *Чаму гэта твайго каня стрыножыла?*

**Стрэлкі** — дудкі. *Цыбуля пайшла ў стрэлкі ўся, яна к зіме пагніецъ.*

**Стуібень (стуіб)** — няўклюдны, нязграбны, рагаты. *Як стуібень які стаіць. Адхініся хоць троху, стуіб.* (Няйнакш некалі так называлі ідалаў ад стода.)

**Стыка́цца** — затрымацца, пабыць. *Ні на хвіліну не стыкаецца ў хаці, толькі носіць яго па вуліцы.*

**Стыліца** — выстылая будыніна, еўня. *Дзіва што доўга не вытрываіш у стыліцы.*

**Стыль** — стынь, халадзіна, зябікі. *У хаці такая стыль, хоць на двор грэцца ўцікай.*

**Субожыцца** — здаволіцца. *Таго-сяго хапіў на зуб і субожыўся.*

**Су́ды** — два вядры (вады, малака, газы). *Жыву адна — й суды вады некаму прынесці. Я сваей бабцы судцы вады ўкінуў.* (На слых чуецца, як сучцы. Гукавая гульня.)

**Суконнікі** — дранікі, дзяронікі, бліны з дранай бульбы. Звычайна посныя. *Хоць суконнікаў ды спяку табе на снядання.* Яшчэ — суконныя буркі (абутак). *Ногі я ў суконнікі стаўлю, мне і цёпла.*

**Сумесніца** — сумесная праца, сумеснае вядзенне гаспадаркі. *Ах, гэта сумесніца-каламесніца.*

**Сум-туга** — маркота, роспач. *Вясёлае ды вясёлае, сыйграй сум-тугу. Такая сум-туга душу агарнула, жыць не хочацца.*

**Сусвецце** — людзі, наезджыя адусюль. *Усё сусвецця з'ехалася да нас, сваіх мала засталася.*

**Сухалі́** — высушаныя дровы. *Сухалі добра гараць, а ад макраця толькі дым.*

**Сухалі́на** — высахлы сасоннік, ельнік. *Каб дзе здаровая дзерава — адна сухаліна. Сухаліну яловую звалілі й прывязлі на дровы.*

**Сухапуць** — сухая, нягразкая дарога. *Чуць выбіўся з балота на сухапуць.*

**Сухата** — засуха, засуш. *Ад сухаты бульбі добра не было.*

**Сухле́ц** — перасушаны. *Пірог-сухлец — не ўкусіць.*

**Су́чкі** — калючкі. *У сабакі ўвесь хвост у сучках, усе гароды выбегаў.*

**Сучэначка** — маленькая сучачка (і з ласкавым адценнем пра дачку, унучку). *І сучэначка лашчыцца, каб чым абнашчыцца.*

**Сушчэль** — высахлае, выпетранае. *Адзін сушчэль астаўся на полі.*

**Схліпа́цца** — захадзіцца, кпліва смяяцца (аж захліпацца). *Малы схліпаіцца ад плачу. Ну што ты, старая, схліпаішся?*

**Сходаваць** — здужаць, перасіліць. *Не так лёгка сходаваць яго, як здаецца.*

**Сціна́цца** — сціскацца, закрываць (рот). *У яе рот век не сцінаецца.*

**Сцірка** — анучка сціраць са стала. *У іх ні сціркі, ні заціркі.*

**Сціх** — супакой, цішыня. *Гам замоўк, і сціх настаў. Крычала — сціху ей не было.*

**Сціха́** — памалу, паволі. *Сціха пачынай, каб скарэй скончыць.*

**Сцяг (сцяга́)** — шмат, цуг, юрма. *На хаўтурах народу сцяг. Пуцукі сцягой з пякарні на млын ішлі.* (І сцяг (штандар), магчыма, ад сцягваць, зводзіць разам, гуртаваць.)

**Сцяна сцяной** — густа, непралазна. *Жыта стаіць сцяна сцяной, куды ні глянь.*

**Сцяне́цціка** — высахлы чалавек, ад якога хіба што сцень (прывід) застаўся. *Адно сцянецціка ад яго й засталося, дзе той здаравяка, красняк?* (Сціняцца — хадзіць, як прывід.)

**Сцяцю́рыцца** — сціснуцца, стуліцца, скружніцца. *Увесь сцяцюрыўся каля маткі й заснуў.* (Відаць, ад цецерука.)

**Счу́піцца** — завязаць бойку (брацца за чубы). *Нізавошта счупіліся, не развесці.*

**Счучурыцца** — суцішыцца, прытуліцца. *Селі пад ёлачку, счучурыліся ўдваіх.*

**Сынні (сынняя)** — сынаў. *Дарага абходзіцца сынні дзякуй. Сынняя ласка жывець да вяселля.*

**Сырапеня (сырапоня)** — толькі што ўкіслае малако. *Сырапеняй бульбу праганялі й добра павячэралі. Нешта смажыць цябе сягоння, налій сырапоні, пахмяліся.*

**Сырні́к** — садавіна. *З'есці якога сырніку карысна.* (Сырое — зялёнае.)

**Сыцю́га (сыцішча, сыцель)** — сыты, адкормлены. *У гэтага сыцюгі тры падбародавічы. Сыцішча — хоць ты на ім нажы йстры. Сыцель сам сябе чуць носіць.*

**Сэндзіць** — абгаворваць, пляткарыць. *Пра другіх сэндзіць, а сябе за святую маіць.*

**Сю́бар** — каханак. *Да яе сюбары ходзюць, як у краму.*

**Сявалка** — сявенька, сяўня. *Пакуль у жорнах сявалку жыта скруціла.*

**Сядэра** — сядуха. *Сядзі, сядэра, дома.*

**Сякар** — сякерка. *Пеўню галаву атсячы сякара німа, дажыўся гаспадар.*

**Сякун** — калючы вецер (снег), часта з дажджом. *Вецер-сякун не дасць ісці, аж слёзы высікаіць.*

**Сяло** — так на Вушаччыне завуцца вечаровыя зборкі, паседзіны. *Пойдзім заўтра на сяло. На сяле смаляныя лаўкі* (гэта значыць — цяжка адарвацца, каб пайсці дамоў). Адсюль — пасяльнічыя (тыя, хто любіць хадзіць на сяло).

*Казалі на мяне — пасялушачка,*
*Я ж у свайго татулькі весялушачка.*

**Сямейны** — хто клапаціцца пра сям'ю. *Іван сямейны, сям'ю глядзіць.*

**Сянцо** — маладое сена. *Накашавалі сенца-сянца.*

**Сяўбіт** — сявенька, сявалка. *Дурны, як сяўбіт.*

— Скарэй!

— Калі скарэў, дык памыйся.

— Спакойнай ночы!

— Бачыць шпаковы вочы ды глядзець на палок, каб цябе чорт павалок.

Сабака брэшаць — язык чэшаць.

Сабака не з'есь, пакуль не пакачаіць (прыгавор, калі ў каго валіцца з рук ежа).

Сабака сабакам пахніць (смярдзіць).

Сабака, й той лішняга не есь.

Сабаку сніцца хлеб.

Сава відна па палёце, а сакол па паглёдзе.

Сава спіць, а кур чуіць.

Сала любіць, а на свінню не ўзагнаць.

Сала прапала, а кілбасе ліха стала.

Саламяны мужык і залатыя дзеткі, а не праміняеш.

Салаўі пяюць, ды хлеб не даюць.

Сам чорт адступіўся (такі ўраджай).

Сваё сонца і ў попілі відно.

Свату ці першая чарка, ці першая палка.

Свая рука не суќа.

Свая хатка як родная матка.

Свіным хвастом памяшаць у варыве (засквары́ць).

Свінню смалюць, а пад хвастом хвалюць.

Свіння сонца ня бачыць.

Свой лес — свае зайцы.

Свой свайго патрасець, а ў ваду не панясець.

Сей жыта, калі чарвяк ток точыць.

Сей у гразь, будзіш князь.

Сей ячмень, як загудзіць сляпень.

Сесці макам (заняпасці).

Сеў на конь і паехаў у вагонь (кацёл на вілках у печ).

Сіраце даварыцца ў жываце.

Сказаў, як звязаў (недарэчы, ні к сялу ні к гораду).

Скародзь, як мак, а барануй абы-як.

Служы верна й крадзь памерна.

Смала к дубу не прыстаніць.

Смерць за ўсіх здаравейшая.
Смех з панскіх ботаў: адзін згарэў, другі сабака з'еў.
Сморкаў і за пояс торкаў.
Спара́ (спарына) у дзяжу й сын на вясну! (Пажаданне.)
Спас Бог ад грому, ад дажджу, ад паганых рук.
Спаў (сеў), як пан, на саломцы.
Спачатку нарадзіўся злодзя, потым п'яніца, карчомнік, а потым ужо чэсны чалавек.
Спіткі, з'едкі — усё даедкі.
Ссох, як майскі венік.
Стаптаўся знізу паляшук, а зверху вошы з'елі.
Старась — ня радась, горб — не карысь.
Старась іх забрала.
Старога хвалі, ды з двору валі.
Старцу вярста не круг.
Старцу пажар не страшан.
Стары, як ячмень пераспелы (стаў ракам).
Стаяць ні на жары́, ні на вары́.
Стварыў Бог і каіцца.
Суджанага й на кані не аб'едзіш.
Супраць мора не здыхаешся, супраць закону не папрэш.
Сыйшло на быка жыццё.
Сыны й дочкі на свае вочкі.
Сыты, як рыдзель.
Сядзець, блохі (гніды) ушчаміўшы (ціха).
Сядзь, хай не вісяць, адарвуцца — разаб'юцца.
Сяннік не падушка, нявестка не дачушка.
Сярдалы-пярдалы (калі ўсё разам наваліцца).

**Такаўня́** — ток, дол, выбіты глінай. *Малоцюць у пяць цапоў, як такаўня трываіць.*

*Танцавала на таку,*
*Скрабанула нокцем,*
*Заляпіла сіргучом,*
*Замазала дзёгцем.*

**Таніня́** — танклявасць. *Таніні я была такой, як яна, не таўсцей.*

**Тапіць** — паліць печку. *Тапленне, як кашынае любленне* (калі дрэнна паліцца ў печы).

*Печка топіцца, дыміцца,*
*Дзеўцы хочацца жаніцца.*
*Дзеўка плачаць і равець,*
*Ніхто замуж не бярэць.*

**Таплёвачкі** — пупышкі на тополі. (Па-ўшацку тополя —

тофліна, тафлінка.) *Таплёвачак на гарэлцы настоіш — лепшыя лекі ад застуды.*

**Тапорнік** — дровы, на якія піла не трэба, сякуць тапаром. *Навошта мне тапорнік, з яго ні духу ні пуху.*

**Таптуны** — бліны. *На таптуны трэба бульба й жменя мукі.*

**Тарадон** — пустабрэх, трапло. *Якраз тарадон, як устаець, дык і бярэцца: тарабара-тарабара.*

**Тарапат** — спех, таропкасць. *Як нападзець тарапат, не будзіш шкадаваць пят.*

**Тарапун (тарапок)** — хто спяшаецца заўсёды. *Тарапун тарапуніху не прывык любіць паціху. Загарэўся тарапок, як сярнічак карабок.*

**Тармасуха** — назоў скокаў. *Ой ты, полька-тармасуха, дождж ідзець, дарога суха.*

**Тарокацца** — таргавацца, доўга дамаўляцца, упірацца. *Дзякуй, што аддалі (дзеўку замуж), доўга не тарокаліся.*

**Татаргік-татаргік** — кульгавасць. *Татаргік-татаргік і прывёрся татаргікала* (кульга).

**Таўстамясіца** — мажная, поўная. *Ён, як бражджэль, каля сваей таўстамясіцы.*

**Таўстая** — цяжарная. *Яна ўжо таўстая ўзноў, неўзабаві кугакала ў хаці будзіць.*

**Таўстое** — тлустае, цяжкое для страваваня. *Я есці не магу таўстога такога — кілбасы ці чаго. Я зварыла таўстой кашы.*

**Таўсцё** — тоўстае дуддзё, усё тоўстае зборнае. *Цяжка мыць гэта таўсцё.*

**Таўчыся** — біцца, грукаць. *Знячывеліла ад страху, дасюль сэрца таўчэцца.*

**Ткнуць** — пакласці, уторкнуць. *Я ж бы ей два яечкі ў кішэнь ткнула.*

**Тлук** — тлушч, які застаецца на патэльні, калі смажаць сала. *Памакай бульбу ў тлук, пакуль ён не застыў.*

**Тля́га** — тля. *Тляга ліст пакруціла, чорны ўвесь.*

**Тонь** — сетка. *Як выцягнулі тонь — поўна рыбы.*

**Тор** — след ад колаў на цаліку. *Тор нас і вывеў на дарогу.*

**Тота** — заменнік воўка. *Ішоў Тота каля плота, пытаўся ў Жмуры, а ці дома Ляпа.* (Воўк пытаўся ў ката, ці дома сабака.)

**Тоўсткі** — таўшчыня. *Сала во такое ў тоўсткі.*

**Травя́нік** — блін (лапун) з травы. *Хоць які травянік абы ў чым абмачаны, абкачаны з'есці, усё ж нейкая трывалась будзіць.*

**Традашча́нка** — балбатуха. *Традашчанка як адчыніць рот, дык ніхто ўжо зачыніць ня можаць.*

**Трасочнік** — месца, дзе збіраюцца трэскі, калі цясляраць, майструюць нешта. *Колькі, выбегшы да ўсходу сонца, на Саракі ўхопіш трэсак, столькі гнёздаў летам знойдзіш.*

**Траякі** — трох гатункаў, асобін. *Елі хлеб траякі — чорны, белы і ніякі.*

**Трохпаўсцёвая** — пра жывёлу. *Кошка биваіць трохпаўсцёвая, а кот не.*

**Трубло** — хто многа есць (трубіць). *Карова, трубло такое, стаіць у хлеві.*

**Трудзіцца** — мучыцца, пакутаваць, пекліцца. *Уся струдзілася, а ад яго каб вясцінка якая.*

**Труды** — мітрэнгі, цяжкасці, перажыванні. *Труды мне з мальцам, паверх папараці пайшоў.*

**Труском** — ашчадна, патрошку. *Насып труском ды бяжы трушком.*

**Трылу́зіцца** — здавацца, мярэсціцца. *Усю ноч нешта трылузілася ўвосні.*

**Трылузіць** — вярзці абы-што, плесці несусвецце. *Не слухай, што яна трылузіць.*

**Трысцен** — прыбудова да хаты ў тры сцяны. *Трысцен новы прылажыў к хаці, і ўсім мейсца хапіла.*

**Трыштыкі** — тры.

*Сем пол наперадзе,*
*Чаму мяне не бераце.*
*І трыштыкі туды ж такі.*

**Трэп** — дарога, сцежка. *Адным трэпам ходзіць, як прывык. Ён той дарогай, а я наперад, послі я другім трэпам пайшла.*

**Трэтар** — водгалас, водгук, рэха. *Так шчыра малоцюць, толькі трэтар ідзець.*

**Туба́н** — натоўп, юрма. *Я была на Епрасенню (Еўфрасінню), зберуць тубан людзей, не праціснуцца.*

**Тузень** — бярэма, вязанка, тузін. *Цэлы тузень хворасту прыпёр на плячох.*

**Ту́каць** — заганяць, падаўляць, прыніжаць. *Тукалі неўзнаку й затукалі чалавека. Ён на мяне як затукаў* (закрычаў). (Па-беларуску затуканы, а не зацюканы, як у Макаёнка.)

**Тулінька-тулінька** — ласкавае клікание, падзыванне маладога каня. *Спачатку тулінька-тулінька, а пасля — стой, воўча мяса!*

**Туманіць** — піць, баляваць дужа шчыра. *Ноч туманеюць да сіняга дыму, а пасля ўвесь дзень храпуць.*

**Ту́марнік** — бязлюднік. *Так век тумарнікам і зжывець.*

**Тухля́к** — штурхаль. *Надаваў тухлякоў у спіну. Ён яго добра тухлянуў.*

**Тхло** — там, дзе пад ільдом затыхаецца рыба. *Разбілі тхло, дык рыба выскакаваць стала, а тахлай рыбы мора.*

**Тыль** — прачуханец. *Даў тылі, як заіц кабылі.*

**Тынянка** — паветка, ушчычоная тынком. *Паспелі ў тынянку ўнесці сена ад дажджу.*

**Тытунец** — тытунь. *Калі ты курэць, дык і май свой тытунец. Тытунец-самсон — маладым на любеблю, а старым — на сон.*

— Ты спіш?
— Не.
— Пазыч сто рублёў.
— Сплю, сплю...

Табе лягчэй, а мне смачней (ірвучы яблык з яблыні).

Тады мужык з жонкай сварыцца, калі ў катле трасца варыцца.

Так дам, аж чэрці засмяюцца.

Так трэба, як сабаку пятая лапа.

Такая помач горш немачы.

Такая праўда, што сучка дзёгаць з’ела і ў ляпі бела.

Такая слізгота — й галавы не збярэш.

Такі вэрхал — чорт босы не пяройдзіць.

Такі добры, толькі на небі гвязды збіраць.

Такі чырвоны, як арак пячоны.

Такім кавалкам мяса й варона не падавіцца.

Такое ўзянне на сухі лес.

Там кралі, а тут лялі.

Там хлеб ня родзіць, як сын бацьку за бараду ня водзіць.

Таму казак і гладак, што пад’есь — і набак.

Тое-сёе ды нічога.

Той самы блін, ды ў рэшаці.

Толькі вераб’і не люблі.

Толькі ймя займаіць.

Торкаў, торкаў то ў буракі, то ў моркву.

Тры валасіны, алі густа.

Трымай вуха трубкай (будзь пільны).

Трэба вылізаць з-за стала ў вадзін бок, а то сваты будуць кружыцца, жаніхі не туды пойдуць.

Трэба жыць і мучыцца, пакуль смерць налучыцца.

Трэба паставіць слоік і глядзець, ці ёсь на ім слёзы, тады капай калодзісь.

Тут і сляпому відаць.
Ты ведаіш курыную сісю, і тую не ўсю.
Ты яшчэ малады, а як пастарэіш, і вароні нос дасі.

**У абмінкі йсці** — абмінаць, пераганяць. *Доўга ў абмінкі йшлі з ім, пакуль я не адстаў усё-ткі.*

**У душу ўпасці** — спадабацца, як родным стаць. *І так маліц ім у душу ўпаў, што дрыжаць, як над родным.*

**У падводах быць** — нешта падвозіць (перавозіць) на кані. *Івана дома не было, быў у падводах.* Хадзіць у падводы — праводзіць (падводзіць) дзяўчат з танцаў уночы. *Дык мы сягоння пойдзем у падводы ці не?*

**У смяху** — жартам. *У смяху сказаў, што жыць бяз яе ня можаць, яна й верыць.*

**У ствол пайсці** — звычайна кажуць пра буракі, якія перастаюць расці ў тоўшчу. *Звару буракоў маладзенькіх, якія ў ствол пайшлі.* Яшчэ — пра чалавека, у якога не ўсё ў парадку з галавой. *У яго ўжо мазгі ў ствол пайшлі ад навукі.*

**Убадзю́ліцца** — улезці ў нешта, упэцкацца, уквэцацца. *Убадзюліўся ў гразь — не адмыць.*

**Убірацца** — насычаць, прасякаць. *Сала ўбралася ў бліны, а столькі тлуку было.*

**Убіцца ў ласку** — увайсці ў давер. *Убіўся ў ласку к яму і цяпер ашукваіць яго.*

**Убоіна** — упарты, непаваротлівы, ленаваты. *Такая ўжо ўбоіна, што ўбіў, тое ўехаў.*

**Убытка** — страта. *А чалавеку ўбытка і ўбытка.*

**Убыць** — ужыцца, быць разам. *З ім ты не ўбудзіш доўга, благі характар.*

**Увароціна** — прагал у плоце для заезду. *Плот зробіў, увароціну зробіў заязджаць.* Тое ж — праварына.

**Увачавідзь (учувід)** — увачавідкі. *Увачавідзь змахлюіць — і каб шум баравы. Яна водзіць кабялёў учувід, усе відзюць.*

**Увінаць** — цягнуць, захопліваць. *Сам топіцца й за сабой увінаіць другога.*

**Увобмаль** — скупавата, упрытруску. *Карові сена давалі ўвобмаль. Усяго было ўвобмаль, толькі гора па гарла́.*

**Увосні** — у сне. *Увосні сасніла, што парасят заганяла.*

**Увыкнуцца** — прызвычаіцца. *Па першыне́ цяжка, а як увыкнішся, дык яно й нічога.*

**Увычка** — звычка, манера. *Гэта такая ўвычка: ня можаць язык маўчаць.*

**Увязь** — нагляд, няволя, забарона. *Дзяржаць дзяўчыну на ўвязі, волі ей німа.*

**Угаркі** — агаркі.
*Папалілі ўсе шчэпачкі-ўгаркі,*
*А дажыдалі свае новае кухаркі.*

**Угорыч** — вугор. *Скрынку ўгорычаў наклаў і мне ўгорыча даў.*

**Угрузіцца** — змесціцца, паспець. *Пакуль узгрузілася ў таварны поезд, пакуль уторкнулася, уся як мачонка стала.*

**Угумаваць (угумавацца)** — суцішыць, улагодзіць. *Пакуль яго ўгумавалі, самі з сябе выйшлі.*

**Удаволіцца** — задаволіцца. *Ён прыйшоў, нешта пагаварыў, яна і ўдаволілася.*

**Уда́ліна** — удалы, спрытны, хто мае спор у працы. *Як удаліна ўдасца, дык адступіцца трасца.*

**Удзюдзюліць** — даць нешта не зусім патрэбнае, падкласці свінню (дзюдзя). *Удзюдзюліў такое, што ні ўзяць ні аддаць.*

**Удот** — упарты, зацяты. *Як замаўчыць удот, дык маўчаць будзіць год.*

**Удубкі́** — супроць нечага пярэчыць. *Тады ўсе ўдубкі, і з мяне скінулі самаабкладанне.*

**Удумёны** — хто ўдумвае нешта, бярэ ў галаву. *Удумёны ўдумае, чаго няма.*

**Удумлівы** — уражлівы, недаверлівы, мніцельны. *Аж занадта ўдумлівы ён, як удумае што, набярэць сабе ў галаву, ніяк яго не перадукрыш.* Яшчэ — спадумлівы.

**Уед** — насычэнне, наталенне голаду. *Есь, есь, і ўеду яму німа.*

**Ужор** — рыбіна, якую цалкам заглынуў (ужраў) шчупак. *Купілі два шчупакі, а ў вадага ўжор у жываце.*

**Ужыць** — пражыць. *Яна семдзесят чатыры гады ўжыла.*

**Уза́грудкі хадзіць** — біцца, чубіцца. *Як пойдуць узагрудкі — не разняць, як пітухоў тых.*

**Узаплíта́нку** — калі ногі заплятаюцца. *Часта дамоў узаплітанку йдзець, такі напіты.*

**Уза́хады хадзіць** — заходзіцца. *Гэны брэшаць, а ўсе ўзахады ходзюць ад смеху.*

**Узвалле** — узгоркі, перавалы.
*Іван, Іван ды Мар'я*
*Каціліся з узвалля.*
*Іван Мар'ю пераймаў,*
*Ручкі, ножкі цалаваў.*

**Узга́ліцца** — захацець, пакваліцца. *Алі я ўзгалілася купіць козачку й купіла.*

**Узглядная** — гожая на выгляд, пазорыстая. *Капуста — яна ня дужа ўзглядная, алі свая.*

**Уздумаць** — падумаць, надумацца. *Я толькі ўвідзіла ў вас слоікі і ўздумала.*

**Узлакціцца** — уперціся локцямі. *Над вакном узлакціўся й спіць.*

**Узмёт** — дзірван, папар. *Узмёт узадралі й пасадзілі бульбу.*

**Узнімацца** — хацець апладнення. *Алі ж мая старая каза не ўзнімалася на казлоў.*

**Узнову** — зноў, яшчэ раз. *Узнову к Камілі пайшлі.*

**Узроўе** — берагі равоў. *Па ўзроўі разгонішся, як сабака ў торбі.*

**Узрыжжу плакаць** — наўзрыдзь, рыдма. *Рабёнак узрыжжу плачаць, ад маткі згубіўся.*

**Узянне** — укос, жніво. *Такое ўзянне хай на сухі лес.*

**Указзэя** — дзіва, штосьці нябачанае. *Указзэя з яго, дый толькі.* (Ускрык захаплення: указзэя, дзівосы, цуд!)

**Укаціць** — нарадзіць. *Як укаціла два мальцы, мужык за галаву хапіўся.*

**Укінуць калатоўку** — пасварыць, унесці разлад. *Як калатоўку хто ўкінуў, німа ў іх ладу.*

**Укоптур** — наліваць, насыпаць з верхам, па самыя берагі. *Малінкоўскую шклянку ўкоптур наліў, дык я спачатку адпіў, каб не расплюхалася гарэлка.* Яшчэ — з коптаркам.

**Укрыўдзіць** — пакрыўдзіць моцна. *Ён не ўкрыўдзіць цябе, ня бойся.*

**Уламкі схапіцца** — дужацца, барукацца. *Як схопяцца ўламкі, аж рэбры трашчаць.* (Відаць, ад ламаць адзін аднаго.)

**Улегцы** — з пустымі рукамі, неабцяжараны. *Як улёг — не дагнаць, улегцы йсці лёгка. Ты не май яго ўлегцы* (не прыніжай, не думай, што ён такі просты).

**Улінцаваць** — лупцаваць розгай, дзягай. *Як улінцую, дык затанцуіш у мяне.*

**Улугавець** — зарасці травой. *Як там усё ўлугавела, нязнатка, што жылі некалі.*

**Улы́чніца** — кукіш. *Такі лыч, хоць ты яму ўлычніцу пазыч.*

**Унаначкі** — на начлег. *Да яе мальцы ўнаначкі ходзюць.*

**Унасіць** — даўгавата насіць зачатак. *Калі яшчэ не ўнасіла многа, чаму ж бы аборт не ўзялася зробіць?*

**Уніжацца** — асядаць. *Магіла будзіць уніжацца яшчэ.*

**Уносніца** — кукіш, хвіга. *Доўга не думаючы, даў яму ўносніцу пад самы нос.*

**Унячы́велі** — ва ўтрапенні, нічога не помнячы. *Прыбеглі дамоў унячывілі, доўга не маглі адыйсьці.*

**Упапле́чкі** — плячо ў плячо. *Ідуць яны ўпаплечкі, а кругом ноч.*

**У́пар (упорына)** — упарты, незгаворлівы. *Упар як упрэцца, не дакажаш яму, хоць трэсні. Гэтая ўпорына чортам створана.*

**Упатаропках** — спяшаючыся, на хапку. *Калі б не ўпатаропках, я б рады даў.*

**Уперамеш** — на змену. *Дзяжурылі ўперамеш, то ён дзень, то я ноч.*

**Упі́ркі** — упартасць, незгаворлівасць. *Добра што згадзіліся і ў упіркі не хадзілі (ішлі).*

**Упіць** — добра выпіць.

*Ні я ўпіла, ні я ўела,*
*Ні добра ўхадзіла,*
*А я ж свае малады леты*
*Дарма патраціла.*

**Уплы́сціся** — асесці. *Хата, уплыўшыся ў зямлю, стаіць.*

**Уплю́тацца** — учапіцца. *Як уплюталася ей у валасы, чуць адцягнулі.*

**Упобак** — побач, бок у бок. *Усю дарогу йшоў з ім упобак.*

**Упокаддзю** — падаючы, валячыся долу. *Дзень робюць, а ноч п'юць, аж упокаддзю поўзаюць.*

**Управіць** — спарадкаваць, давесці да ладу. *Пакуль скаціну сваю ўправіла, дык і ноч агарнула.*

**Упрыхрупку** — адкусваючы, хрупаючы (кусаючы). *Каб ашчадней, — гарбатку з цукрам п'юць упрыхрупку.*

**Упуд** — хвароба ад сполаху, калі хто ўпудзіцца. *Замова ад упуду. Вымяраю ў Івана ўпуд з касцей, з лакцей, з усіх суставў, каб на меру стаў. Найсвеншая Матка наўпярод, Бугуродзіца пасярод, Прачыстая пазаду, станьце, усе святыя, на помач, на раду, на добрая здароўя Івана. Святая Тройца, памашніца, памагаіш усім, памажы й Івану. (Тры разы гавораць Тройцу.)*

**Упухаву́ю** — ушчэнт, да канца. *На гэтай працы ўпухавую запарышся.*

**Упушчэнства** — недагляд. *Такое ўпушчэнства з дзіцём, цяпер ужо нічога не паправіш.*

**Упы́ліць** — улегчы. *І ўпыліў пятух за курыцай, аж пыл курыцца.*

**Упякацца** — добра ўпячыся. *Бліны ўпякаюцца, а бульба не гарыць.*

**Ура́гі** — наравы, капрызы. *Я з цябе твае ўрагі выб'ю, ты мне не варанджайся. Такі ўжо ўраглівы конь быў у яго, поўны косці ўрагаў.* Ураг — наравісты, няўступлівы. *Як уродзіцца ўраг, дык і памрэць урагам.*

**Ураджэнец** — свой, тутэйшы. *Ён ураджэнец, а тут сусвецця з'ехалася.*

**Урадна** — святочна, паглядна, урачыста. *У госці надзеўся ўрадна. Ён сягоння такі ўрадны — хоць пад вянец. Настольнік заслалі ўрадны, каляровы. Я ва ўраднай хусцінцы так і хаджу цэлы дзень.*

**Урачэнне** — здзіўленне, захапленне, жарсць. *Усё ўжо маё ўрачэнне скончылася.*

**Урода (урод)** — ураджай, спор. *Сёлета на агуркі не такая ўрода. Гэтым летам німа ўроду, дык німа нідзе сена, німа ўраджаю.*

**Уроіцца** — удумацца, здасца, прымроіцца. *І што гэта яму ўроілася, быць я не прывеціла яго.*

**Уроцы** — сурок, хвароба ад благога вока. Замовы. *Жаноцкія ўроцы, мужчынскія ўроцы, дзявоцкія ўроцы, хлапецкія ўроцы. Жаноцкія ўроцы пад чапец, мужчынскія пад шапку, дзявоцкія пад касу, хлапецкія на прагулянне. Вароты праз вароты, дзверы праз дзверы, чорны волас, і рыжы волас, і белы волас. Тры ўрокі ўракаіць, адзін урок выракаіць сам Бог, Дух Святы (тры разы сказаць не дыхаўшы).*

**Уручча** — кій, палка. *Хоць якое ўручча ў руку ўзяць, усё ж прыступней ісці.* Уручча нападоймішча (пра нешта важкае, часцей з усмешкай пра мужчынскае падрабяззе).

**Урэзацца** — моцна закахацца.

*Я ўлюбілася, я урэзалася,*

*Без нажа, малада, я зарэзалася.*

**Усвéжа** — па цаліку, уцэла. *Цяжка было ехаць па снезі ўсвежа.*

**Усіліцца** — умацавацца. *Пярэччына (папярэчка, падпорка) стала валіцца, дык я падпёрла яе, ніхай усіліцца троху.*

**Успадобіцца** — спадабацца, уцягнуцца ў нешта. *Успадобілася мальцу жыць балмаччу. Успадобілася круціць арфу.*

**Успацца** — уцягнуцца ў сон. *Успаўся на сонцы, уседзіўся.*

**Устоіцца** — адстаяцца. *Малако адрання, дык яно ўстоілася.*

**Усторкнуцца** — з'явіцца, прыйсці, надарыцца. *Госць усторкніцца, дык і прыняць трэба.*

**Усупэчыць** — збыць з рук, уперці нешта праз сілу. *Усупэчыў дык усупэчыў, век помніць будзіць.*

**Усухую** — цвяроза. *Тут ён нап'ецца, а яна будзіць усухую.*

**Усходы** — пад'ём у абутку. *Боты ніяк на нагу ня ўсторкну, усходы малыя.*

**Усцерагацца** — асцерагацца. *Яго болі за ўсё ўсцерагайся.*

**Усюкат** — абмачэнне. *Напіўся наш красун да ўсюкату.*

**Утарабаніцца** — прывалачыся. *Ноччу ўтарабаніўся й лёг спаць.*

**Утушкава́ць (утушкавацца)** — ухутаць, захінуць у цёплае. *Малы западлівы, утушкавалі яго ў дарогу. Як утушкуешся добра, й мароз адступіцца.*

**Ухаб** — напасць, бяда, ліха. *Во які ў яе ўхаб, то насілася-насілася, а цяпер асела-ткі.*

**Уходаць (уходацца)** — даесці, дабіць, замарыцца, прыбіцца. *Адзін і ўходаў увесь кацёл. За дзень уходаўся, прыбіў ногі к азадку.*

**Уцішыцца** — супакоіцца, аціхнуць. *Тады ўжо ўцішалася, як змаглася. Так яно само і ўцішылася.*

**Уцумбэсціць** — моцна лінуць. *Дождж як уцумбэсціў — цёмна стала.*

**Уцярпець** — затрымацца, стрымацца. *Раз пайшоў дождж ды неяк уцерпіў, а пасля як даў, такая макрата.*

**Учу́піцца** — учапіцца, ухапіцца. *Сабака ўчупіўся за хвост, лісіцы й дзявацца некуды.* (Відаць, першапачаткова было ўчапіцца ў чуб.)

**Учуць** — пачуць. *На магільніку толькі й можна птушак пачуць, навет салаўя, а ў Вушачы не ўчуць нікога.*

**Ушкуры́ць** — уцяць, дапячы. *Добра-ткі яго ўшкурыў, што дасюль апомніцца не можаць.*

**Ушчаміць** — ухапіць, укіпцюрыць. *Сава курэй у лапы ўшчэміць і давай латашыць.*

**Ушчын** — пачатак. *Ні ўшчыну, ні ўспаміну, праваліўся, як у мякіну.*

**Ушчынаць** — пачынаць гаварыць. *Ушчынаць ушчынаіць, а дагаварыць забываецца.*

У Бога дзён не рэшата.
У бярозы корань крэпкі пірад марозам.
У вар'ята штодня свята.
У вас папелі, а ў нас паелі.
У гасцях Ілля, а дома свіння.
У дурной птушкі дурныя песні.
У запас не наплачашся.
У зімы рот вялікі.
У іх вада неразлітая (пра сяброўства).
У кажнай хаці па лапаці (свая бяда).
У кажнай хаці ўшак (вушак).
У клубочку сем дзюрачак (галава).
У козыра хадзіць.
У лес грыбы везці.

У лесе не бяз звера, у галаве не бяз вошы.

У Матруны на тры струны, а ў Луцэі на адзін бас, а ў Варвары на тры фары.

У мяне хоць куніца, ды ў рот, а ў цябе сініца, ды ў год.

У нас і ў рэшацi водзіцца квас.

У нашай Кацярынкі кажны дзень вечарынкі.

У нітку выцягнуся, а зраблю.

У сабакі вачэй пазычыўшы.

У сваей хаці й качарга маці.

У сіраты калі сарочка белая, тады й свята.

У трох вадах вымыць (чыста).

У хворая вока й пароша ляціць.

У хітрага чалавека барада не расцець.

У чорта спіна сцёрта, а ў нашага брата не пачата.

У чужой старане й жук — мяса.

У чым у пасцелі, у тым і ў касцелі.

У яго з роту сабакі скачуць.

У яго ў році мухі любуцца.

Убіўся, як сабака ў пасеі.

Увага няблага.

Увосінь давай карові, што есь, а вясной, што ёсь.

Увосінь работ восім.

Улажу ей розум у галаву.

Улась, як мазь, як падмажаш, так і паедзіш.

Унёс — твая сіла, папаўся — адказвай спіна.

Усе бабры дабры для сябе.

Усе грошы з машной.

Усё ж не з-за вугла, а з-за стала (узяць жонку).

Усе маладыя хочуць салодкага.

Усё паміраюць, а хаваць некага.

Усе чэрці адной шэрсці.

Усім кагалам і бацька з жыгалам.

Усмак не пераржвеш, а ў ласцы не пераржывеш.

Устаў, яшчэ чорт у кулачыкі не біў.

Усюдых згож, як шавецкі нож — і боты шыць, і бульбу крышыць (скабліць).

Уторкнуў Бог душу, як у пень.

Уторкнуць свае тры грошы.

**Фасоніцца** — гнацца за модай, прыбірацца. *Фасоніцца, фасоніцца, а кавалеры гужам, гужам ды міма, міма. Салому еш, а фасону не губляй.*

**Фасунак** — клад, скарб. *Яму й чорт фасунак знойдзіць. Дзе фасунак, там палатунак.*

**Фіц** — ці, хай. *Фіц выйграў, фіц прайграў — усё роўна пайду ў заклад.*

**Флянец** — парастак, атожылак. *Нядаўна, здаецца, флянчык у вазон уторкнула, а глядзі ты, які фікус вырас.*

**Фура** — нязграбная, грузная. *Суніцца фура — аж вуліца стогніць.*

**Хабёл** — хам, нахаба, неабчасаны. *Цягніць хабла да чужога кубла.*

**Хадзіць па беднасці** — жабраваць. *Як памёр Якута, дык Рыпіна з малымі па беднасці хадзіла.*

**Хадзіць хаданём (хамянём)** — не знаходзіць сабе месца. *Да дзвюх ночы хадзіў хаданём, не мог ачухацца ад гарэлкі.*

**Хадуром (хадуном) хадзіць** — дрыжэць, хістацца, гнуцца. *Ад іхных скокаў усё хадуром ходзіць.*

**Хадэра** — хто дужа ходзіць, паўсюль дападае. *Уседу хадэры німа, ходзіць, нікаіць.*

**Халмак** — кузлак. *Даў каню халмак сена, каб не глядзеў у пустыя яслі. Мох звісаіць халмакамі са сцен.*

**Халодны** — няродны. *Няма ў яго родных — толькі халодны бацька ды халодная матка (айчым, мачыха).* (Бывае, кажуць і на другую жонку — халодная жонка.)

**Халтаме́шка (халтама́)** — няскладная, раскідзістая, несабраная. *У халтамешкі вецір у галаве, туман у вачох. Паглядзі, халтама, якая сама.*

**Халяраваць** — хваляваціца, нерваваціца, капрызіцца. *Як захаляруіць, дык мейсца ў хаці нікому німа.*

**Ханабрыстая** — ганарыстая, задаваліcтая. *Дужа ханабрыстая, абы хто не падойдзіць.*

**Ха́піць** — стане, будзе, хопіць. *Шчасце як каму, а гора на ўсіх хапіць.*

**Хаплі́вы** — увішны, быстры. *Паспеіць зробіць, ён на работу хапліва.*

**Харчаваць** — карміць, утрымліваць. *І адзяваюць, і харчуюць іх там.*

**Харчавіты** — ешчы. *Парсючок харчавіты — усё есь.*

**Харчоўка** — харчы. *Харчоўку сваю бяры, не забудзься.*

**Харчыцца** — харчавацца. *Ці хрэн, ці гарчыца, абы нечым харчыцца.*

**Хвалько** — выхваляка. *Хвалько сам сябе хваліць.*

**Хвараваты** — нездаровы, падупалы. *А Любка гэта хваравата́я.*

**Хваросце** — асцё. *Такое хваросце ўесца ў косці.*

**Хваросціць** — лупцаваць розгай, дубцом. *Матка яму хваросціць па спіне, а малы ня плачаць, упар такі.*

**Хварун** — які часта хварэе. *А мой меншак такі ўжо хварун, з хваробы не вылізаіць.*

**Хварэц** — хворы, нядужы. *У гэтым дварцы — усе хварцы.*

**Хварэць на пана** — запанець, грэбаваць чорнай працай. *Нешта ты рана захварэў на пана.*

**Хвась** — гонар, задаванне. *За хвась маіць, што ён начальнік. Граззю гразь, ды якая хвась.*

**Хвашча́нка** — вяхотка, мачалка (звычайна з хвашчу). *Чуць адшаравала кацёл хвашчанкай.*

**Хвінтос** — фіга. *Хвінтос пад нос, а не грошы.*

**Хіба** — бяда, напасць, пошасць. *Прыходзіць да нас ужо хіба. Яго хіба пахібіла.*

**Хлебнік** — хто дае хлеб, спрыяе зарабляць хлеб. *Конь — хлебнік, а каровам усё пад хвост пхаюць, а пасля кароў за хвост цігаюць.*

**Хлебнічкі** — печыва. *Хлебнічкі пякуць з макам — рыхлыя такія булкі пірад печчу.*

**Хліба́ла** — слабая страва, посная. *Аб гэтым хлібалу ты скора есці захочаш.*

**Хлудаваты** — нязграбны, вуглаваты. *Хлудаватая дзяўчына, як конь ламавы.*

**Хлябіна** — бохан. *Хлябіну на стол — еш, хоць пуза расперажы!*

**Хля́па** — мокры снег. *Такая хляпа, аж дарогі не відаць. Хляпіць пачало яшчэ зрання.*

**Хляхатаць** — кіпець. *Вада ўжо хляхочаць, скора бульба зварыцца.*

**Хадзіць як непадоены** — непрыкаяны (па-ўшацку — непрыкараны). *Жонка скруцілася, дык і ходзіць як непадоены.*

**Ходка (ход)** — хада, паходка. *Дзеўчына залёціна, у цябе ходка цёціна. Кот чуў Пецьку па ходу. Ходка — хадавітая, смелая, бойкая.* Яшчэ — выхадка. *У яе такая выхадка — здалеку пазнаіш.*

**Ходу (даць)** — уцякаць. *За хатуль — і ходу адтуль.*

**Хорша** — не спяшайся, памалу. *Хорша, тата, не ўдавіся! Хорша, базыль, не рассыпай табакі.* (Базыль — бальзамінка, са стручкоў у якой высыпаецца, саспеўшы, семя, табака.)

**Хоць душа вон** — конча, абавязкова. *Прывёз дровы — бутэльку гарэлкі, хоць душа вон, грошы не бярэць.*

**Храп-храп** — гукаперайманне. *Лёд на возіры храп-храп, цёк — і німа.*

**Хрупоніць** — хрумстаць. *Лысоня напоўніцу мурог хрупоніць.*

**Хрушчы** — праснакі, выпечаныя да хрусту, сухія. *Аржаных хрушчоў напякуць, у істопку пакладуць.*

**Хрыпка** — хрыпата. *Хрыпка на грудзі села.*

**Хры́пы** — клапаны ў лёгкіх. *Усе хрыпы заціналоцца — астма.*

**Худое** — поснае, без закрасы. *Дзякуй Богу, наелася й нехудога.*

**Хукаць** — дыхаць, каб сагрэцца. *Хукай на рукі, каб адыйшлі.* Яшчэ — баяцца дыхнуць на каго. *Яна хукаіць на рабёнка, не нахукаіцца.*

**Ху́кі** — пара ад выдыхаў у настылай будыніне, на паветры. *У хаце так зябка — хукі йдуць.*

**Хуры́м** — сакрэт, таямніца. *Я табе пад хурымам гэта кажу.*

**Хутра** — кажух, футра. *У цябе хутра таўстая, цёплая.*

**Хэнць** — ахвота. *Моца ёсь, ды хэнці мала.* (Польскае chęc — ахвота.)

**Хэрцполька** — дужа імклівыя скокі. *Ад хэрцпалькі ўцякуць усе болькі і ўсе суроні пусцяцца ў скокі.* (Herz — сэрца — ням. й ідыш.)

— Хлеба.
— Падскоч да неба!

— Хлеб-соль!
— Ядзім ды свой.

Хадзіць на дужкі (у пераняжку).

Хадзіць у панібрацці.

Хадзіць цыганскага барца (барукацца).

Хай бы ўжо ты пнём радзіўся, хоць бы свіння зад пачасала.

Хай жа Бог даець Анэлі і ў касцеле, і ў пасцелі.

Хай жывець, хоць ей канца не будзіць.

Хай ім вочы арак павыідаіць!

Хай носіцца, дзярэцца, на новая бярэцца! (Калі даюць абнову.)

Хай па ім вошы ходзюць, каб я пайшла к яму на хаўтуры.

Хай са святымі адпачываюць і нас дажыдаюць (адыходзячы з могільніка).

Хай табе вочы вялікі (у ілбе) стануць, як табе маё ўсё вяліка.

Хай той плачаць, хто бярэць, хай той скачаць, хто йдзець.
Хай у вас будзіць не спіта, не з'ета! (Пажаданне.)
Хамут са старой кабылы.
Хапай, пахаплівы, ядры, слівы (хуткамоўка).
Харош, як свіння ў дож.
Хата рагата.
Хацеў зробіць аграблі, а выйшла вешалка.
Хачу дамоў, як вады напіцца.
Хваціў кашу шылам.
Хітры дурань.
Хлеб на стале — рукі свае.
Хлеб спорны, калі з прываркам.
Хлібай, не дбай, хоць жыдка, ды многа.
Ходзіць, як конь па кукурузі.
Хоць альховы, ды смаляк.
Хоць ваўком называй ды штодня па парасёнку давай.
Хоць ваўкоў ганяй (прастора ў хаце).
Хоць вёрст за трыста — адна задрыста.
Хоць вочы на кулак пратры — нічога (ніякай увагі).
Хоць гарохам у лоб страляй (упарты).
Хоць гол, ды войсцер.
Хоць да Кракава, усё аднакава.
Хоць з вадой, ды не з бядой.
Хоць за вала, абы дома не была.
Хоць за вала, ды запаўзла.
Хоць кісла, назад не піравісла.
Хоць наўздагон, ды навыперадкі.
Хоць не палітычна, затое пажытычна.
Хоць не цішком, ды вечарам.
Хоць позна, ды козна.
Хоць позна, ды навозна (пра добрую вячэру).
Хоць сабачына, абы вочы не бачылі.
Хоць сучку, абы грошы кучку (узяць жонку).
Хоць ты яму на язык стань (балбатлівы).
Хоць у хвою галавой (безвыходнасць).
Хочаш мець злосніка — пазыч грошы.
Хто відэльцáмі, а я сваімі пальцáмі.
Хто вядзьмак, у тога крапіва на дварэ расцець.
Хто дарогу пытаіць, той не блукаіць.
Хто доўга спіць, той доўг наспіць.
Хто дуж, той лепш.
Хто з прыносам, а хто з першым носам.
Хто з языком, той з пірагом.
Хто капейкі не беражэць, той сам яе не варт.
Хто курыць, за тым чорт шкурыць.

Хто не йдзець, той галіцца, а хто зойдзіць, той каіцца (замужжа).
Хто ня быў пастухом, той і гаспадаром ня будзіць.
Хто пашаць, той пляшыць, хто гандлюіць, той гаруіць.
Хто перабіраіць, той пераміраіць.
Хто рана ўстаець, таму хлеба не стаець.
Хто сірату пажалеў, той і бацька.
Хто хлеб носіць, той есці ня просіць.
Хто цешчу ня б'ець, той на тым свеці зайцаў пасець.
Хто чаго не любіць, тое таму будзіць.
Хто чаго хочаць, той таго даскочыць.
Хто чужое не шануіць, той свайго не маіць.
Хто яго абманець, той на тачылі мора пераплывець.

**Цабэрак** — тоўсты, няўвішны. *Як яму, такому цабэрку, на работу далёка йсці.*

**Цалёўка** — дошка. *Паветку ababілі цалёўкамі.*

**Цалкі́** — цэлая, нярэзаная бульба. *На вячэру зварым цалкі.*

**Цацотка (цаца)** — напорыстая, прабіўная, капызістая. *Ты са сваей цацоткай яшчэ й наскачашся й наплачашся. Яна добрая цаца.*

**Цвердзь** — цвёрдасць, трываласць. *Лёд ужо — самая цвердзь.*

**Це́лепень (целяпень)** — няўклюда, няўдаліца.
*Такі-сякі целяпень,*
*А ўсё ж было паляпей.*
*Такі-сякі, абы быў.*
*На гарэлку зарабіў.*

**Целяпаць** — плявузгаць. *Толькі языком целяпаіць, а нічога не робіць.*

**Цемнік** — хмыз, кустоўе цёмнае. *Цемнік абступіў сцежку, аж страшна йсці.*

**Ціплюкі** — кураняты. *Варона ціплюкоў хапала.*

**Ціхама́** — употай, цішком. *Гэта вы з маткай усё ціхама робіце.*

**Ціху** — не хвалюйся. *Ціху, пойдуць дажджы, бульба атойдзіць.*

**Цмыгнуць** — грымнуць, ударыць. *Як цмыгнуў, дык ён і сеў.*

**Цот-у-цот** — дакладна, адно ў адно. *Доўг вярнуў цот-у-цот.*

**Цу́ркі** — аскялёпкі, кавалачкі. *Збан на дробныя цурачкі разбіўся.*

**Цыгана сагнаць** — перакусіць, нешта ўзяць на зуб. *Еў не еў, а ўсё ж цыгана сагнаў.*

**Цы́хна** — пранырлівая, дападлівая. *Цыхна скрозь дападзець, скрозь угледзіць.*

**Цэп** — прылада малаціць снапы. Цэп складаецца з доўгай жэрдкі — цапавільна, з бічоўкі — кароткай і цяжкой пабаешкі, якая якраз малоціць, б'е па снапах, цапавільна мацуецца (звязваецца) з бічоўкай угарынай (гэтая перавязка бальшыной рабілася з вугровай шкуры для трываласці). *П'яны як цэп. Малацілі ў тры цапы, змалацілі паўкапы.*

**Цюпка** — ежа з хлеба, цыбулі, залітых алеем. *Хлеба пацюпіць (пакрышыць), цюпку сабе зробіць і есь.*

**Цягнуць** — перабівацца, даваць рады. *Ахрап'ем бы таксяк цягнула.*

**Ця́жба** — цяжар, непамыснасць. *Такую цяжбу пірансіць чалавек, і паспагадаць некаму.*

**Цянькі** — глухія сцежкі. *Тут самыя цянькі, толькі ваўку хадзіць. І пайшоў цянькамі, не азіраючыся.*

**Цяпельца** — вогнішча. *На пасце развядзём цяпельца й грэімся.*

**Цяпло** — агонь (святло). *Запалі цяпло, а то ўжо цёмна стала.*

**Цяўкун** — брахун, гаўкала. *Сабака нічога, добры цяўкун.*

**Цяціўе** — каліўе. *Пад ліпкамі выкапала, бульбы німа й меньшанкае цяціўіка.*

Цалое, малое, большае напалам.
Цапом-лапом (рабіць нешта).
Цаца, цаца ды ў кішэнь, а дагонюць ды ў каршэнь.
Ці кіем, ці палкай, адной паганялкай.
Ці кол, ці пятля — прыміць зямля.
Ці пнём па саве, ці савой аб пень.
Ці так Сцяпан прапаў, ці гэтак Сцяпан прапаў.
Цiраз мора катоў хвост (восілка ў вядры).
Ціхая свіння глыбока рыіць.
Ціхім крадкам.
Цішыня, як ліхая лета.
Цыбуля, як тынок.
Цыган прадаець рукавіцы й кажух з Каляд.
Цыгана ад душы адагнаў (перакусіў).
Цыганскі закон: ёсь — жары, німа — мры.
Цыганскі пот грэіць.
Цыцы-брыцы (пра хварсістых).

Цябе таўкачом у ступі не спаймаіш — жых ды жых.
Цягніць адзін у боб, другі ў гарох.
Цяжка толькі пачаць, а кінуць ураз.
Цякло, цякло і лягло пад сцякло (рэчка й лёд).
Цялятка ў срачцы, а ён з абушком бегаіць.
Цярпі, Грышка, спасён будзіш, а не выцерпіш, чартом будзіш.

**Чабох** — бух, бабух (гукаперайманне).
*Дзед бабу чабох на дно,*
*А мне, дзядзька, й тут ладно.*
Яшчэ — чухвост.

**Чалядзі́на** — фанабэрлівая, пыхлівая. *Чалядзіна — шастом галаву не дастаць.*

**Чапурыцца** — прыбірацца, вымоджвацца. *Пакуль чапурылася, бульба зварылася.*

**Чаранaчкі** — тронкі. *Чаранaчкі касцяныя абламаліся ў нажы.*

**Чарано** — чарэнь, самае гарачае месца на сярэдзіне печы. *На чаране спіну выграіш, і ўся хвароба пройдзіць.*

**Чараўніцтва** — чары, вядзьмоўства. *Я не ўмею ніякага чараўніцтва, я толькі да Бога, я нічога не памагу, што твой мужык да другой ходзіць.*

**Ча́ркат** — крык, гвалт, базар. *Сарокі чаркат паднялі, некага высачылі.*

**Чарналяпка** — злая (лічыцца, што ў злога сабакі чорна ў ляпе). *І сам, як сабака, і жонка чарналяпка, іх і злодзя баіцца.*

**Чаропкі** — пра дзяўчат. *Адны чаропкі ў Ляксея, каб хоць адзін ды сын.*

**Чарцей калыхаць** — падрыгваць, ківаць нагамі, седзячы. *Сядзі як чалавек за сталом, не калышы чарцей.*

**Чарэп'е** — чарапкі, цурачкі. *Буталь пабіўся, й чарэп'я ляжыць.*

**Часадла** — грубы грэбень часаць карову, каня. *Вычасалі часадлам на вясну, аж у каровы бакі ільсняцца.*

**Часты́** — пачастункі, частаванне. *Часты там такія былі, што дасюль есці ня хочацца.*

**Чачэніць** — гаварыць, слухаючы толькі сябе. *Расчачэнілася — слова не дасць уставіць.*

**Чмур** — балагур, зух пагаварыць, вясёлы. *З гэным чмуром са смеху памром.*

**Чомбар (чонбар)** — чабор. *І чомбар у лесе дзікі на ўзмежках. Даўней чонбару назбіраюць і заварываюць.*

**Чоснак** — часнык. *Чоснак добра ў кілбасу ўкрышыць, тады яна кілбасой пахніць.*

**Чосу даць** — добра ўваліць, дабіць нешта. *Даў чосу ботам на скоках, аж яны ашчэрыліся.*

**Чохаўка** — чханне. *Як напала чохаўка, нічым запыніць не магла.*

**Чохнуць** — лінуць. *Дождж як чохнуў, здалося, што неба абваліцца.*

**Чуба́сіць** — ліцца, старацца. *Дождж гэтак чубасіў, аж усё ў руччы гудзела.*

**Чу́блы даць** — прачуханца даць, усыпаць. *Яму б чублы даць, каб суцішыўся вачапор.*

**Чувіль** — танец з маладосці мамы. *Скакалі й прыпявалі: «Чувіль мой, чувіль, чувіль навіль, віль, віль, віль».*

**Чуж-чужына** — чужы, далёкі. *Каб хто дзе свой, адна чуж-чужына.*

**Чулы** — здаровы, дужы. *Як бы яна ўжо была чулейшая, дык хоць бы козачку кінула на племя.*

**Чуні** — абутак. *Нейкія чуні ўздзеў, вайлакоў не было.*

**Чурчом** — ручаём. *Са стрэх чурчом ліецца.*

**Чутнейшы** — гучнейшы, галаснейшы. *У лагеры песні складалі, якія чутнейшыя былі, якія не зайшліся.*

**Чуць рай** — добра сябе пачуваць. *Як надзену вязанку пад фуфайку — рай чую.*

**Чылінда** — няўмека, гультайка. *За добрым мужам і чылінда жонка.*

**Чысця́дзь (чысцяк)** — чыстае месца, расцяроб. *Малапамалу прадраліся з гушчару на чысцядзь.*

**Чычы́ліць** — есці, грызці, тачыць. *Малыя так чычыляць хлеб, як тыя мышы.*

— Чые дзеці?
— Янопавы.
— Хто Яноп?
— Я Яноп! (Хуткамоўка.)

— Чым вас частаваць?
— Чым вароты падпіраюць.

Чаго б сляпы плакаў, каб сцежку бачыў?
Чалавек відаць зімой без кажушка, летам — без кароўкі.
Чалавеча, ці ёсь у цябе галава на карку?
Чалавечую галаву тапі, а конскую ратуй.
Чаму як пазіваецца, рот разіваецца?
Чарачкі ды румачкі давядуць да сумачкі.

Чарка малая, як рыб'я вочка.
Чмут-беламут, у чортавы лапці абут.
Чорная авечка й белая авечка, а дух адзін.
Чорт на форму ўзяў (памёр).
Чорт не адны лапці стаптаў, пакуль такую пару падабраў.
Чорт яму казаў (не зробіць, не захоча).
Чудно бабская судно: уніз дзюркай, а не цячэць.
Чужая хата горш за ката, свая хатка — родная матка.
Чужая яечня, яна не вечна.
Чужога на локаць не давялося.
Чужога рабёнка хоць маслам маслі, а ён усё роўна дзёгцем смярдзіць.
Чужое дабро возьміць (бярэць) за рабро (вылезіць праз рабро).
Чужой бядой радавацца.
Чужымі клёцкамі сваіх Дзядоў памінаць.
Чужыя жонкі — безгалоўя, сон даўгі — на нездароўя.
Чужыя слёзы паб'юць бел-камень, паб'юць і лозы.
Чым гараваць, лепі жартаваць.
Чым поршы, тым горшы.
Чым які пераход, лепі ўброд.

**Ша́вера (шаць)** — зброд, зборня. *Уся шавера зваталжылася зусюль. Адна шаць кругом, зваліся людзі.*

**Шал** — вясёлы настрой, дуронасць, неадуманасць. *На яго сегоння шал напаў, ня можаць суцішыцца.*

**Шалах** — будан. *Выйшлі на баравіну — шалахі; будкі з бярэзніку пад цвет лесу.*

**Шалды́-валды́** — гукаперайманне. *Яна шалды-валды й прывалачэцца, дзе гарэлкай пахніць.*

**Шалманка** — забягалаўка, піўніца. *У шалманкі гэты, дзе гарэлкі, ходзюць піць.*

**Шалых** — шусь, нырк. *А лісіца шалых у сваю норку і хвастом накрылася.*

**Шаля́-валя́** — працаваць з неахвотай, ленавацца. *Кажны хочаць, каб пражыць балмаччу, не робячы, шаля-валя, а другі, як з тапара, каторы робіць ад шчырасці.*

**Шанасць (шанась)** — увага, дагляд, пялегванне. *Увесь свой век у шанасці зжыў. Шанась такая, як воўк кабылу шанаваў.*

**Шапарну́ць (шапярнуць)** — нашаптаць, сказаць шэптам. *Нехта ім шапярнуў, што пачынаецца аблава.*

**Шапортацца** — ціха варушыцца, красціся. *Чую, нехта шапортаецца ў палым лісці, аж гэта вожык.*

**Шаргункі** — бомы, званочкі. *Конь наўскапыта, а шаргункі пад дугою аж заходзюцца ад смеху.*

**Шароцце** — рабацінне. *Увесь у шароцці — вачэй не відаць.*

**Шарсцень** — шэршань.

*Не ўцякай, дзядулька-шарсцень,*
*Не турбуй бабіных касцей.*

**Шарсцінне** — валасы, поўсць. *У Максіміхі сучка ашчэніцца, яна бярэць яе ў хату, пасля ўся ў шарсцінні ходзіць.*

*А зямелька чарназём,*
*Мы гнаёчку падвязём.*
*А як нарасцець бацвінніка,*
*Як у дзеўчатак шарцінніка.*

**Шарханýцца** — варухнуцца, памкнуцца. *Тут ні ступі, ні шарханіся, як у няволі якой.*

**Шарэнніка** — досвітак, калі неба толькі шарэць пачынае. *Устала на шарэнніку, дык і ўсё паспела.*

**Шасці́ць** — чыхвосціць, даваць прачуханца. *Як сабаку ты ні шасці, ён не зменіць паўсці.*

**Шасцярэнь** — чалавек, у якога шэсць пальцаў, звычайна на руцэ. *Дзіва, што ейны шасцярэнь ня бедны, шасцярней ухопіш болі, чым пяцярней.*

**Шáты-мáты** — балбатня, крык. *Спачатку ласачка-ласачка, а послі падняў свае шаты-маты.*

**Шахá** — навес, дашак на слупах. *Лён ляжыць пад шахой, дождж яму ня страшан. Куды ні глянь — шохі ды шохі.*

**Шахарэнне** — перапалох. *К прыезду начальства шахарэнне навялі, усіх на ногі паднялі.*

**Шворыцца** — калупацца, капашыцца. *Шворыцца ў сваім трап'і.*

**Шкілэндзік** — недалуга, шкет. *Яшчэ й шкілэндзік пад нагамі круціцца.*

**Шкляны бацька** — калі хто засціць, у яго пытаюцца: *«Што ў цябе — шкляны бацька?»*

**Шкляныя клёцкі** — клёцкі без душ (мяса), забеленыя малаком. *Сягоння шкляныя клёцкі — скароміна скончылася.*

**Шкурні́** — несамавіты абутак. *Абы-якія шкурні ўсторкнуў, усё ж нага не босая.*

**Шкуры́ць** — дапякаць, чапіцца да некага. *Толькі шкурыць і шкурыць мальца, спакою яму не даець.*

**Шлым-шлым** — цяжка йсці, цягнуць ногі. *Ідзець Аπёнчыха, п'яная, ногі шлым-шлым, а за ей Ключончыха.*

**Шлында (шляйка)** — які шляецца без справы. *Шлында-блында ўсюдых пасняваіць. Шляецца шляйка, як свіння незапёртая.*

**Шлындаць** — хадзіць, ступаць. *Старая яшчэ на нагах, троху шлындаіць.*

**Шляк** — паласа на тканіне. *А хустка на ей уся ў пулятых шляках і спадніца шлякатая.*

**Шляны** — валацужлівы, беспрытульны. *Забралі б такога шлянага ў міліцыю.*

**Шляпота** — слата, дождж са снегам.

*І дождж ідзець, і снег мяцець — шляпота.*
*Нашым дзявулькам жаніціся ахвота.*

**Шляхтаваць** — адбрываць языком, сарамаціць, лаіць. *Так ужо шляхтаваў, а яму ўсё як аб сценку гарох.*

**Шляхтун** — абыходзівы, са шляхетнымі манерамі. *Шляхтун умеіць лёстачкі падпусціць.*

**Шляхты** — шляхта. *Шляхты хадзілі маліцца.*

**Шматавата** — досыць, багата. *Унучыкаў у мяне шматавата, дзякуй Богу.*

**Шорхат** — шум, варушэнне. *Пачуў гэты шорхат і стаіць да дарогі мордай. Тады я выйшла, зайшла яму наперад, стаяў ён, баўтаўся-баўтаўся й пайшоў, ківаючыся.*

**Шпы́ркі** — так клічуць авечак. *Шпыркі, шпыркі, ідзіце папіце.*

**Шпэтны** — хударлявы, падцягнуты, паджары. *Я ж быў шпэтненькі чалавек, цяпер ужо дык пабучнеў (патаўсцеў).*

**Шта́ба** — завала, кантаваная закладзіна. *Ужо штабай заложана, таргаваць ня будуць* (нямецкае stab (stabe) — посах, кій).

**Штандарты** — брусы, падкладзіны, на якія мосціцца падлога. *Штандарты давялі, каб падлога роўная была.*

**Шты́бчыць** — ісці рухава, часта ступаючы. *Во як штыбчыць да свайго сюбара, аж малання з-пад хваста свішчыць.*

**Шуметнік** — сметнік, месца, дзе высыпаецца смецце. *На шуметніку куры капаюцца.* (Па-ўшацку шума — смецце. Цікава гучыць: не вынасіць шуму з хаты.)

**Шупець** — выдаваць глухія гукі ад удару сякерай. *Гнілое бярно толькі шупіць, колькі ні бі па ім.*

**Шусь** — гоп, боўць. Яшчэ — шавыр. *Шусь пад лёд — і німа яго. Шавыр на печ і грэецца.*

**Шуя́** — малеча, недалеткі. *Расступіцеся, шуя, бо цяпер станцую я!*

**Шчабятуха** — ласкавы эпітэт да чаркі з гарэлкай.

*Ай, чарачка-шчабятуха,*
*Ня йдзі міма, а йдзі ў бруха.*
*З кілішэчка цячэць,*
*Каля сэрца пячэць.*

**Шчавульнік** — конскае шчаўе. *Гарод шчавульнікам парос, гаспадара німа.*

**Шчамель** — чмель. *Пачнець кеміць, як свой шчамель ушчэміць. Што ты, як той шчамель, шчэмішся?*

**Шчарбыль** — шчарбаты. *Шчарбыль-гарбыль дрысь у рот (цвялілка).*

**Шчоглае** — дрэва, якое лёгка колецца. *Шчоглыя дровы лёгка біць.*

**Шчурка** — мышка. *У дзіцячай песенцы кошачка плача й жаліцца:*

*Сам кухар смятанку злізаў,*
*На мяне — кошачку сказаў,*
*Маніўся мне лапкі пабіць.*
*Чым жа буду шчурак лавіць?*

(Польскае szczur — пацук.)

**Шчырнік (шчырніца), шчырун (шчыруха)** — які шчырэе для каго-небудзь, спагадае. *Душа матчына — шчырніца вечная. У шчыруна душа без дна.*

**Шчэнь сляпая** — малое (з грэблівым адценнем). *Ах ты, шчэнь сляпая, чаго захацеў.*

**Шчэрыцца** — усміхацца. *Ты мне зубы не шчэр* (не галі). *І зубашчэр ужо зубы ашчэрыў.*

**Шчэццю стаяць** — цвёрда, упарта. *Ён за хаўрусніка шчэццю стаіць.*

**Шыркі** — шырыня. *Такія шыркі, як гэты дошкі.*

**Шыхаць** — шаптаць. *Бабы зашыхалі: вун ён ідзець.*

**Шэды** — сівы, шэры. *Ён ужо, як воўк, шэды, а ўсё кавалерыцца.*

**Шэжакам** — вожыкам. *Валасы шэжыкам стаяць, вочы папуляў.*

**Шэрае плячо** — апора, падмога ў шэрым побыце. Мама часта казала: *«Ты маё шэрае плячо».* Казала, вядома, навырост. І ўсё ўспамінала свайго Івана, бацьку майго: «Даўней нясеш ваду — на помач, сена — ён. А цяпер нясеш, нясеш і данясеш — ніхто не зменіць плячо».

**Шэрас** — шэрань, іней. *Такі шэрас, дрэвы ўсе пааб-шэрасавалі.*

**Шэшарам хадзіць** — пыхліва, выхваляста. *Пархі троху падняў і ходзіць шэшарам.*

— Што казе будзіць, як год прыбудзіць?
— Другі пойдзіць.

— Што на вячэру?
— Цяцеру.

— Што на вячэру?
— Яглі —
Пацалаваліся й спаць ляглі!

Што зімой ножкай коп, тое летам ручкай хоп.
Што на яго найшло, холад ці цяпло?
Што напоршы, дык нагоршы.
Што не гожа, тое не прыгожа.
Што праўда, тое не грэх, што торба, тое не мех.
Што такое — два пакоі, а жыць недзе.
Што шкадуіш на пекара, аддасі на аптэкара.
Шчаслівенькае табе ўсё ўперад! (пажаданне)

**Юга́** — завіруха, кудаса. *У хаце ў нас Бог жывець, а на вуліцы такая юга — свету белага не відаць.* (Украінскае юга — сухі туман, імга, мроіва.)

**Юлёвы** — фіялетавы. *Капу пахварбавалі ў юлёвае.*

**Юр** — жарсць, пал. *Каму тое, каму сёе, а мне юр на ўме.*

**Юргіня** — вяргіня. *І юргіню ўторкнула, усё ж букет весялейшы будзіць.*

**Юрок** — ваўчок. *Малы круціць юрок і сам, як юрок, круціцца.*

**Юры́ць** — распальваць жарсць. *Калі юрыць, дык і пад хвастом гарыць.*

**Юшна** — калі ёсць юшка. *Рыбаку хоць ня рыбна, дык юшна.*

Юшка пахніць не вадой, а рыбай.

**Яві́цца** — нарадзіцца. *Ягняткі явіліся, бяры ягнёнка гадуй.*

**Ягоднік** — кустоўі ягадаў. *Схавала ў бярозавая балота ў Пчальніку* (мясціна), *ягоднікам гэтым прыціснула клунак.*

**Яджгур** — ёрш. *Прыдзіць пара, падпусцім і яджгура.*

**Ядкі** — уедлівы, зацяты. *Ядкі ён на зуб — лепі не трапляйся.*

**Ядленец** — ядловец. *Ядленцу ў цяпельца кініш — дым салодкі йдзець.*

**Ядлівы** — які смачна есца. *Сена гэта ядлівае, шкода, што малавата яго.*

**Ядоміна** — ежа, нешта з'ежнае. *Такая ўжо доля ўдовіна, што й спагаднае слова — ядоміна.*

**Ядун (жор) напаў** — празмерны апетыт. *І гэткі ядун напаў на яго, што есь, есь і ўсё не наесца.* (Відаць, і ядун, і жор, і дрыстун, і калатун, і сонніца — назовы адпаведных паганскіх божышчаў.)

**Яешня ў калена** — шмат яек, сала й кілбас. *Дарагому гасцю яешня ў калена.* Яшчэ — на дванаццаць вок.

**Язычніца** — языкатая, абгаворлівая. *У язычніцы язык не забаліць усіх абгаварыць, абсэндзіць.*

**Як вадой разліцца** — знікнуць раптоўна. *Яна як вадой разлілася, усе й агледзіцца не паспелі.*

**Як да бобу** — няўцям. *Да яе гэта як да бобу* (не даходзіць).

**Як нагам стаць** — нешырока. *Пракапала сцежачку ў снезі як нагам стаць.*

**Як у даску** — гучна, суха. *Малы кашляіць як у даску.*

**Ялаваты** — калючы, нешчаслівы. *Доля мая ялаватая, аддалі ў сяло беднаватая.*

**Яма** — падполле, выяміна пад падлогай (можа быць абкладзеная цэглай) для захоўвання гародніны. *Зіма была такая лютая, што бульба ў ямі змёрзла.*

**Яравыя яблыкі** — летнія (папінка, грапштэйн). *Антонаўку можна мачыць, яна зімняя, а яравыя яблыкі не мочуць.*

**Яруха** — самагонка, бражка. *Усе бабы хлібалі б, пілі б без краю, заліліся ў гэтай гарэлцы, наробіўшы якой ярухі. Нейкай ярухі заробіла ў дзежцы.* Яшчэ — злая, кусачая. *Муха-яруха, ці будзіць заўтра суха?*

**Ясачка** — бліскцінка, іскрынка. *Хусцінка ў ясачкі, ідзець маладзіца — аж сама свеціцца.*

**Ячменішча** — дзе зжалі ячмень. *Ейныя індыкі ходзюць па нашым ячменішчу, а яна й вухам не вядзець.*

Я не я, а панская свіння.

Я табе пакажу, на чым свіння хвост носіць.

Я такую ласку і ў жыда знайду.

Ягадка — мана, арэх — сатана, грыб — ежа.

Ядуць госці, ядуць, як мяцёлачкай мятуць: на стале ні крошачкі, пад сталом ні костачкі.

Язмін цвіціць, дык суніцы ёсь.

Язык без косці, што захочаць, тое й хвосціць.

Язык у році, як чорт у балоці.

Языковае мліва негадзівае.

Языком абмываць (абгаворваць, пляткарыць).

Языча, языча, сабе добра не пазыча.
Як брысік (сыты).
Як бы ні мучыўся, абы добра памёр.
Як была ў мяне кабылка мышастая, па вярсце ў гадзіну шастала.
Як бязрукаму рукавіцы.
Як вокам паглядзець (ураджай).
Як вядзецца, дык і на шчэпку прадзецца.
Як да Кітая басанож (далёка).
Як е, так і вуе.
Як жыта жнуць, тады баб людзьмі завуць.
Як жэнюцца, сват садзіцца на каня, а чорт на качаргу.
Як з піпкі выгарала (ураз).
Як за сцену (адняло, перастаў).
Як за сябе закінуць (шклянку гарэлкі).
Як забачыш, дык заплачаш.
Як затрапечацца ліст на асіні, пачуіць конь сілу.
Як зяць на парог, дык цешча за яйцы.
Як кабылі чаравікі (пасуе).
Як конь праз дугу, глядзіць на каргу.
Як мухамора аб'еўшыся.
Як на Маланніна вяселле (багата).
Як на мокрае цяля наваліліся.
Як на моры без вясла.
Як на шпігах сядзець (на кпінах, прасмішках).
Як не абмыўся маладзік, дожджу не джжы да поўнаты.
Як п'ян, дык капітан, а як праспіцца, свінні баіцца.
Як п'яны мужык, так і смерць знойдзіць прычыну прыкапацца.
Як падмажаш, так паедзіш.
Як пень у лесе рос.
Як пойдзіць Кітай, дык усё кідай.
Як пойдзіць на пройграш, дык і старца лябуць.
Як просім вочы сакаліныя, а як аддаём, тады савіныя.
Як пуп ссінеіць, абы напіцца.
Як росту німа, дык і толку німа.
Як рыдзель (сыты).
Як са свінні пісар.
Як свінны татка (пра замерзлага, скукожанага, нязграбнага).
Як соль на вадзе, прападзем у бядзе.
Як Сора сказала, так Мэндаль запішаць.
Як спалася, ці суха ўсталася? (Пытанне да малога.)
Як столь зубамі не грызла (ад злосці).
Як сыр у маслі купацца.

Як топішся, дык і за брытву ўхопішся.
Як трахану, дык аж чэрці пасыпюцца.
Як у Бога за пазухай.
Як у бот нагой (на ўсё гатовае).
Як у вока ўляпіў.
Як у лёд (гатовы куды-небудзь).
Як у мядзвежжу вушку (утульна).
Як у прорву якую (ідзе прахам).
Як увойдуць злыдні на тры дні, дык і за сем гадоў не выганіш.
Як урыты (стаіць).
Як устаніць, дык і неба дастаніць.
Якая вада ні гразная, чысцей за нас, яна нас абмыіць, а мы яе не.
Якая жонка ды не жонка, а ўсё ж лепі за парасёнка: хату адчыніць і зачыніць.
Які бацька, такі сын — праматаліся саўсім.
Які груган, такая й песня.
Якія мы самі, такія й нашы сані.
Ямкі тыя ёсь, дзе вочы былі (старасць).
Яму мазгі выпетрыла.
Яму не калёсы занасіць (хуткі ва ўсім).
Яму стала ні па каню, ні па аглоблях.
Яна баба нягідкая, як конь.
Яна будзіць яго, як чорта на вілах насіць.
Яна здаровая, як ласіца, белая морда — прыгожая баба.
Яна ўся з хітрасці сшыта.
Яно ж не з лапцем варылася, калі лапаць укінуць, і то смачней.

Вушацкі словазбор —
Спатканне й развітанне,
Успамін і напамін,
І одум валуноў,
Рассыпаны чабор,
Як жар,
Са жмені ранния,
І выраевы клін
Ззімелых палыноў...